# УЗДЫМ

1928 кн. 2

ДРУГІ
ЛІТАРАТУРНЫ ЗБОРНІК
БАБРУЙСКАЙ ФІЛІІ
„МАЛАДНЯКА"




БАБРУЙСК 1-9-2-8

# УЗДЫМ

ЛІТАРАТУРНЫ ЗБОРНІК
БАБРУЙСКАЙ ФІЛІІ „МАЛАДНЯКА“

*Кніга другая.*

ВЫДАНЬНЕ
Бабруйскай Акруговай Філіі „Маладняка“
Бабруйск 1928 год.

*Рыгор Бахта.*

# Падарунак на пазыцыі

**(Апавяданьне)**

Шаснаццаты. Вясна. Дні то шэра-шызыя з туманамі, брызготаю, то ясныя, сіня-блакітныя. Дружна сышлі сьнягі, а за імі ўвасьлед яшчэ дружней таго зьбегла вада.

Толькі дзе-ні-дзе яшчэ балоты блішчэлі люстэркамі выжараў, дый тыя станавіліся ўсё меншыя і меншыя—драбнелі.

Дарогі абшэрхлі. Стужала зямля.

Час клікаў канчаць недаканчанае і перарванае надыходам халоднае зімы дзела.

І пазыцыя ачулася з першымі вешнімі прамянямі. Як мурашкі варушыліся людзі. Падвозілі, устанаўлялі батарэі. Майстравалі склады. Умацоўвалі акопы. У вайсковыя часьці падганялі сьвежых людзей—камплектаваліся. І ўсё гэта сьціха, няўпрыкмет. Каб вораг не заўважыў, не раскусіў хітрыя пляны. У вакопах стаялі вартаўнікі, у небе паблісквалі бляшнявымі бакамі «каўбасы», што ў доўгі рад паабапал пазыцыі выстраіліся, каб сачыць за кожным рухам таго, каго звалі ворагам. Часта ўсьцяж пазыцыі ціха і важна пралятталі самалёты, часам рабілі, як ястраб над іржышчам, шырокія плыткія кругі, зорка віжуючы за тым, што ўнізе робіцца. Тады пачыналася ўзмоцненае тухканьне шрапнэлі. Чорныя і ружовыя дымкі каўтунцамі разьбягаліся па ясным небе. Ціха расплываліся, няўрознак раставалі. А самалёты кружыліся, крута спускаліся і зноў, чарпнуўшы паветра, коўзкім крылом крута—борым бралі ўверх.

Калі вылятаў насустрэч праціўнік, пачыналася кароткае і чоткае гаркатаньне кулямётаў, бы дзьве машыны шыць пусьцілі на міг у ход. Самалёты разьляталіся кожны ў свой бок. І зноў рабілася ціхім і ясным. Зноў пачыналі людзі перарваную на час работу—капалі, прыкрывалі, хадзілі адзінкамі, калёнамі, купкамі.

* *
*

Пазыцыя палка была ціхая, утульная. Направа бесперарыву грукатала. Там Фэрдынандаў нос—закатная пазыцыя.

Налева грукалі. Там Залатая Горка. На Фэрдынандавым носе пазыцыі ворагаў дзялілі нейкія 30, на Залатой Горцы—40 крокаў. Немцы сядзелі на самым грабянцы ўзгорку, рускія—на збочыне. Каб стрэцца з ворагам вачыма, немцы глядзелі зьверху, рускія—зьнізу. І цераз гэта праклята было рускім—ні адзін рух іх не прападаў ад варожнага вока. А тут яшчэ тэхніка нямецкая: грымелі мінамёты, татакалі кулямёты. І ўсё ўцэль, усё ўпапад. Трашчалі галоўкі, лілася кроў.

Дзесьці дзеньпрыдні прыбаўлялася сірот. А немцам і ня ў вус. Як бы сам чорт нейкі знарок выдумаў гэтую пастку на згубу людзям рускім.

А ў раёне палка ціха і ўтульна. Не знайшлося хітрага начальніка, які-б надумаўся пайсьці на „зблiжэньне“ і акопы тут самае блізкае дзьвесьці крокаў ад нямецкіх. А дзе і шэсьцьсот і нават восем. Немцы—народ, што жыве з разьлікам і не знайходзілі патрэбы кідаць на вецер набоі.

І звалі пазыцыю чуць не на паўфронта раем пазыцыйным. Толькі што ні дзень, то цадзілі цярэз галовы лёгкія гарматныя набоі. Ляцелі яны то адзіноткамі, то чародкай, адзін па адным, як журавы ў ключыку—па 4, па 6. Пелі ў адзін тон—мякка і лагодна. Тухкалі ці далёка за драцянаю загародзьдзю, ці ў тыле, у раёне батарэй—глуха і нястрашка, бы малацілі цапамі па тоўстых кулёх.

Але-ж заўсяголаў гэта—нічуць не непакоіць пехацінца. Гэта батарэйцы мераюцца сіламі, прыстрэльваюцца. Ну і хай. Гэта пакуль што ня сур'ёзна. І праводзілі сьпевы мэлёдычныя позірамі вясёлымі, трошкі кплівымі.

Частуйцеся... Частуйцеся, даражэнькія. Абы нас не чапалі.

* * *

Толькі раз моцна заныла акапінца душа. Пасапраўднаму заныла, аж сутарга прабегла па целу. Гэта ў сакавіку, калі налева, там за Залатой Горкай і далей загуў, заварушыўся, задрамцеў сьвет. Ноччу і днём усьцяж—праз тры пары. Апрыч густых працяжных рагаценьняў—гулаў у раёне палка гэта аддалося яшчэ выразнымі зыбаньнямі зямлі, бы нехта злосны асілак падабраўся пад яе пухкія грудзі, трос іх са здавальненьнем і ўсё загражаўся са смакам:

— Растрасу!

Гукі былі такія моцныя, хістаньні зямлі такія млосныя, што здалося, што і Фэрдынандаў нос і Горка Залатая змоўклі, стхарыліся перад жахам адчуваньняў яшчэ большага, яшчэ гразьнейшага.

Мо яно так і было. Часіна для немцаў была поўная трывог і апаскі. Абодва франты неўнарок зыбаліся і трашчалі. Ад лабавых атак Вэрдэну, Суасоні, Іпру, як пух

лёгкі, высыпаліся гострыя нямецкія зубы. Вайсковыя часьць за часьцю пераставалі быць тым, чым яны павінны былі быць—баявымі адзінкамі, іх моца высыхала, як выпараецца раса ў сухавею. А Вэрдэн, Іпр, Суасонь і іншае і іншае... стаяла на месьце гранітам цьвёрдым, непарушным і нават з часу на час пагражалася рушыцца цяжкаю лавай у наступ. Трэба было хаваць у сваіх руках ня толькі пазыцыі, а і ініцыятыву, гэты генэральскі фэтыш. А чалавечых мас было мала і раставалі яны.

Тры пары гула і стагнала зямля. Тры ночы нэрвова трапяталі клубкі сьвету ўсьцяж пазыцыі. Потым усё, як уцятае, заціхла, замоўкла, бы зачарованае. Атака не ўдалася. Немцы справіліся з шумліваю чалавечаю лаваю, што плыла, як повадка, наперад. Нязнанаю яшчэ дагэтуль тэхнікаю і сталёваю дысцыплінаю войск справіліся, разьвешаўшы дзесяткі тысяч цел варожых па дроту калючаму, адплыла заспакоеная хваля атакуючых.

Змоўклі Мядзіён, Дрысьвяты. А ціша на пазыцыі палка, як была, так і засталася.

* *
*

Пастараму тырчалі ў небе цэлыя ланцугі „каўбас"-- назіральных пунктаў. Як і раней час ад часу пелі лёгкія, фыркалі цяжкія гарматныя набоі. Але гэта ужо адчувалася, як нешта саусім далёкае, нешта ня тое, іншае як пазыцыя.

У пяхотных акопах было ціха, як ніколі наперад. Пацішэла выразна Залатая Горка. Зьнізіў тон Фэрдынандаў нос. Яшчэ ў заведзены час—раніцаю, днём і вечарам—марматаў нямецкі кулямёт: сьцеражэцеся, я яшчэ жыў і гора таму, хто пасьмеліцца сунуцца на зубы мне.

Але ўжо новыя гукі пачуліся з таго боку. Маўчаў заціята цэлымі днямі блёкхауз, маўчалі зьнямела мінамёты. А ў кустох на сонцы пачуліся шорахі ціхае хады ды людзкі прыдушаны гоман. Відаць было, што немцы мянялі свой прывычны патрыятычны доўг на няпрывычнае сонца і спакой. А вечарам, каля блёкхаузу плакала акарына, ды так жаласьліва, сьлёзна. І калі ўжо за тыдзень перад Вялікадня ў густым, выпадкова нязьнішчаным гарматамі хвайнячку заліўся разухабісты гармонік і хтось нейкі пайшоў выбіваць нагамі сьмелыя кругі, як счарованая глядзела руская застава.

Прыпомніліся дні, яшчэ нядаўныя і такія, здавалася, непаўторныя. Далёка яны, і цэлая эпоха гора і бяды адгарадзіла ад іх. Гора вымушанага і неапраўданага. Бо хіба ж тое, што дзеялася, было апраўданьнем: калецтва, разбурэньне, прыгнёт.. І назаўтра гармонік вырабляў ліхія пера-

боры. То рассыпаўся гульбой нястрыманай, то жальбой нямеранай заліваўся.

А рускія слухалі, як чары—начары, як прымху—звадніцу.

А потым па ўсяму палку слыхі пайшлі. Гіблае месца Гарбузаўка. Мэккаю стала. Ціха перабіраліся няглубокімі ходамі салдаты. Прыходзілі афіцэры. Прыходзілі і адходзілі. А гармонік гуляў, задзірачыў, гукамі-перакатамі расплёхваўся. Бы ня пальцы чалавечыя хадзілі тут па ім, а некая нявідочная чароўная сіла прыгоцвала.

Потым—адзін раз:

— Гэта сьвінства, распуста!—абурыўся паручык Костка.

Схапіў стрэльбу і пусьціў цэлую абойму ў кучу людзкую, цесную. Уніклі гукі гармоніка. На высокай гульлівай ноце, куды ўзьляцелі па прыхамаці артыста—музыкі, асекліся. Сьпешны спужаны тупат многіх ног. Крык... Раз, другі. І ўсё.

— Ваяваць мне, а не ў панібраты гуляцца, сабачыя дзеці.

Рэзка абарваў, павярнуўся крута на абсасах.

— Прапаршчык Бань! Вы начальнік заставы. Пасьля падмены ка мне.

Завярнуўся і пайшоў, шлёгаючы гібкім стэкам па бліскучых пухкіх халявах.

Перад вечарам Гарбузоўцы гасьцінец нямецкі—шэсьць чэргаў лёгкіх, шэсьць забітых, адзінаццаць параненых.

— Гм!—прамычалі салдаты і стаіліся.

А назаўтра прыгнала ліст з ветрам:

«Рускія таварышы! Кіньце дурасьць. Мы—Вэрдэн, вы—Бэрлін ня возьмеце. Мы хочам жыць і страляць ня будзем. Прабачце за ўчарайшае--начальству і нашаму і вашаму адна цана. А мы нявольнікі. Няхай жыве сонца і мір. Далоў цароў і багатыроў-кравасмокаў!

Нямецкія таварышы.»

* *
*

Гэрой Цыўка.

У Цыўкі чатыры крыжы баявыя на жара-чорнай паласатай істужцы. 60 000 чалавек прапусьціў праз сябе полк. І ўсе яны адсыпаліся. Хто запалонены, хто зямлю парыць. Хто раны залечвае ў тылу глыбокім. А Цыўка на пасту. Калі летась увосень вораг прыпёр полк к рацэ—семдзесят два толькі выбавіліся з лап ашчаперных. А ў іх ліку і Цыўка. Чуць не апошнім кінуўся ў ледзяную раку і пад кулямётам перабрыў на вольны бок. Тамашоў, Прасныш, Млава, Інстэрнбург, Шаўлі, Дзьвінск. Вот слаўная баявая дарога палка. Усе амаль важнейшыя баі прыняў Цыўка на грудзі свае,

дармо што сухарлявыя і шчуплыя яны і барада русявая касмыкамі. І ўсе хады завілістыя, путаныя сваімі нагамі сьпісаў. Як той белы ліст паперы, кропкамі і лініямі блытанымі. Два разы ранены. Раз—куляю германскаю, другі—штыхом нарэзным, мад'ярскім. Вынес. Дамоў толькі на тыдзень напроведы адпрасіўся і зноў заняў пост.

Бо ведаў, што крыўда незаслужаная і яшчэ нязмытая, неспагнаная прышла і сьціснула землю рускую. Не таму, што так навучалі, шчыра бараніў цара белага, праваслаўнага. Чуцьцём сэрца гарачага адчуў непаможную праўду гэтага.

— За цара белага і бацькі роднага не памілую.

І стаяў. І бараніў. Роты вёў. Батальёны спужаныя пераймаў, выстрайваў у рады стройныя і вёў на перамогі крывавыя.

— За землю рускую.

— За веру праваслаўную.

— За цара белага, вялікага.

Цьвёрды, як сталь быў. Непарушны, як граніт... 60 000 адышло. А Цыўка застаўся.

* * *

Цыўка—паляшук. А думка ў паляшука цьвердая, грунтоўная... Ды схіснулася... Не гаворкі людзкія, што зьвейветрам перакачваліся.

— Слупы гнілыя ..

Не нягоды свае і не перамогі нямецкія падкасілі. Пакута старонкі роднае толькі гневу паддавала на тых, хто прышоў гвалціць яе. Дух аслаб. Што-та ў нутрох загаварыла. Смокча і грызе. І сапраўды: слупы—гнілыя. І ў бацькаўшчыны і ў веры—разам. Дый што бацькаўшчына. Калі ня маці, а мачыха яму яна. Вот у нямцоў. Ім і біцца за бацькаўшчыну. Сам прайшоў Усходнія Прусы, сам бачыў. А вера? Ня біліся ж багі на покуці яго ўласным, хоць тут зьбегліся і рускія і польскія. З восені, як Тадэйку знайшоў, гэта пачалося. Што гэта за бацькаўшчына, калі люд яе паліць цябе, нішчыць набытак твой. І што гэта за вера адна праведная, праваслаўная, што не пракляне гвалтаўнікоў. Да ці варты яны таго, каб бараніць іх, мілаваць? Адно засталося, што яшчэ грэла сэрца зьбянтэжнае:

— Цар праваслаўны, белы... Крыўда яго ягіпецкая, чорная. Ён напэўна справядлівы. Ён мужыцкі дбавец. Адгарадзілі слупы гнілыя. Праўды паказаць баяцца.

А тут яшчэ распуста цэлая на фронце. Напэўна ўсё ад іх. Цяжкая думка.

— Ратаваць, ратаваць цара. Цара белага...
Засела ў галаве, хіліла ўніз.
— Ды як жа?.. Як?.. І што?..

* *
*

І яшчэ цішэй стала ў акопах. Грэла сонца. Парылася зямля. У плоднасьць багатую адзявалася. Шумелі бары. Зелянелі купінкі. Чарвою, мушкамі, казюлькамі рознымі кішэла зямля. Толькі птушкі яшчэ неахвочы былі залятаць сюды.

Нуднай стала зямлянка сьмярдзючая. Дакучыў акоп. Адварот узяў да ўсяго таго, што ёсьць. Зажадалася новага, але немагчымага і магчымага. Усё ў адзін час. Як справу паставіць. Ехалі людзі на пабыўку дамоў. Праводзілі з зайздрасьцю. А самі кучачкамі распаўзаліся па мясьцінках пакойных, сонечных. А хто сьмялей, высунуўся за акопы. І было дзіўна, нязвычайна дзіўна. Што вось ты стаіш на прыцэле. Адзін націск на спуск і ад цябе труп ды ўспаміны: быў, бач, чалавек і няма. І хоць гэта так лёгка, але нікому і дзела да цябе няма. Нібы і ня вораг ты. «Вораг!» і ўсьмешка радасьці і здаваленьня. Быў вораг і няма яго. Скора і саўсім ня будзе. Толькі ўспамін будзе пра чад і больш нічога. Заляцаецца ў цёплых, ядрых марах акрыяўшае сэрца.

Зусім змоўкла Залатая Горка. Радзей каціліся жахлівыя гукі збоку Фэрдынандавага носа. Толькі ўсё яшчэ батарэі перагукваліся зрэдку, паласуючы чыстае паветра дзюбамі драпежнымі, гострымі. Дый тыя як бы сталі цішэць, паладлівей. Па палку аб'яўляліся зьвесткі, што на пазыцыі перад палком Саксонскі, толькі што прыбыўшы з захаду, рэнгімэн. З-за таго, што рэнгімэн і батарэі ўсё збаўлялі актыўнасьць, начальства рабіла вырад, што перамагці зьнясіленага ворага будзе ня цяжка і абнадзейвала посьпехам.

— Жджы!—пераміргіваліся салдаты, што азначала, што словы начальніка—ноль.

— Расстаўляй рукі!

А каму ў палкім выабражэньні здавалася і так:

— Капут вайне.

І пацiралі рукі.

— Эх, бра, тады загуляем. Дамоў! Знаеш — дамоў!..—І прысьвіствалі.

— А чаму не капут. Толькі-б немцы гэта сапраўды.
— Чаму ж несапраўды. Хіба ж яны не напакутаваліся.
— А як жа пра цара?
— Цары, брат, самі аб сабе падбаюць.
— Не, на гэта я ня згодзен!—канчаў Цыўка.

* *
*

Чытаў Цыўка нямецкую пісульку, матаў галавою, націнаўся.

— Хітра, сабачыя дзеці, надумалі.

— Што там?

— А хлусяць, кажу...

— Што хлусяць?

— Маняць, кажу. Я ўжо гэта ведаю. Спрытныя на штукі. Я ўжо ведаю...

Што ён ведае, так і не дапыталіся людзі. А ў сэрцы яшчэ адзін чарвяк зашавяліўся.

— Улезьлі ў хату к табе, палажылі ногі на стол, дый таварышы яшчэ. Воўк табе таварыш.—Зьліўся, рымставаў, і стараўся забыць. І ня мог.

— Таварышы!.

Цадзіў і смакаваў. Як бы першы раз пачуў слова некае моднае, няладнае, заложна дапытваўся скрытага зьместу яго. Складкі наўкола роту і вачэй глыбелі і губы сьпіналіся.

* *
*

На першы дзень Вялікадня асабліва цёплым было сонца. Як устала ціха і разважна, так і калясіла спавагу і раздумна шырокім ясным кругам неба, паліваючы ўсё жывое і мяртвое залівамі гарачага сьвету.

Яшчэ ўчора адкінулі немцы заўсёднае свае правіла - не правялі на спачын сонца шчэбетам кулямётным. І сягоньня ня стрэлі ўсход яго прывычным салютам. І ні адзін набой гарматны, ні адна куля ружэйная не парушылі ўрачыстую ціш, што полагам густым наплыла і счаравала зямлю.

Трудна сказаць, ці быў тут замешаны які-небудзь разрахунак збоку нямецкага камандаваньня. Усё магло тут быць. І жаданьне падзначыць перад сваімі салдатамі свае імкненьне да міру, каб потым шчыльней заціснуць іх у свае кіпці. У разрахунак на псыхалёгію рускага салдата—бачце, вот мы якія. І проста ўсё гэта магло адбыцца па самахоці ці па інстынкту масы салдацкае.

* *
*

Яшчэ ў суботу былі афіцэрскія сходы па батальёнам. Вышэйшае начальства хацела перадаць ніжэйшаму, што немцы рыхтуюць братаньне, каб сяго- таго выведаць, а зараз стварыць уражаньне сярод рускіх і сваіх салдат свайго сардэчнага імкненьня да міру.

— Разумееце, гаспада афіцэры,—гаварыў павышаным тонам паручык Костка,- вораг вераломны і ўсялякімі спосабамі стараецца вырваць з нашых рук козыры да перамогі. Але ж брэшуць яны, мы іх не аддамо. І ў нас галава на завесах.

— Не дамо. Не дамо,—гукнулі колькі галасоў.

— Бачыш, якія хітрыя, сабакі,—зьдзівіўся да Чэнчыка Аблуда.

— А мы ім во!—аскаліўшы гострыя белыя зубы, паказаў Чэнчык Аблудзе важкі кулак.

— Каму гэта?—запытаў зацікаўлена Костка, бо ўжо забыў, пра што толькі што гаварыў.

— А ім, хто гэтае братацца палезе!—адказаў цьвёрда Чэнчык.

— Во, яй богу падпаручык Чэнчык, я вас заўсёды паважаў. Іменна—во. Усім гэтым братальнікам. А каб не забылі, яшчэ раз паўтараю: салдат наш сволач і паважае толькі палку. А мы яшчэ інтэлігентнічаем. Прызываю з братальнікамі распраўляцца па законам ваеннага часу, як з здраднікамі...

* *
*

Вушы ў веставых заўсёды даўгія і ад іх ніколі нідзе і нічога ня ўкрыеш. У той жа дзень гутарка на афіцэрскім сходзе цалкам была вядома салдатам палка і зацята абгаваралася імі.

— Хэ-хэ!—казаў прыгрозьліва Мажны,—ліха іх не дажджэ, хочуць немцы міру—будзем мірыцца. Хоць калі да трэба.

— І ці ня ўсё роўна чорт, ці з свайго балота, ці з чужога...

— Мір. Мір!—шопатам перадавалася ўздоўж акопаў, перакідаючыся ў суседнія палкі

— Мір! мір!—вырываліся і глыталіся ўцішы чалавечыя галасы.

І вышла так, як не чакала начальства. Калі назаўтра афіцэры сталі цэрбэрамі над акопамі, загарэліся вочы салдацкія. Захацелася стаць рубам і зрабіць па свойму. Зоркія вочы афіцэраў не дасачылі многага, а можа хто і сьвядома не хацеў бачыць.

Хутка да немцаў панесьлі хлеб, а адтуль паплыла на акопы навала сьпірытусу, ножыкі, ложкі, карандашы. Сонца падымалася ўсё вышэй, а сэрцы чалавечыя п'янелі жаданьнем цішы і брацтва.

* *
*

Батальён Цыўкі быў за разэрву ў палку. Стаялі над возерам Сасалі, што гурком слалася паміж паросслых хвойнікам крутых берагоў.

Салдацкія сэрцы з самага ранку хваляваліся гострымі чаканкамі. Афіцэрства зрабіла выклік. Салдаты яго прынялі. Чакалася, што з гэтага выйдзе і як павернецца справа. Ад

гэтага нікому не сядзелася. І калі поп Гаўрыла галёкаў у паходнай цэркві, гадзе ніхто яго ня слухаў. Большасьць хадзіла па лесе і рэзва перагуквалася.

— Ванька!

— Прошка!

І галасы гучэлі, як бы з нецярплівасьцю пыталі.

— Ну што там?

— А ў вас?

* * *

Цыўка стаяў пад самым вязам, што ўрос аграмаднымі каранямі ў касагор, і маліўся, павярнуўшыся на захад, у бок дому.

Маліўся. Словы бяз зьместу, затое думкі—знакі агняныя.

А збавеньні ад бед і напасьцяў сям'і роднае, ад якое каля году ня мае ні вестачкі.

А цару белым. Каб бог палажыў на сэрца яго літасьць вялікую да народу свайго простага і вочы прасьвятліў на пакуты яго і адвёў ад начар і згубы, што распусьцілі наўкола яго слупы гнілыя. І яшчэ. Каб не папусьціў у спакусу, што вось насьпявае і шчупаламі тонкімі варушыцца і ў сэрцы яго і ў сэрцы іншых простых людзей. Аснуўся ён ад адчуваньняў сваіх, калі поп казань казаў а міласьці божай да люду гаротнага, такой вялікай, што сына свайго адзінага не пашкадаваў аддаць на мукі.

Прайшла кампанія афіцэраў на чале з Косткай—так званай „кінь-грусьць“. Пацягнула перагарам сьпірту, што камандзір палка выпісваў на розныя чысткі ружай, павозак, конскіх хвастоў. Успомнілася, што гэтыя афіцэры, стрэўшыся з папом, заўсёды нагла і бесцарамонна пяюць:

— Здравствуй, Гаўры... ла... Гаў-гаў-гаў-рыла-рыла.

За што поп сердзіцца-лаецца і страшыць пеклам. А афіцэры сьмяюцца і некую Насту тычуць. Паказалася, што і цяпер папова міна прыняла той самы сярдзіты выраз. А поп, павысіўшы тон, канчаў з прыціскам апошнія словы казані.

— „І цяпер гэтыя кніжнікі і фарысеі смокчуць утробу вашу. За цара ж белага, за веру праваслаўную, за бацькаўшчыну пакутную на супастата сьцíслымі радамі сьмела ў бой“!— кончыў ён і абарваўся.

— Праўда!— уздыхнуў Цыўка і пачуў, як узмацнена стукала сэрца.

— Што праўда?—прыдуркавата запытаў тоненькім плаксівым галаском малдаван Марылеску.

— Пра супастатаў! Пакутуем праз іх нягод ых!

— З-за іх. З-за іх, супастатаў,—ёнчыў Марылеску,— мы пакутуем, а цар белы што выпакутваў. Ай-яй-яй! сэрца разрываецца.

„Цар белы, а ты чорны!"— хацеў Цыўка сказаць. Злосьць прыступіла. Фальш нейкую ў сабе адчуў. Да недарэчнасьці некае дайшоў. Стрымаўся і пайшоў, каб расьсеяцпа і размысьліць.

А калі вышаў у пакалечаны лес, снапом слоў гарачых, падмываючых стрэлі:

— Немцы ў госьці клічуць!

— Гарэлку даюць!

— Хлеба просяць!

— А афіцэры ф‘юць!

— Не страляць просяць!

— Капут вайне, кажуць!

— А афіцэрам дышла.

Гарэзілі, калабродзілі словы чалавечыя, навіною хвалюючыся.

— Мо зман!—папробоваў выказаць сумняваньне.

— Ха-ха! Афіцэрскія байкі пераплятае. Позна, браток. Ніхто ім ужо ня верыць!

— Бачым, знайшоўся! Сам я, яй-богу сам там быў!— тыкаў сябе ў грудзі пальцам і крычаў на няма моцы куртаты Чапаёў:

— Ей-бо, так і кажуць.

І рассыпаліся людзі ў гомане гарачай. Ціхая, задушаная яна пакуль што яшчэ была, але тон міты говы, ядраны.

— Кажуць з прымусу ідом.

— Далоў прымус!

— Далоў прыганятых!

— Хай красуе злучнасьць!

* * *

А там ужо бегаюць, гуляюць, штурхаюцца. Вось кучка моладзі сабралася, словам перакінулася і песьня... Перш з няпрывычкі, як спуджаная птушка... Потым адзін-другі лёткі парыў, адзін-другі рэзвы ўзмах і распрасталася. Чарпанула вольным крылом, рванулася з лесу калючага, узьвілася ў неба недасяжнае, вольнае, і пацягла; паплыла, разгаласілася, рэхам стазвонным над гладзіньню возера забуяніла.

А з другога боку, з-за пазыцыі настрэчу ёй другая, такая ж магутная, прывітальная. Во сышліся, абняліся і паплылі наўздагонкі, весела пераклікаючыся. Што ім цяпер дроты калючыя, што ім перашкоды іншыя.

А сонца ўжо высока гарыць. А неба чыста, пераліўнасьветла. Сьветласьцю яснаю ў зямлю ўзіраецца, бы цудам нявіданым дзівуецца. Хай пакалечаныя дзеравякі—стырчакі бяз макавак стаяць. Хай сьвідраваныя на іх целе раны ды

смала-сьлёзы бязупынна, калюча сэрцу гаворацъ, што яшчэ ня час весяліцца.

Хіба можна радасьць імпэтную ў сэрцы гасіць, калі дні ясьнеюць, далягляды залоцяцца. Загояцца раны. Спачыне і выправіцца калецтва.

І кругом сьмяюцца, пяюць. Хоць раны, неасьцярожна патрывожаныя, гарацъ. А сэрца не-не дый заные аб чымсьці такім дарагім, любым і калісьці растаптаным.

І ці спраўдзяцца надзеі.

* * *

Ня ведае, чаго так сэрца б'ецца і пеніць кроўю. Тадэйка. Ён бегае, бо ногі руху хочуць. Ён крычыць, лопаецца, бо таго сэрца хоча і радасьць.

— Дзядзечка! Дзядзечка!—хапае ён за руку, за шыю Цыўку і трасе, трасе буяна,—вайны ня будзе. Паедам дамоў. Тату, маму, цётку, Ганьку, Тадэйку, Рыгорыка, Алеську, усіх, усіх пабачым. І будзем каровак глядзець, яечкі чырвоныя біць. Дзядзечка! Чуеш, дзядзечка. Я хачу, каб вайны больш ня было. І каб усе дома сядзелі. І каб белы цар...

Слухае Цыўка. Як чад, нейкі галаву шаламана ў бакі водзіць. Быў у баёх. Білася сэрца. А здэцца ніколі такімі цеснымі ня былі для яго грудзі. Ды няўжо мір? Ды няўжо згубленае, здавалася навекі, знойдзецца. І ён войдзе зноў у сям'ю сваю пакінутую і ўняважаную. Сьціськне і прытуліць да сэрца руку, што дзесьці кліча, заклінае прыйсьці і ўзяць, прылашчыць і сагрэць. Ды няўжо ён будзе зноў таптаць разгорнутыя грудзі зямлі-карміцелькі, як пух мяккія, ідучы за плугам, як дзіця, песьціць, пераварочваючы скібы, каб грэліся на сонейку і потым дзякавалі жнівом багатым, хлебам сытным.

— Пойдам. Пойдам. Ці пойдам, ці паедам... але...—перадае ён не сваім звычайным, але такім чулым голасам тоны свайго зьвярэджанага і ўскрэслага сэрца неразумеючай галаве.

— Пойдам. Пойдам!

Абдымае, цешыць і гладзіць Тадэйку, якому стаўся і бацькам і маці і сам якога лічыць сынам родным. Сястрын —розьніца невялікая.

— Мамку пабачым, татку, цётку, а мо яшчэ і дзеда... І Рыгорку і Тадэйку... І ўсіх—усіх!—захліпаецца ў радасьцях Тадэйка.

— Усіх—усіх,—паддаквае Цыўка і шчасна сьмяецца...

— А песьні. А радасьці людзкія. Ліюцца. Вірам коцяцца.

* * *

З пад адхону берага вылазіць рыжая, як агонь, барада. Шырокі рускі твар самадавольна пасьмейваецца ў агонь свае лапаты-барады.

— Гэй!—аддаецца ў вушох моцны і сакавіты яго басок, —сюды! Падарункі ад царыцы. Падару-ункі...

Жарты сказаць! Гасьцінец з таго шчасьлівага берагу, дзе крывёю ня пахне, куды ніколі не далятае барабанны бой гармат. Зьмейкай прабягае новая радасьць у крыві, гарыць і распаўзаецца. І ўсё гэта такое патрэбнае, к часу, падмацоўвае раз устаўшае.

— Не забылі!

Міг і куча людзей зьбілася наўкола хурманкі, што прытулілася каля яру над возерам.

— Гэта гаспадам афіцэрам батальёну!—кажа гучна і з прыціскам рыжы капцянармус з кастрамскіх „гаспадароў" і здымае дзьве даволі нелапыя дзеравяныя скрынкі.

— А гэта вам, салдацікі, каб храбра біліся за Русь сьвятую. Па цэлай скрынцы на роту. Ды памятуйце пра нашу наймілейшую царыцу-маці, што ў бядзе-горы не пакідае...

Павучае. А зубы шырокія і моцныя—хоць вось сталёвую палажы, перакусіць—паблісквалюць на сонцы.

— Эге!—ня ўстрымоўваецца хтось і прыкусвае язык. Як каравая ануча падае ў сэрцы разгарачаныя. Штось пакутнае прабягае, уздрыгвае па тварох аганьбеных.

Вочы тухнуць. Толькі ў кутках прарываецца штось калючае: ці крыўды смутак, ці воўчыная злосьць.

Доўгая цяжкая пауза-маўчанка. Афіцэры ўжо ўхаджаюцца каля свае дзелі: цукеркі, пернікі, цыгары, кансэрвы, віно. Сьмех. Вясельле. Жарты. А збоку стаяць салдаты, трымаючы ў руках малюсенькія мяшочкі. Ня вытрымоўвае Цыўка.

— Гэта ўвага?... За два гады пакуты?

Губы яго зьбягаюцца ў горкі клін. Ён дакорліва ківае галавою, глядзіць вачмі-слупамі... і... кідае мяшочак пад ногі.

— Будзь жа праклята! За ўсё, за ўсё! За сям'ю загубленую, за долю разьбітую, за волю пакалечаную.

І сплёўвае.

— Падымі, дзівак! Гэта ж ад дзяцей бядноты. Такія, як твае, мае...—кажа з дакорам і жалем Мажны.

Цыўка падымае і доўга глядзіць ні то на мяшочак, ні то на далёкі ўскраек возера, што зелянцоваю роўнядзьдзю паслалася. І чуе—сьвеціць сонца, ды вачам няясна; грэе, ды на душы ня цёпла.

— А я ж думаў ад царыцы, - кажа спаважна і горка ён, як бы просіць прабачэньня.

— Тут і ад царыцы. Бачыш, намалёвана красуня.

Мажны раскладвае данасовачку з лапікла ўвялічкі. Разглядаецца адбітак тоўстае бабы ў кароне.

— Эх, каб толькі можна, як няможна. Кінуў бы са зьнягаю ў вочы наглыя, бессаромныя. Ведама, мы не афіцэры. Імі ж, а ня намі вясёлыя дамы з такімі вось бабамі, як гэтая, трымаюцца,—развалжна з прыкрасьцю кажа Мажны.

— А вайна?! Хопіць мяса?—дадае з нечаканым рымстам Цыўка. Ї голас яго гнеўны, самому страшным становіцца.

— А мы ім вот як... вот як... вот як...— раптам запальваецца Марылеску. Хапае данасовачку і злосна, разьюшана плюе, потым смаркае ў бабу.

— Вот як!

Ї ўзрадавана абводзіць вачмі кампанію, як бы ён схапіў за край зямлі ці нечакана перамог злоснага адвечнага ворага. Дружны сьмех вырываецца з вуснаў перш у аднаго, потым у другога. Ї зараз жа ўсе покатам кладуцца. Надта ж сьмешным выглядае ў гэты час узлахмочаны і дзікі Марылеску. Абурэньне. Ї гэта было-б прынята ўсімі, як нешта звычайнае, цалкам законнае.

Але Марылеску!...

— Ну, калі Марылеску так кажа,—паддаквае праз сьмех Мажны,—ну то быць пасяму, праўдай будзе.

— Будзе. Будзе!—падхопваюць і іншыя. Зноў буяныя, зноў поўныя рэзвых бадзёрых сіл, але падперчаных, хвалюючым смакам падпраўленых.

— Охо! Яшчэ ня тое будзе!—куражыцца, падбодраны ўвагаю да сябе прыдуркаваты Марылеску.—Пабачыце мае слова. Яй-богу пабачыце... Ото ўспамянеце!...

Невялікае багацьце было ў мяшочках. Ніткі, іголкі, карандашы, канвэрты; яшчэ што-кольвек. Ї як каму. Ведама, кожны меркаваў пасылку ня як там, а па статку свайму. А ці вялікія яны ў дзяцей ніжэйшае школы. Самае ж дарагое са ўсяго былі лісты на пазыцыю да няведамых шэрых герояў. Пісалася ў іх нескладана—сёе тое просьценькае і шчырае, як проста і шчыра само дзяцінства і самае важнае—неадчэпная просьба пісаць.

— Трэба, трэба ўважыць. Просьба месца мае,—пераўвялічана камічна жартаваў Цыўка, каб тым хоць трохі захаваць наплыў пачуцьцяў.

— Вядома ж трэба!—паддакнуў у тым жа настроі Мажны.—А ці ведаеш, што мне прышло ў голаў?—раптам ажывіўся і загаварыў ён хуценька і сьпяшаючыся, як бы баяўся, што ўпусьціць штось, не спаймае.—Мне здаецца, што дзеці нашы будуць разумней за нас і не дазволяць езьдзіць на сваім карку, як езьдзяць цяпер па нашым... Напрудзяцца і

скінуць з плеч сваіх гэтую нечысьць векавечную. Раз, два. Скалануў і гатова. І ты вольны, сьвет табе не завязаны...

Цыўка слухаў. Не паддакваў і не супярэчыў, заняты сваімі мысьлямі. Замірэньне, падарункі, дзяцінaя ласка. Усё гэта больш чым густа набіла сэрца. Але покуль што яшчэ не ўклалася ў пэўную формулу, каб, раз вырашыўшы, потым ісьці неадступна, без азіраньня назад. Палажэньне было такое, пра каторае кажуць, што старое памёрла, але шкада яшчэ хараніць яго, так доўга ношанoе і мілаванае сэрцам, а новае ня прышло, яшчэ толькі стукаецца ў дзьверы і няма ведама, з чым яно прыдзе. І практычны паляшуцкі розум важыў на шальках і мінулае і цяперашняе і няведамае будучае. Выходзіла, што старое—відавочная памылка і гэтым самым ставілася патрэба намеціць будучае. Надзеі на тое, што сёньнешняе замірэньне пяройдзе ў сталы мір, у яго ня было ніякае. Як ні кажы—начальства хоча ваяваць, а сіла ўся ў начальстве; яго воля—воля на ўсіх. Гадзіцца з такім палажэньнем у Цыўкі ня было моцы. Хоць бы ўжо з аднае помсты за сёньнешняе і заўсёднае зьняважаньне. Дзеці і жонка, акінутыя, пакрыўджаныя, стаялі ў ваччу і дакорліва ўпрашалі прыці ратаваць. Шкода стала Цыўку, што так неразумна ахвяраваў сабою, не застаўшыся за пазыцыяю ў час адходу. Рабілі ж так другія.

— Ратаваў—папракнуў ён сябе дакорліва.—Каго? Цара бацюхну. Таго, хто сам ня хоча ратавацца, а на ражон сам лезе.

— Не, я больш ня слуга вам!—закончыў ён пагрозьліва звароткам да кагось свае кароткія мысьлі,—служыце самі сабе.

Але здаволіцца такім выхадам ён не хацеў і ня мог. Трэба было вырашыць, што ж рабіць. І ён, ведаючы Мажнога, як старога рабочага, чалавека сталага і бывалага, запытаў яго:

— А ці нельга-б, браце, пачаць вызваляцца нам самім. Тады напэўна і дзецям воля будзе. А то надвое бабка варажыла.

— А як-бы ты думаў?—замест адказу запытаў Мажны.

— А што я? Я, брат, чалавек цёмны. Што я магу ведаць? Вот бачыш, верыў чорту лысаму. Думаў, што ангел, а яно —чорт лысы, дый яшчэ паскудны.. Сказана—паляшук.

— Ах, дык ты даліманам хочаш дабіцца майго яснага слова. Я бачу, што ты ня той, што быў раней. Хоць позна апамятаваўся, а й то добра. Дык ня ходзячы кругом да вокала скажу, што можна. І мы спазналі свайго і цара і начальнікаў яго. І немцы спазналі. Ім трудней. Іх начальства здатнейшае і разумнейшае. Ведае, як па шэрсьці гладзіць.

Ну і будуць ісьці яны за ім пазьней. Але і яны ўжо падрыхтованы. Вот бачыш, ужо зьбілі аскому, маўчаць. Скідаць трэба начальства. Пачнецца ў нас, пачнецца і ў іх.

Быў вялікі кавалак лесу, устаўлены невысокімі крыжамі—бярозавымі, хваёвымі, алешавымі. Тут Мажны з Цыўкам прыпыніліся. Доўга і раздумна гаварылі. Заключнае слова Мажнога было такое: вызваленьне дасьць рэвалюцыя.

А калі яна будзе і як пачнецца—не сказаў, ня ведаў. Адно толькі і было: будзе. Цыўку патрэбен быў адказ не такі—сягоньня ён хацеў усё скончыць—раз бацьку біць. Відавочна было і тое, што гаварыць з Мажным далей—дарма час траціць. І як бы для таго, каб пісаць, ён адлучыўся ад Мажнога і сеў каля сьвежай магілы з бярозавым крыжам. На крыжу можна было разабраць зьверху лічбу 68. Гэта ясна значыла, што пахаваны служыў у 68 пяхотным Барадзінскім палку, які за два тыдні перад гэтым займаў пазьцыю. Імя і прозьвішча разабраць было нельга—напісана было хімічным карандашом і што дажджы спаласкалі, што ад сонца выліняла. Цыўка ня раз з драмцьлівым, асабліва мяккім і млосным настроем, які бывае толькі ў магілы мяртвага, ставіў такія крыжы і кожны раз ня мог пазбавіцца ад асабліва гнятлівае думкі: хтось яшчэ спадзяецца пабачыць друга дарагога, а ён сьпіць тут вечным сном, забыўшы ўсе трывогі і сум незадачлівага жыцьця. Тут ты накрываеш вочы чорнай зямлёй. Хтось і десь і табе накрые і таксама ў далёкім мілым кутку застогнуць, заб'юцца, як чайка крылом, сіраты бясчасныя, ласкаю бацькаўскай неатуленыя. Як і заўсёды, і цяпер наплылі гэтыя нялёгкія думы, і сьціснулася, замаркоцілася сэрца.

Узяў ліст. Хлопчык Сымон Дужы пісаў, што вучыцца добра, што яму жывецца трудна, бо адна карміцелька ў сям'і—мама, што працуе на папяросавай фабрыцы. Што тата быў у Барадзінскім палку ды ўжо тры дні ня піша. І Сымон, і мама, і ўсе ў хаце вельмі тужаць і трывожацца. Яшчэ прасіў Сымон Дужы хутчэй канчаць вайну, бо самая горшая вайна дзецям, калі таты няма.

Цыўку штосьці ёкнула ў сэрцы і заліла гарачым варам. А калі трохі серца астыла, ён глянуў на надпіс на крыжу. Ці гэта было сапраўды так, ці яму толькі здалося—не разабраў Цыўка і тады і ніколі потым. Яму здалося, што на крыжы стаіць у адным месьце: Дужы. Можа ў вачох дрывіць. Можа—здань. Ціхон Цыўка асунуўся ад гарачае зьнясільваючае млосьці і прыпаў да магілы. Уявілася цяжкая драма дзіцяці. Хацелася цешыць і прасіць прашчэньня, як бы гэта яго правіннасьць, што адны гінуць, другія сірацеюць і гібеюць, а ня жывуць. Пісаць ён ня мог, выціраючы капля

за капляю буйныя солкія сьлёзы. Так застаў яго вечар і нясьмелы клік трубы на паверку.

* * *

Тадэйку восем гадкоў. Ён саўсім дробненькі, але вёрткі і кемкі хлапчук. Ці слухае, ці гаворыць—чорныя вочкі гарэць, іскрамі пабліскваюць. Ён—бежанец і пляменьнік Ціхона Цыўкі. Гэта ён прынёс дзядзьку жахлівую зьвестку, як корчылася і гінула ў цёмным глухім кутку Палесься падпаленая казакамі, яго родная вёска Бароўка. Вот ужо паўгода, як жыве ён на пазыцыі з дзядзькам—з тых часоў, як знайшоў яго дзядзька ў далёкай, нячулай Калузе бяздомным, няўважаным ласкаю людзкою дзіцём. У палку цяпер Тадэйка ўсім патрэбен і міл. Камандзіру і большасьці афіцэраў ён рэзрыўка ад нуды жыцьця аднастойнага; для салдат ён жывая нежная сувязь з далёкім, інтымна-каханым сялом, ускрэслая памяць аб ім. І хто ні стрэне яго—расчыніць сэрца для яго ўсьмешкай радай, прыветнай.

Адзін толькі ёсьць, каго баіцца і ўцякае ад каго, як ад чумы—падпаручык Чэнчык, ці па палкавой клічцы: хвільтхвебель. Круглы, мясісты, з чырвоным тварам, шыяй, нават вушмі—ён груб душой. Трасецца ў Тадэйкі нутро, вочы на лоб лезуць, калі Чэнчык зараве на ўвесь голас: «Зь-е-эм!», разявіць шырачэзны, як у акулы, рот; доўгія фэльдфэбельскія вусы шавеляцца, налітыя крывёю бялкі пачынаюць выварычвацца—хадзіць, бы выскачыць хочуць з гнёзд сваіх. Сапраўды страшны тады Чэнчык. Знае Тадэйка, што ня зьесьць Чэнчык, а з жахам кідаецца ў бок і нема раве...

Але Чэнчык адзін і ў лік ня вельмі ідзе. Тым больш гэта праўда, што перад другімі афіцэрамі рабіць над Тадэйкам сваю апэрацыю пабайваецца, а адзін на адзін, сам на сам можна і не сустракацца. На тое-ж і галава ў Тадэйкі. І турботы яму асоба Чэнчыка мала дае. Усюды перабывае ён за дзень. Камандзіру перадражніць Чэнчыка, Костку, Абдулу і каго хоць, афіцэрам адпаліць за адзін залп усю нямудрую і нескладаную славеснасьць іх. Да салдат паляшчыцца і надзьме губы на афіцэраў за тыя прыкрасьці, што яны чыняць простаму, роднаму Тадэйку, люду—салдатам.

Але сэрца яго заўсёды з дзядзькам Ціхонам. І ў вочы гатоў кінуцца, горла перакусіць таму, хто папробуе дзядзьку ў крыўду папусьціць. Цераз гэта адчуваньні яго, як у дзядзькі:

— За цара белага...
— За Русь сьвятую....
— За веру праваслаўную...

Мо дзе ў дзядзькі і ёсьць чарвячок сумняваньня. Дык гэта Тадэйку не выкладаецца. Годзе з яго будзе ведаць малое. Тадэйка гадзе, што першым распакаваў свой мяшочак. Не багаты ён быў. Шпулька нітак, дзьве іголкі, з паўхунта цукерак, 6 канвэртаў з паперамі і карандаш. Але нішто з гэтага ня ўзрадавала яго так, як тое, што знайшоў ён апошнім—з дваццаць рознакалёрных паперак ад цукерак і малюнак—хлопчык з дзяўчынкаю за лемантарам. Гэтая находка заставіла яго весела скакаць і бязьмерна радавацца. Ён уміг ababeг чуць ня ўсіх салдат і афіцэраў батальёну, паказваючы свае малюнкі. Да апошняга ён падбег да гурту дзядзькі. Але калі глянуў у яго вочы, зразу адчуў яго смутак, ухапіўся за шынэль, прытуліўся і ў смутку слухаў, што там злосна і з запалам разважалася.

А калі разышліся ўсе, каб чытаць пісьмы і даваць на іх адказы, рушыўся і Тадэйка. Ён ішоў і смутак сьледам за ім. Каб як адкараскнуцца ад яго, Тадэйка выбраў месца найбольш усьцішнае. За чыгункаю ёсьць сьцежка, што вядзе на правае крыло пазыцыі. Направа ад сьцежкі пяскаваты бугор з хвоямі мацёрамі. Туды і забраўся сягоньня Тадэйка.

Утаймаваўшыся, ён прыняўся чытаць ліст, бо на пазыцыі пры дзядзьку падвучыўся, як належыць. Дзевачка Маруся Малігвіна буйным, нязграбным, але разборчывым пісьмом пісала, што яна шкадуе салдатаў, што яе тата забіты на вайне, дзядзька сядзіць у вастрозе за тое, што крычаў «далоў вайну», а маці служыць на цукерачнай фабрыцы і к вялікадню пашые ёй сукенку і сьпячэ бабку і паску, што яна вучыцца добра і ня злуе маму. Тут яна дабаўляла, што маму злаваць ня можна, бо яна ўдава—і так гаруе. А на канцы ўсяго прасіла пісаць і нават на адным канвэрце быў адрас напісаны.

Калі Тадэйка браўся чытаць ліст, смутак неяк адступіўся ад яго і было лёгка і лётка на душы. Але калі дайшоў у пісьме да таго мейсца, дзе гаварылася а забітым тату, горы мамы і аб дзядзьку, вярнуўся смутак. Узьнялася ў выбражэньні бачанае сёньня. Ад сёньнешняга думка перабралася да Чэнчыка, да Косткі, потым да Калугі. Успомнілася жабрацтва і людзкая няўвага і зусім запаланела смуткам душа.

Уявілася лета ціхае. Тата езьдзіць па снапы і Тадэйку бярэ з сабою. Тату і весела і абоім весела. Весела і маме. Кажуць: урадзіла—хлеба будзе ўволю.

І раптам смутак ды цяжкі смутак упоўз у хату. Загаласіла матка, бы па пакойніку. Патаму няведамая і страшная сіла—вайна прышла, вырывае з гнязда вякамі ўзгадованага, арганічнага. Ні малітвы і сьлёзы мамы, ні праклён з узьнятымі рукамі дзедаў не памаглі—пашоў тата, як нявольнік ці злачынец вялікі пашоў. А разам ішлі другія з такім жа смуткам і дыбалі такімі ж чужымі нагамі; у тым ліку і дзядзька Ціхон. Агаласілася вёска на цэлыя дні і ночы—усё тымі ж ёнкамі, праклёнамі стагнаньнем.

Пачынаюцца новыя дні для Тадэйкі,—работа не па сілах, разважаньне не па розуму. Тадэйка цяпер не дурасьвет, а гаспадар—увесь час падмагае драхламу дзеду ўпраўляцца з непаслухмянаю ні старым, ні дзіцячым рукам гаспадаркаю.

А на другі год, калі ён з дзедам толькі што ўправіліся з ворывам летнім, сталі напаўзаць грукоты з захада. Дзень пры дні калацілася паветра і як бы дыхала зямля. І хоць ня было маланкі і дажджу, а дзед за кожным рэскатам грому далёкага хрысьціўся з жахам, а часам падаў на калені і прасіў некага вялікага, моцнага бога, каб зьлітаваўся і не аддаў у зьдзек.

— Госпадухна-бацюхна, збаў... засьцеражы і памілуй.

А калі пытаўся, дзед жахліва казаў:

— Руіна ідзе!

Тадэйка не разумеў яе і то гарэў цікавасьцю пазнаць, то праціпаўся, як і дзед, жахлівасьцю. Потым кінулі працу. Прышоў прыказ выбірацца. Дзед сьпяшаўся, рабіў на драбіны буду. І ўсё капалі сьлезы з выліняльх вачэй. А падходзіў Тадэйка—дзед (дробненькі, з сівою кашлатаю барадкаю, як купінка моху на балоце, у новай сьвітцы, каб мець у належны апасны час лепшае на плячах) абдымаў яго, моцна, як малое дзіця, узрыгваў і прыгаварваў:

— Ня ўбачу.. Ня ўбачу... У сьвет паляціце, мае родненькія, з гнязда сакалінага. А што сьвет той скажа...

Пад Ільлю зусім блізка загаркатала тое штось страшнае, жахлівае, што Тадэйка навучыўся адным словам «вайна», або па дзедаўску «руіна» называць. Пайшлі з дня ў дзень усьцяж вуліцы фурманкі з заплаканымі бабамі і дзядамі, дзяцьмі сонными. Прышоў стараста Трахім Карака і сказаў дзеду:

— Твая хата крайняя. Выбірайся першы.

— Не паеду.

— Як не паедзеш? Прыказана!..

— Хай, колькі хочуць прыказваюць, а з печы свае роднае ня зьлезу.

— Згоняць!

— Хто згоніць? Хто мае права сагнаць? Ніхто ня мае права сагнаць. Печ мая.

— Немцы!—Памякчэў стараста і адступіўся ад тону свайго начальніцкага.

— Быць ня можа. Людзі ж яны. Прыду і скажу: не хачу сеяць косьці свае старыя на сьвеце ліха ведае дзе. Павінны ж мы адчуць гэта. Не прагоняць.

— А то ж!.. Адчуюць. Хто... Але ня немцы!—стаяў стараста на сваім.

— А ты бачыў?

— Начальства кажа. Едзь, кажу,—зарымставаў стараста. —Кажу, едзь. Няма тут часу з табой тарокацца.

— Не паеду!..

— Вот бо чалавек... Служы ты з такімі. А? А? Вот людзі цяпер пайшлі,—вёў стараста, выходзячы са двара.

— То маладых хоць зьбірай,—гукнуў у апошні раз з-за варот і зьнік.

— Гэта іх дзела...—сказаў дзед і стаў пакаваць воз.

— Бацюхна!.. Родненькі!.. Куды я з такімі малымі ў сьвет. Застануся. Хоць сьмерць, да на сваёй лаўцы...—стагнала нявестка—Тадэйкава маці.

— Вот едзь як-небудзь. Тут з малымі нельга. Паперапуджваюцца! Далёка толькі не ад'яжджай. Мо як перамелецца,— параіў бацька-дзед.

К поўдню ўжо Тадэйка з маткаю і Ганькаю сядзелі на возе, узрыгвалі да прашчаліся з дзедам, калі з пад магілак падняўся слуп пылу, як хмара. Цэлая куча коняў, расьцянуўшыся па зямлі, здавалася, плыла з воблакам пылу, з прылёгшымі да коняй людзьмі.

— Руіна! Вайна!—спуду немарасна і неўспадзеў сабе і ўсім, закрычаў Тадэйка і стаў біцца галавой аб аглабіну.

Далей Тадэйка толькі помніць, як лахматы казак з чырвонымі стужкамі на шырокіх майтках падскочыў да сьвінюха і ткнуў сернік у сухую страху.

— Што ты робіш, гіцаль, зладзей, згубіцель!—закрычаў нема дзед і лягчэй маладога кінуўся з арэшынаю на казака.

Але, здалося, не дабег да казака і упаў з размаху на сьпіну. Тадэйка выпруціўся з рук мамы, скаціўся куляй з воза і з дзікім пранізьлівым крыкам кінуўся ратаваць дзеда. А далей усё неяк зрабілася разам.

Чырвоныя языкі заскакалі па сьвінюху. Спудзіўся конь і панёс Ганначку з мамай. Дзед—грудзямі даверху і кроў на барадзе... А далей людзі беглі. Тадэйка бег. Чырвоныя языкі скакалі з хаты на хату. Чорны слуп дыму. Тадэйка гукаў... Плакаў... Не аклікнуліся. І людзі не сказалі, дзе дзелася.

Тыдзень бегаў паміж хурманак, што ішлі, як повадка. Не аклікнулася мама. Потым людзі пасадзілі ў цягнік і завязьлі ў Калугу. Было лета. Папрашайкай хадзіў, кускі, капеячкі зьбіраў. Нагараваўся...

...Плакаў Тадэйка. Сьлёзы бісерам дробным і частым сыпаліся на дол. Ніхто ня бачыў і ніякага сораму ня было. І Тадэйка даў волю сьлёзам. Хацелася выплакаць ня толькі пакуты даўнейшыя, а і сёньняшнюю... Трэснула колькі раз гальлё на сьцежцы. Пачууся шорах хады і гомана. Тадэйка прыслухаўся і прылегшы як мага цясьней да зямлі, стаў сачыць за тым, хто ідзе.

Скора выкацілася з-за гузыроў хвой круглае, як жлукта добрая, цела Чэнчыка. Задрыжаў нутром Тадэйка і так прыціснуўся да зямлі, здаецца, увесь уеўся ў яе. За Тадэйкай высунуўся Костка і загаварыў разьвязна і ганарыста:

— А слаўна зьбіў я сёньня порхаўку гэтаму міратворцу паскуднаму—Чапаёваму.

— Слаўна-та слаўна. Але трэба было болей. Што глядзець на гэтых мужланаў сівалапых? Хіба яны доўг ведаюць? Або сумленьне ў іх ёсьць?—гаварыў у дудку Костку п'яны Чэнчык.

Ї яшчэ штось дудукаў, але цяпер цішэй, мусіць Костка, і Тадэйка не разабраў. А калі яны схаваліся ў лазьняку, ён прыпадняўся, азірнуўся і патрос увасьлед ім сваім кулаком. Кулак быў маленькі, але моцы ў ім адчуваў столькі, што яму здавалася, растоўк бы на муку.

— Мужланы сівалапыя!—перакрывіў ён уголас Чэнчыка, ды так удала, што аж сам засьмяяўся.

— Падумаеш, паны!—дадаў ён сабе на гэты раз пад тон Косткі і ўзяўся, як ён, убокі.

— Пачакайце! Пачакайце!—шукаў чым прыгразіць і дадаў:—дзе вы ў бойках будзеце...

Спатоліўшы трохі злосьць сваю, Тадэйка сеў да пня, прачытаў яшчэ раз ліст, пераглядзеў рэшту падарункаў, насьлініў карандаш, чмыхнуў носам і стаў паволі выводзіць— крыва, коса, бокам адна за аднэю літары.

— „Мілая Марусечка!

Твае паперачкі палучыў. Прышлі яшчэ. Мой тата ў Пецярбурху. Але пісем ня шле. Ї я адраса яго ня ведаю. Пашукай яго там. Ён вялікі і харошы. З чорнымі вусамі. А зваць—Мікіта Гук. А я за тое цябе шкадаваць буду. І як вырасту—шкадаваць буду. А я бежанец. Мая мама ў нямцоў. А мо не. А я ўцёк і служу ў роце. А мне 9 год. Ї ўмею я чытаць, пісаць, страляць і коні пасьвіць. А як вырасту, то

на вайну не пайду, нават за афіцэра. Бо царыца гадкая і я не хачу яе абараняць.

Тадэйка Гук.“

Больш дзесяці разоў супыняўся ён, соп, чмыхаў носам, пералазіў з месца на месца, уваўрэў. А як кончыў, стаў чытаць. Некаторых слоў не прачытаў. Але парашыў, што разумее і што Маруся зразумее, бо напісаць лепш нельга.

З такою думкаю ён улажыў ліст у канвэрт, заляпіў і сеў адпачыць. Адпачываў і думаў пра царыцу. Захацелася зрабіць нешта такое, каб зьняважыць, як зьняважае яна тату, дзядзьку і ўсіх простых людзей. Пасядзеў і вочы яго раптам заліліся здавольным сьмехам.

— Ага, ведаю, што рабіць,—сказаў задзіркавата сам сабе,—ведаю.

Потым узяў другі ліст паперы і напісаў:

— „Мне ня трэба тваіх падарункаў. Падатры ім нос свайму цару, або аддай генэралу. А мне ня трэба. Вярні мне тату і маму. Я хачу дамоў. А наш дом у немцаў“.

Гэтую паперку і данасоўку ён згарнуў і ўклаў у канвэрт, на ‚якім, падумаўшы трохі, напісаў:

Царыцы ў сталіцу Пецярбурх“.

П асьля гэтага ё доўга бегаў і сьмяяўся. А кругом было ціха, бы вайны і павек тут ня было, ці ўвесь люд раптам выбраўся з гэтага гіблага месца.

„Плюнулі, бразнулі стрэльбаю і пайшлі, не азіраючыся. Малайцы немцы“—падумаў, падскакваючы, Тадэйка.

— А можа і яны ад Вільгельмы свае палучылі падарункі і цяпер злуюць.

* * *

Тры дні хадзіў, як падкованы, Цыўка. Гарэў, чагось чакаў і абрываўся ў надзеях. Надзеі на замірэньне выразна гінулі. Ужо на трэйці дзень стала прыцэльвацца артылерыя. Можна было разумець, што начальства растраўляе баявыя інстынкты. На чацьвёрты дзень зусім пасапраўднаму стала вайна. Ужо не паказвалі людзі галоў з акопаў. Ад таго нуда ў целе стала выразьней. У гэты ж дзень вызвалі ў абоз другога разраду Мажнога і яшчэ аднаго і больш ня пусьцілі.

— Усіх не перасадзяць,—мацаваліся падліць энэргіі адны.

— Проціў ражна не папрэш,—адказвалі другія.

На паўднёвым фронце пачаліся жорсткія бойкі. Над пазыцыямі часта залятали самалёты. У перадавыя акопы артылерыстыя пацягнулі тэлефонныя драты, устанаўлялі назіральныя артылерыйскія пасты.

— У-ух! пойдзе!—заскакала па акопах.

— Сьцеражыся, хто жывы!—шарахнулася з акопа ў акоп.

На пяты дзень па батальёну чыталі загад. Камандзір паздраўляў полк з посьпехам на паўднёвым фронце. Потым рабіў строгі выгавар за братаньне, аб'яўлялася аб арышце двух ворагаў нутраных, якія прадаліся немцам і хацелі падняць салдат супроць цара і Расіі. У ліку іх называлася асоба і Мажнога. А далей пералічаўся лік перабежчыкаў, якія абяўляліся з гэтага дня пад судом за здраду дзяржаве. Костка і на гэты раз казаў прамову і шлёгаў стэкам.

— Дык вы, братцы, тое, вымяцьце крамолу. Каб значыць і ўнутраных і ўнешніх. Каб ад іх і пораху не засталося.

Ляцелі жураўлі і перакілікаліся.

Марылеску слухаў іх і мармытаў пад нос жальліва і расьпевіста.

— А ў нас ужо кіяхі ўзышлі. Бахчы садзяць.

Цыўка думаў, што ў іх дома як раз пара бульбу садзіць і рашаў:

— Ці туды, ці туды...

— Што там Марылеску? — раптам запытаўся Костка, абарваўшы прамову.

— Не магу знаць, ваша высокаблагародзь! — адказаў Марылеску.

— Дурак!—з прыціскам адсек Костка.

— Не магу знаць, ваша высокаблагародзь!—зноў агукнуўся Марылеску...

— Вот і рабі што кольвек з гэтымі асламі! — жаліўся Костка Чэнчыку.

— Сякім башка іх!—адказаў Чэнчык і сьмяяўся сваёй удаласьці. І потым паўвечара расказваў, як у Пэрсіі у дзень байрама робяць дэрвішы сабе «сякім башка».

Расстаючыся вечарам за картамі з афіцэрамі, Костка зьвяртаўся да афіцэрства тонам напоўпанібрата і напоўкаманды (як і належыць начальніку):

— Дысцыплінкі, гаспада афіцэры, дысцыплінкі. Палкоўнік нездаволен. Полк мала актыўнасьці выказвае.

А Цыўка рашаў...

Ноч ціхая зорная ахутала зямлю. Зрэдку паблісквалі зоркі ракет і аблівалі паветра клубкамі зыбкага, драмцьлівага сьвету. Па рэдкіх кустох, што тырчэлі паміж дзьвёх пазыцый, пасоўваліся ціха і асьцярожна дзьве чалавечыя цені. Адна была вялікая, другая—дзіцячая. За плячыма ў абоіх былі даволі ёмістыя клункі—хлеб, бо нельга было кінуцца без належнага запасу, кінуцца старчма галавою ў галодную старану. І яшчэ крыху сякое-такое водзейкі.

Гэта былі Ціхон Цыўка з Тадэйкам.

Дапоўзшы да кучкі пустога зарасьніку, Ціхон супыніўся і кінуў са злосьцю ўбок стрэльбу:

— Годзе, адваяваў сваё. Хай цяпер хто ваюе.

І сказаў шэпатам Тадэйку:

— А калі немцы будуць пытацца, якое мы часьці, кажы: ня ведаю. Мы не якія там прадажныя шкуры. Ні тым, ні другім. Нэйтралітэт, так сказаць. Ідом дамоў. Так і кажы. А ваяваць ня хочам.

Сэрцы ў абоіх біліся, як спайманыя птушкі. Належала перайсьці яшчэ самы небясьпечны кавалак хады. Магла вось-вось загарэцца ракета. Асьвеціць—усё можа стацца. І ўцекачы чакалі, калі загарыцца ракета, каб той жа час, як яна згасьне, кінуцца ўпярод. На шчасьце якраз так і трапілася. Ракета спакваля паднялася, асьвяціла зыбкім сьветам прастор перад вачыма Ціхона і Тадэйкі і ціха дагарэла. Доўгімі і цяжкімі паказаліся гэтыя пара мінют. Але вось прапала апошняя іскра. Змрок зьбегся, загус і стаў непарушнаю сьцяною, бы нямы вартаўнік пакою і сну.

Калі Цыўка апынуўся перад нямецкім дротам, бадзёры дух яго на некі міг ахляп. Уявілася, што ўсё-ж пакінуў там некіх добрых шчырых сяброў і заўтра яны будуць лічыць яго з агідаю сваім прадажнікам. Дый там няма ведама, што яшчэ чакае. Але ж гэта быў толькі момант, адзін міг.

Праверка сумненьня паказала чыстасьць яго, а будучае —хай будзе, якім належыць быць. Бяз веры ў лепшае нічога ня бывае. І ён выцягнуўся, выпрастаўся, як бы скідаў з сябе нешта наліпшае і цьвёрда і бязбоязна засігаў напярод.

На роспытах ні Ціхон, ні Тадэйка не назвалі свае часьці. Сьпярша немцы злавалі і накідаліся з прыгрозаю. А потым, даведаўшыся, што Ціхон з Тадэйкам прышлі сюды для таго, каб, так сказаць, заключыць пэрсанальны мір з германскім імпэратарам, многа разківалі галовамі і раз паразу жартаўліва паўтаралі:

— Аднака, навіны! Гутэн, гутэн.

Ня спраўдзіліся пляны Ціхона. Ня пусьцілі яго немцы дамоў, а ў шахты рэйнскія запёрлі.

Калі перад спускам у шахту аглядала яго доктарская камісія, многа мацалі яго хударлявае, але пруткае цела:

— Гутэн! Гутэн!—чуў Ціхон.

І памчала з віскам і трэскам машына ўніз, адбіраючы апошняе, што меў Ціхон—сонца.

Ня спраўдзіліся надзеі і Тадэйкі. Не пабачыў ён мамы. Яго адарвалі ад мілага, добрага дзядзькі і загналі ў прытулак. А там з дня на дзень вучылі машыраваць і крычаць:

— Дойчлянд юбэр алес!

---

Мястэчка
Любонічы.

*А. Атава.*

## Краса расплеценых вянкоў.

Абымуцца, ды знова разьляцяцца
Сьняжынкі пухавыя—
На жоўтыя пяскі, зялёны бор—лажацца...
О, восень!
Шэлестаў табе ўжо не зьвіваць...
Бывай—багатая, прыгожая—
Бывай!..
Шкадую я цябе, шкадую я—
І золата твайго і сьлёз...
Па нівах толькі-што закончыла зямля
Сваю штогодную расплату—па закону;
Закончыла—і ўжо завеі скора...

Шкадую восені,—
Бо толькі адарыць за сілы, за любоў
Працоўнага—яна...
Яна адна—й грудзей суніме боль;
І ў падарожжы сонечным, ў будове краю
Ізноў такі—яна,
Надзеі—высталіць ратаю!..
Растанемся, багатая,—бывай!
На шэраг дзён...
Я твой прастор гарача, шчыра абымаю:
За скарбы ўсе, надзеі, сілы, стыль—
За ўсё, за ўсё, што можа на зямлі расьці...

—·—

Усё сыплюцца, усё ірдзяцца
Сьняжынкі пухавыя—
На жоўтыя пяскі, зялёны бор—лажацца...
Гляджу:
І бель, і сьвежасьць,
Са мною-ж сум—
Расплеценых вянкоў хаваю я красу!...

Вёска Пласток,
Любаньскага раёну.

*Хв. Явар.*

# Каб ня формулы...

**(Апавяданьне)**

Кастусь адчуваў сябе так, нібы вялікая гара звалілася з яго плеч.

У гэты шаблённы выраз—„гара з плеч“ ён укладаў асобнае, поўнае вялікага сэнсу, разуменьне. Гара для Кастуся, гэта гара розных інструкцый і формул. Увесь апошні час ён быў пад іхнай неперамoжнай, агіднай уладай.

Увесь апошні час, аж да экзамінаў выпускное клясы чыгуначнае профтэхнічнае школы, Кастуся старэнна нашпігоўвалі рознымі формуламі. Калі ў клясу зьяўляўся стары, брыдкі інжынэр з улюбёнай прымаўкай: „Мы—старыя інжынэры і вы—маладыя тэхнікі“ і пачынаў крэйдай выводзіць на дошцы свае формулы, даводзячы то розныя выпадкі колькаснай перавозкі цяжараў, то карыснасьць працы паравоза пры тых, або іншых умовах, ці яшчэ што-небудзь іншае, калі ён пачынаў тлумачыць свае гэрогліфы візглівым і рыпучым—як тая букса, якая гарыць—голасам, у Кастуся цямнела ў вачох, галава рабілася расколаным збанам, ён губляў усякую здольнасьць што-небудзь разумець. Можа і ня гэтак ужо цяжка было зразумець гэтыя формулы, але для гэтага трэба выкласьці працы, пажадаць разабрацца ў іх, а вось гэта як раз і было не па натуры Кастусю.

Па натуры сваёй ён быў хлопец вёрткі, жвавы; любіў усё тое, што лёгка даецца ў жыцьці, усё тое, да чаго ня трэба прыкладаць сваіх сіл. Формулы для яго—няпрыемнасьць жыцьця.

Пачне гэта стары лектар выводзіць свае літары, а Кастусь думкамі сваімі далёка-далёка ад іх. Марыць аб асалодах жыцьця, аб прыемных спатканьнях, вясёлых забаўках. Вось хадзіў ён на опэрэту, вельмі падабаўся яму рэпэртуар яе і ён па цэлых днёх выводзіць якую-небудзь арыю з опэрэткі «Сільва», а то «Жрыца агню». Стары рыпіць сваім абрыдзеўшым голасам, а Кастусь і ня чуе яго. У літары S якой небудзь формулы бачыць ён „Сільву“, прыгожую ва-

бячую жанчыну ў каляровым, шыкозным убёры — вось-вось пасьміхнецца яму, з літары R выглядае «Раджа» з «Жрыцы агню»—вось-вось, здэцца, запягне барытонам сваю арыю.

Кастусь і сам меў даволі прыемны тэнор. Ён, калі напяваў якую небудзь опэрэтку, сам любаваўся сваім голасам. Атрымоўваў ён пахвалы і ад таварышоў.

Марыць Кастусь, няпрыкметна для сябе пачынае пахмыляцца, жмурыць вочы. І.. атрымоўвае вымову ад старога лектара, які так і шукае, каб да чаго ці каго-небудзь прычапіцца. Эх, адна толькі няпрыемнасьць ад гэтых формул...

Але—ўсё гэта з-заду. Усё было і ўсё мінула, і ня зьвернецца. О, Кастусь упэўнены ў гэтым! Экзамін зданы. Цяпер ён тэхнік другога разраду. Цяпер ані-якія формулы ня будуць памрачаць яго жыцьця. Цяпер перад ім шырокі, просты і вольны шлях, на якім няма калдобін і гурбаў у выглядзе розных інструкцый ды формул. Цяпер ён чыгуначны запасны агэнт аддзелу руху, а там—начальнік станцыі, рэвізор, начальнік аддзяленьня. Гэтае «там» напаўняла істоту Кастуся радасьцю, задаваленьнем жыцьцём, якое цяпер малявалася яму такім цікаўным, прыемным, поўным розных доўгачаканых уцех. Шырокая дарога — вялікія магчымасьці.

Гэты шлях, па якому пагордным пераможцам будзе пасоўвацца Кастусь, ужо распачаўся Ён выехаў на маленькую, глухую станцыю Камарова, каб заступіць на начное дзяжурства на мейсца захварэўшага памоцніка начальніка станцыі. Тут Кастусь распачынае сваю кар'еру. Камарова—першая маленькая станцыя на тым шырокім шляху, па якім пойдзе постаць Кастуся. На гэтым шляху будуць ня толькі малыя, сонныя станцыі накшталт Камарова, на ім будуць і буйныя станцыі, дзе бурліць сумятлівае жыцьцё, дзе поўна сьвятла, электрычнага бляску.

А пакуль,—пакуль Камарова.

Ня было-б Камарова, была-б якая-небудзь іншая станцыя. Трэба-ж дзе-небудзь ды распачаць свой шлях.

Начальнік станцыі Камарова з недавер'ем кінуў позірк на маладога, бліскучага сваім новым форменным убраньнем, запаснага агэнта і пачаў уводзіць яго ў курс справы і ўмовы працы ў Камарове. Кастусь рабіў выгляд, нібы то ён уважліва слухае начальніка, глядзеў за ім на карту, дзе былі нарысованы калеі станцыі, шчыпаў маленькія свае вусікі, падстрыжаныя па ангельскі «птушкай», з ахвотайківаў галавой на тлумачэньні. Слухаць іх было ня надта прыемна—якраз, як тыя формулы, на якія ўжо пасьпеў забыць Кастусь.

Ды што зробіш? Відаць, і на гладкім гасьцінцы не абыйсьціся без маленькіх шурпатасьцяў. Але вось усе няпрыемныя фармальнасьці скончаны. Кастусь прыняў дзяжурства,

пачынае па свойму знаёміцца з «умовамі працы» ў Камарове.

Яму адразу-ж на вока трапілася прыемная, зграбная блёндынка—тэлеграфістка, з якою разам прыдзецца дзяжурыць Кастусю. Яе сіня-васільковыя вочкі, маленькі кірпаценькі носік, пульхныя губкі, румяныя шчочкі—так набліжалі яе да таго ідэалу жанчыны, які хаваўся недзе далёка-глыбока ў сэрцы Кастуся. І ён з здавальненьнем пасьміхнуўся.

— Вось гэта добра. Нечаканая акалічнасьць, якая дапаможа няпрыкметней пераносіць нуду Камароўскае глушы.

Тэлеграфістка была прыветнай, ня гордай дзяўчынкай, яна з ахвотаю падтрымоўвала размову. Відаць і ёй надакучыла глухое Камарова. Няма тут з кім словам перакінуцца, яна рада пабачыць новага гарадзкога чалавека. Ды такога яшчэ абыходлівага, як Кастусь.

А ён так і расьпінаўся, каб паказаць усё, на што ён здатны. Весела, цікаўна апавядаў пра гарадзкое жыцьцё, пра свае прыгоды, гулянкі. Апавядаў пра опэрэту, нават прасьпяваў некалькі арый. Валерыя Мікалаеўна (так звалі тэлеграфістку) таксама мела хоць і не вялічкі, але прыемны галасок. І яна таксама любіла сьпяваць. Гэта яшчэ больш узмацніла новае знаёмства, надало яму нейкай шчырасьці.

Хутка яны ад сьпеваў «соло» перайшлі да сьпеваў «дуэтам». Маленькі брудны пакоік дзяжурнага па станцыі Камарова ніколі ня бачыў яшчэ такіх гарэзных дзяжурных, такога вясёлага шуму. Нават стары станцыённы сторож з зьдзіўленьнем адчыніў дзьверы, пацепнуў плячмі ды ціхенька падаўся прэч...

Хутка, няпрыкметна праходзіла ноч. Падыйшла раніца.

Кастусь ведаў шмат сантымэнтальных романсаў, якія даходзяць да таемніц жаночае душы, прымушаюць жанчыну расчуліцца, сэрца яе памякчэць.

Валерыя Мікалаеўна ніколі не спатыкала яшчэ такога спагадлівага, так добра разумеючага жанчыну маладога чалавека. Яна была вельмі давольна новым знаёмствам, захапілася ім усёй сваёй маладой істотай, стомленай штодзённай нудой, у якой дагэтуль ня было ні малюсенькага променю шчасьця.

Яны сьпявалі так уплываючы на пачуцьцё романс «Вашы пальцы пахнут ладаном», як раптам дробненька заляпаў тэлеграфны апарат, выбіваючы літары:

— К-М-Р... К-М-Р...

Клікалі станцыю Камарова. Валерыя Мікалаеўна падыйшла да апарата. Папаўзла беленькая істужка з сінімі рыскамі на ёй—літарамі.

— Запытаньне дваццаць другому,—прамовіла Валерыя Мікалаеўна.

— Давайце «чакаю», Валічка,— адказаў Кастусь. — Выдазволіце так зьвяртацца да вас? Пакінемце, ведаеце, усе гэтыя фармальнасьці. Інтымнае «Валічка» куды лепей гучыць, чым сухое, афіцыйнае «Валерыя Мікалаеўна». Ці-ж ня праўду кажу я?

— Запішэце ў журал сваё «чакаю»...

— Так інструкцыя патрабуе? — засьмяяўся Кастусь.

— Не, не таму... Але усё-ж-ткі...

— Пакіньце, Валічка, мне ўжо так абрыдлі гэтыя формулы, інструкцыі! Запішам усё адразу, як будзем здаваць дзяжурства,—кінуў Кастусь, ды пачаў гаварыць са стрэлачнікамі аб прыёме цягніка.

Ад сумных сьпеваў, якія ўжо трошкі надакучылі, перайшлі сьпевакі да больш вясёлых, уздымаючых настрой. Не пасьпелі распачаць толькі «Накинув плащ, с гитарой под полою», як ізноў заляпаў апарат.

— Вось перашкаджаюць,—абурыўся Кастусь.

— Запытаньне адзінаццатаму...

— Давайце, давайце, Валічка, «чакаю».

І ізноў пачаў Кастусь выводзіць тэнаровыя рулады.

Праз некаторы час зазваніў тэлефон. То паведамляў стрэлачнік пра падыход цягніка. Кастусь узяў пад паху флажкі і з важным відам, які паказваў усю веліч яго адказнай асобы, выйшаў на пляцформу.

На стрэлках ужо рухаўся тавара-пасажырны цягнік. І ў той час, як ён паволі набліжаўся да станцыі, з-за павароту калеі з другога боку станцыі паказаўся скоры цягнік.

Ён шпарка насоўваўся на станцыю, ляскаючы на стыкох рэяк.

Ён усё бліжэй, бліжэй.

Ён павінен прайсьці праз Камарова без супыненьня.

Але што гэта? Як магло здарыцца? Абодвы цягнікі ідуць па аднэй калеі. Адлегласьць між імі ўсё скарачаецца.

Кастусь стаяў зьбянтэжаны, зьмярцьвелы. Ён нічога ня мог сабе ўявіць, ня мог растлумачыць сабе прычыны гэтага жудаснага здарэньня. Але адно яскрава паўставала перад ім. Жудасны малюнак ужо маляваўся ў яго вачох:

...Страшэнны грукат зялеза. Цягнікі ўразаюцца адзін на другі. Рушацца паламаныя, пакалечаныя вагоны, сыплюцца кавалкі дзерава, канцы зялезных брусоў. У гэтым хаосе чуюцца стогны, ёнкі чалавечых, бязьвінных ахвяр...

І ён, Кастусь, ён прычына гэтаму. Але як жа гэта? Што рабіць? Як папярэдзіць?...

Кастусь схапіўся за флажкі. Але машыніст з таварапасажырнага ўжо прыкмеціў набліжаючуюся пагрозу. Ён пачаў даваць трывожныя сьвісткі. Пачулі іх і на скорым.

Паравозы законтрпарылі, і, не даходзячы якіх 5 мэтраў адзін да другога, спынілі свой бег насустрач сьмерці. З паравозаў пасаскаквалі з зьбялелымі тварамі машыністы. Пачалі выходзіць перапалоханыя пасажыры.

—.—

Кастусь, ледзь цягнучы ногі, накіраваўся ў вакзал. На бруднай пляцформе, цяпер непатрэбныя, забытыя, ляжалі флажкі.

Кастусь рад быў скрозь зямлю праваліцца. Нязьмерная напалоханасьць зьмянілася пякучым стыдом за тое, што здарылася. Сорамна было ўзьняць вочы на Валерыю Мікалаеўну, якая моўчкі спагадала, шкадавала яго.

Прыбег узбуджаны, узнэрваваны начальнік станцыі.

— Я-ж казаў вам, малады чалавек,—гнеўна крычэў ён,—азнаёмцеся з працай, праглядзеце яшчэ раз інструкцыі, а вы і такой рэчы не змаглі зрабіць, як паведаміць стрэлачніка аб прыняцьці скорага. Нават цягніковыя дэпэшы ў журнал не пазапісвалі... Гэта-ж поўнае парушэньне палажэньня аб руху цягнікоў! І што вы толькі ў вашай школе вучылі?

Пакапаўшыся ў інструкцыях, начальнік пачаў пісаць тэлеграму з паведамленьнем аб здарыўшымся і аб адкасьненьні Кастуся ад дзяжурства.

Так прыемна маляваны шлях простай, посьпешнай Кастусёвай кар'еры быў груба, бязжаласна зблытаны, пакамечаны.

— Каб ня гэтыя агідныя інструкцыі...—разважаў ён, седзячы зморany ад праведзенай бяз сну ночы.

— Каб ня гэтыя формулы...

Местечка
Асіповічы

*А. Глінская.*

# На Няве.

Сінім скрыдлам Нява памахала — вецер,
Сіняй хваляй пырснула—дождж...
Шлях па ей далёк, і шырок, і сьвецел!
Плыць да плыць беспрапынна можна!
Сфінксы вочы сашчурылі, гледзячы ў неба,
Ўспамінаючы знойны і жоўты Эгіпэт...
Там яны ніколі ня бячылі сьнега,
І ніколі памяць аб ім ня зьнікне.
Ціха дрэмле і ў дроме казкамі марыць
Ля маста бальшы «Крэстынтэрч»,
А Нява яму пацалункі дарыць,
А Нява для яго жонка верная...
Сонца жоўтай дарожкай уніз пакаціцца
Пакупацца ў хвалях Нявы.
Пырснуць золатам хвалі. Нява багатая!
І схіляць галаву на беразе львы.

Ленінград

*А. Жукоўскі*

# Такая зьмена не заблудзіць.

Сягоньня зноў у старую школу
Набегла вольніца палёў.
Зноў чуцен іскрабрызг вясёлы
Дзіцячых звонкіх галасоў.
Ну, што-ж!—за працу, дык за працу—
Душы дзіцячай воск ляпіць.
Люблю я з імі пасьмяяцца,
Аб сім, аб тым пагаварыць.
У іх усіх такі буяны,
Такі задорны нейкі выгляд...
І ўсе яны палямі п'яны,
Палямі, дзе ганялі быдла.
У палёх зара іх сустракала
І сонца лашчыла праменьнем.
Ня мала працы, ой, ня мала,
Усе ў адно злучыць імкненьні.
Гляджу. Пытаюся з трывогай,
Якое наша заўтра будзе.
Ў вачах—адказ: найдуць дарогу—
Такая зьмена не заблудзіць.
Я рад, што зноў ажыла школа
І галасоў нясуцца ўсплёскі.
Ці не таму-ж глядзіць вясёла
Са сьценкі й дзядзька Ігнатоўскі?

Вёска Добасна,
Бабруйскі раён

*В. Гараўскі.*

# Ліст.

Матуля родная, пішу табе здалёку, з краіны дзікай, вольнай і пустой. Матуля родная, тут штодзень сьвеціць сонца, тут цёпла ў сьнежні, і студзені, і лютым, тут сьнег ляжыць і летам, і зімой. Табе мо' дзіўна і ты мо' не паверыш, што я хажу па казачнай зямлі. Матуля родная, ці-ж ты хлусіць вучыла, каб мы—сыны твае—няпраўдаю жылі.

Даруй, каханая, што я цябе пакінуў і ў сьвет пайшоў за хлебам з роднага кутка. Я буду помніць тут, кахаць цябе, Айчына, цябе ў кашулі зрэбнай, у сьвітцы, у лапцях. Хаця я ведаю: ты скора зьдзенеш лапці, хай толькі пройдзе год, няхай міне другі; інačай станеш жыць у новай сьветлай хаце і будуць жыць з табой адданыя сыны. Хвіліны творчай радасьці падзеліце з сабою, здабудзеце шляхі да новых перамог. Вам песьні радасьці машыны засьпяваюць і шчасьце зарунее на ўзораных палёх. А я шукаю радасьці ў чужой староны...

А хто й калі назваў яе „чужой"?..

Матуля родная, нам тое-ж сьвеціць сонца, што там так радасна зіяе над табой. Тут тыя-ж людзі, хоць вопратка ня тая, мазоль крывавы ўмеюць шанаваць, мы тую-ж радасьць і шчасьце здабываем, якую ты вучыла нас кахаць.

Хай непагода і хмары неба ўсьцелюць, мы прыйдзем долю, шчасьце бараніць, іх колісь звалі далёкімі, чужымі, цяпер прад намі шлях адзін ляжыць.

Каўказ. 1926 г.

*М. Мікіцін.*

# Недаплочаны рубель.

**(Апавяданьне.**

Падраная кашлатая шапка Нічыпара Гароха ня мела сёньні спакою на ня меней кашлатай галаве яе гаспадара.

Чорныя, шурпатыя рукі, не—ня рукі, а так нейкія карчы, то зьбівалі яе на патыліцу, што яна ледзь трымалася, то зноў насоўвалі на вочы, калі рукам трэ' было лезьці ў космы парудзелых валасоў.

Гэтае вандраваньне, даволі частае, даводзіла—што гаспадар яе, Нічыпар Гарох, нечым абураны, аб нечым думае. Ну, а калі думае—тады няма спакою яго шапцы-капне.

Ды як не абурацца Нічыпару Гароху?!

Яго сусед Васіль Кавалёнак (ён заўсёды любіў пакупіць з Нічыпара) сёньні, ураньні падышоў да яго, Нічыпара, калі ён даводзіў касу і зьнянацку запытаўся аб цане, па якой вазілі яны дровы ў мястэчка.

Зьдзіўлёны такім запытаньнем (калі гэта было: яшчэ сьнег ляжаў на полі, як вазілі дровы), Нічыпар кінуў касу, а шапка пасунулася на патыліцу.

— Па колькі? А табе навошта знаць?—у сваю чаргу запытаў Гарох.

— Ды так. Я чуў, што вы ўсе былі ў Шпэнта за батракоў,- адказваў сур'ёзна Васіль Кавалёнак, а вочкі ягоныя, маленькія, шэранькія вочкі так і пырскалі сьмехам.

Шапка з гарохавай патыліцы зьехала на лоб, а сам не даючы веры словам суседа, бо ведаў добра яго, азадачана мармытаў:

— Не, ня праўда. Маніш. Шпэнт мне сам казаў, што ўмовіліся па дзесяці рублёў ад сажні, нават паперу склалі, каб ня было якога машэнства. Дык якімі батракамі мы былі? Сьмяешся з мяне суседзе,—і шапка зноў папаўзла на патыліцу.

— Ну, як знаеш. Я толькі чуў, што плацілі болей і вы зараблялі грошы Шпэнту, былі ў яго ў батраках.

І ўскінуўшы касу на плечы, як быццам зрабіўшы сваю справу, Кавалёнак пасунуў быў далей.

— Стой, стой, суседзе! Ты гэта ня маніш, праўду кажаш?

— На што мне маніць. Што мне за гэта грошы плоцяць ці што? Чуў. Людзі казалі, як Шпэнт пахваляўся. Казаў, што добра зарабіў на дровах, бо галота, гэта ён пра вас так, вывезла па дзесяць рублёў, а заплацілі яму, Шпэнту, па адзінаццаці.

Пачуўшы гэта рука Гароха борзьдзенька перасунула шапку на самыя вочы і палезла ў валасы.

— І ты гэта ня маніш?!

— Ну, во! Што ты, ня ведаеш мяне ці што? Людзі казалі мне, ну, а я табе, па суседзку,—і бразгаючы мянташкай аб касьсё, рушыў Кавалёнак на сенажаць.

Доўга мяняла сваё месца шапка, пакуль гаспадар думаў, але нарэшце затрымалася на патыліцы. Нічыпар Гарох сакавіта сплюнуў, узяў касу, занёс яе пад раскрытую страху, гукнуў жонцы, каб глядзела сена, а сам за вароты, і толькі пыл залатымі слупкамі завіваўся яму ўсьлед па дарозе.

—:—

Было яшчэ рана. Максім Грузд—малады хлапец, камсамолец, прышоў у народны дом, што ў Закідах, на сваю штодзённую працу.

Абавязкам яго было даваць розныя парады сялянам і пісаць заявы.

Чаго толькі ня прыходзілася выслухоўваць яму. Колькі сьлёз лілося, пакуль апавядалася тая ці іншая крыўда. Колькі раз, як пісаў Максім заявы, закрадалася думка, што шмат яшчэ трэба пакласьці працы, пакуль запраўды будзе зьнішчана ўсялякая злыбеда, а яна яшчэ ёсьць,—сядзіць, падабраўшы хвост, забіўшыся, як гадзіна пад калодаю. Глядзіш, то тут, то там і тне сваім джалам, і ідуць тады і старыя, і маладыя і зусім дзеці—батрачкі-пастушкі, што сталі на працу за кавалак хлеба, нясуць свае скаргі.

Кожнага выслухай, кожнаму растлумач, напішы,—і так кожны дзень. Новая праца для Максіма Грузда была, але любая.

І сёньні вось прышоў ён і чакае, калі хто прыдзе, але пуста на вуліцах. Увесь народ на сенажацях. Падмачыла надвор‘е, усе хапаюцца ўбрацца з сенам, бо там ужо жыта чакае, а потым і ярына.

Агледзіўшы ўдоўж пустую вуліцу, на якой нават і сабакі ня бегалі, вярнуўся да свайго стала, узяў кніжку, каб прагледзіць новае аб сельска-гаспадарчым падатку, як нейкая постаць у зімовай шапцы ціха ўвайшла ў дом.

— Добры дзень!...

— Добры дзень. Вы да мяне?—запытаўся Максім, зьвярнуўшыся да селяніна.

— А то-ж да каго. Вядома да цябе.

— Калі да мяне, то праходзьце вось сюды, бл'жэй, сядайце і расказвайце, у чым справа.

Гарох, пераступаючы босымі нагамі, патупаўся некалькі хвілін на месцы, пакруціў сваю падраную шапку зімовую, быццам яна муліла рукі і ўбачыўшы каля сьцяны ўслон, нейк хуценька ткнуў яе ў куток, а сам асьцярожна, каб не зачапіцца за што, бокам, бокам стаў набліжацца к сталу.

На стул, куды Грузд запрашаў сесьці, Гарох ня сеў, а хутчэй прыткнуў сябе з краю, гатовы кожную хвіліну ўзьняцца з мейсца і бегчы далей.

— Што скажаце?—запытаўся Максім, каб распачаць гутарку з селянінам, які ні то сароміўся чаго, ні то не адважаўся распачаць аб справе, што прывяла яго ў мястэчка, ды яшчэ ў будзённы дзень, калі на сенажацях нязмоўчна гаманілі косы.

— Што скажу? А ўсё добрае.

— Ну, калі ўсё добрае, дык добра,—і крыху шчакаўшы пачаў распытвацца пра пасьбу, сена, гаспадарку, што паступова разьвязала Гароху язык.

— Можа дасі мне газэтку якую-небудзь, заваляшчую,—спыняючы гутарку зьвярнуўся Гарох.—Мне абы якую, каб курыць,—дадаў ён.—Паперы купляць, не накупляцца, ды цяпер і грошай няма, а някурачы ня будзеш. Вось і думаў—растараюся.

— Газэткі? Не, дзядзька, няма ў мяне газэткі, каб курыць, а такая папера ня пойдзе. Вось хіба папытацца ў загадчыка Дому, можа ён знойдзе.

— Калі няма, то ня трэба. Можа і так абыйдуся, а то растараюся каля сваіх хлапцоў. Яны дастаюць у школе, каб пачытаць, мне не даюць—зьбіраюць. Я можа як-небудзь...

Па абліччу Гароха і па ўсім было відаць, што не газэткі прымусілі яго кінуць працу і бегчы за шэсьць вёрст у мястэчка, нешта было больш пільнае, але-ж ён не хацеў ці не адважваўся чамусьці зразу запытацца.

Агледзіўшыся вокал, прысунуўся Гарох бліжэй да стала, нібыта зьбіраючыся паведаміць нешта сакрэтнае, і ціха запытаўся:

— Ці ня ведаеш, часам, пакольні плацілі за дровы, што вазілі сюды, у мястэчка для устаноў.

— Як жа, цана вядомая, цана адна—па адзінаццаці рублёў за сажню. Так плацілі мы, так і ўсе ўстановы плацілі.

— І бальніца, кажаш, плаціла па адзінаццаці рублёў?

— Але, і бальніца.

— Ды як жа-ж так? Ці можа гэта быць? Ты кажаш па

адзінаццаці, а мы—я, Хвёдар Зайчонак, Рыгор Кніга і другія мужчыны атрымалі толькі па дзесяці.

У голасе Гароха пачуліся ноткі абурэньня і крыўды, і ён, б'ючы сябе па каленках худымі рукамі, заезьдзіў на стуле.

— А хто вам плаціў так?

— Да ўсё ж той Шпэнт Андрэй. Ён-жа было падрадзіўся вывезьці дровы ў бальніцу і казаў, што па дзесяці рублёў ад сажні даюць, нават нейкую паперку пісаў там. А цяпер, глядзі... Сам ня здужыў вывезьці, прасіў нас памагчы. Ну я, Рыгор Кніга, Зайчонак Хведар, зяць мой Яўхім, што старэйшую маю дачку Матруну ўзяў, ды яшчэ і ўзяліся. Зямля-ж наша, сам ведаеш, ня хлебная, зусім, можна сказаць, пустая і тае мала, а пракарміцца трэба. Дзевяць душ сямейства трымя дзесяцінамі не пракорміць, а тут табе кароўка, конік... У зяця майго і таго меней зямлі. Вось і думалі зарабіць, а тут, во табе, зарабілі. А каб цябе...

Абураны такой справай Гарох аж сплюнуў сакавіта на мост і ўстаў, зноў сеў і хапіўся за патыліцу, але не знашоўшы там шапкі, пачаў біць сябе па войстрых, худых каленках.

Маршчыністы, як печаны яблык, твар быў напружаны. Відаць, ніяк не магла зьмірыцца думка з недаплочаным рублём.

— Ты-ж, дзеткі, скажы мне, ці-ж можа гэта быць? Мы гаравалі, па пояс у сьнег лезьлі, каб знайсьці дзе якую сухадрэвіну, выбівалі з сябе дух, а ён так насьмяяўся. Га!... Ці-ж лёгка было траляваць дровы па гэткім сьнезе. А конікі нашы, сам ведаеш, дзеткі мае, на іх жа толькі дым вазіць і то ў сухмень, а мы клалі вазы, ды не абы якія, да па такіх гурбах... Стараліся, стараліся ўсё... Я два сажні вывез, зяць мой Дрозд таксама два, а Кніга, а Зайчонак... А ён сабе, гэты Шпэнт, вывез тры сажні, узяў па адзінаццаці рублёў, ды яшчэ і нашыя рублікі. Ты-ж, дзеткі мае, паглядзеў бы, якія дровы мы вывезьлі. Там і кляніна, і дуб, і бярэзіна... Дровы, адным словам, добрыя, ніхто ганіць ня будзе нашыя дровы... А ён па рубліку, па рубліку, ды сабе. Ды яшчэ, ведаеш, за нейкія там маркі хацеў вылічыць, а потым і кажа —ну, няхай мае пяройдзе. Га!... Вось табе—дапамаглі. Вось табе і падзяліўся. Тады гаварыў—я, мужчынкі, сам не змагу вывезьці, хочаце зарабіць, давайце вазіць разам. Як вазіць—то разам, бачыш, які добры, а як грошы—дык вунь табе...

— Ці вы ня пыталіся ў яго, за колькі ён падрадзіўся?—спыняючы Гароха запытаўся Грузд.

— У каго? У Шпэнта? Як ня пыталіся. — Пыталіся. Ён жа нам казаў, што па дзесяці рублёў, а сёньні пачуў, нібыта болей плацілі, вось я і прыбег, каб распытацца... Вось табе і зарабілі.

— Колькі мардаваліся, га?!...

— А ён спажываць будзе? Не, не давядзецца. Прыду ды скажу—аддай мае грошы; сам зарабляў, конь вазіў, каб цябе вазіла на тым сьвеце, а ты што, спажываць будзеш?... Га?...

Не пазнаць Гароха. Крыўда, нечаканая крыўда ўзрушыла чалавека. Вочы блішчэлі гневам, рукі-карчы самі сьціскалі вузлаватыя пальцы ў кулакі і, здаецца, доўга памятаваў-бы недададзеныя рублікі, каб папаўся на вочы зараз Шпэнт.

— Ты вось што,—узьнімаючыся, зьвярнуўся Гарох да Грузда,—калі ён нам не аддасьць грошы, напішаш заяву ў сельскі савет, а то і ў суд. Прапішаш ўсё як было—як ён нас дагадзіў, як мы пацелі, тралюючы дровы па гурбах, як казаў нам, што платы па дзесяці рублёў; адным словам, усё прапішаш Хай будзе ведаць чужыя грошы...

І ўзяўшы сваю кашлатую шапку, Гарох накіраваўся быў, каб ісьці, але, нібыта што ўспомніўшы, зьвярнуўся назад і ціха, саромячыся папрасіў:

— Можа папытаешся пра газэткі. Цяжка ня курачы, а грошай нямашака...

—·—

Думка аб недаплочаным рублі цьвікам засела ў галаву Гароху і не давала спакою. Чым болей ён думаў, тым шпарчэй бег да дому. Гарачыню, сьпеку Гарох не адчуваў, не прымячаў. Не прымячаў ён, як з-пад яго шапкі цурчэў буйны пот по лобе, як скатваўся па маршчынках-разорах на нос, як на кончыку носа зьбіраўся ў вялізную кроплю. Кропля гойдалася ў бакі, зьзяла, блішчэла ў праменьнях сонца і, адарваўшыся, падала ўжо ў дарожны пыл. Толькі, калі пот заліваў вочы, неяк парыўчата праціраў іх рукавом кашулі сваёй зрэбнай, хапаўся за бок, дзе схаваў быў газэткі і яшчэ шпарчэй пасоўваўся ўперад.

Вось і хвойнічак. Ветліва ўсьміхаюцца зяленівам дрэўцы маладыя. За імі ў пералеску павараты ўправа, у сенажаці.

Ногі, патрэсканыя, каравыя ногі, якія, відаць, сабралі пыл з усіх дарог і сьцежак, папярэджваючы думкі гаспадара, зьвярнулі самі ў пlivаратку.

Прабегшы некалькі гоняй, Гарох спыніўся, агледзіў вокам пільным квітнеючую кашулямі белымі сенажаць і пабег на цянькі, падпрыгваючы на купінах да рэзкі Шпэнта.

Высокая, густая трава, затрымоўваючы жвавы рух, запляталася вакол ног, але спыніць Гароха ў яго імкненьні нішто не змагло-б.

Запыхаўшыся, як загнаны конь, падскочыў Гарох да Шпэнта.

— Табе чаго?—затрымаўшы касу, зьдзіўлёна запытаў той.

— Як... як чаго? А дзе мае... нашыя грошы,—ледзь пераводзячы дух, але ў голас закрычэў Гарох.

— Якія грошы? Вось дурны нейкі, прычапіўся. Кажы толкам, ня крычы...

— Дурны?!.. дурны?!.. А ты разумны знашоўся! Як якія грошы?!.. Мужчынкі, паслухайце яго! Ён, гэты жываглот, ня ведае, якія грошы! Ды за дровы, за дровы, што ты скруціў, каб цябе скруціла. Мала з цябе твайго, дык ты яшчэ і наша...

Пакідаўшы працу, пачалі зыходзіцца на лемант Гароха касцы.

Убачыўшы народ, Гарох яшчэ мацней пачаў крычаць, бажыцца і клясьціся з пенай у роце, што Шпэнт, гэты шашаль, гэты ненасытны гад стаіў яго мазалёвыя, крывёй запрацаваныя грошы. У часе абурэньня Гарохавага шапка запырхала па галаве, то соўваючыся з носу на патыліцу, то з патыліцы на нос, пакуль не звалілася далоў, у траву.

Сварка, у якую ўступілі і Зайчонак з Рыгорам і зяць Гароха, пагражала перайсьці ў бойку, бо заварушыліся было косы ў руках, але падасьпеўшы на лаянку старшыня Кугар з людзьмі пачаў унімаць і разводзіць сваручыхся.

— Чакай-жа ты, галота. Будзеш памятаць і шашаля, і свае грошы,—буркнуў сабе пад нос Шпэнт. Толькі Кавалёнак, стоячы з боку, як наглядачы, і пыхаючы сівым дымком з сваёй люлькі, толькі ён адзін чуў гэту кінутую пагрозу...

Натоўп разыходзіўся па сваіх рэзках, жвава абгаварваючы здарэньне, а здалёк яшчэ чуліся выкрыкі пакрыўджанага Гароха ды шастаньне кос спыніўшыхся было касцоў.

---

Цяжкая, штодзённая праца, дробныя гаспадарчыя меркаваньні і клопаты нейк паслабілі войстрасьць цікавасьці да Гарохавай справы. Нават сам Гарох і ўсе, хто разам з ім вазіў дровы, было супакоіліся, падаўшы на Шпэнта заяву ў суд.

Жыцьцё пашло сваёю чарадой, сваёю каляінай. Наступны дзень мала чым адрозьніваўся ад мінулага.

Але зноў спалахнулася вёска, зноў зашумеў, загаманіў натоўп, зноў на момант адарваліся сяляне ад звычайнае плыні будзённага жыцьця. Згінулі з новай будоўлі Шпэнта, няма ведама як і куды, дубкі.

Старшыня сельсавету Кугар, сам Шпэнт, панятыя: Кавалёнак—сусед Гароху, і Несьцяронак, і так вясковыя аматары і спэцы, акружаныя гаманлівым натоўпам, пільна аглядалі месца, дзе ляжалі дубкі, шукаючы якога-небудзь сьледу, каб знайсьці злодзія. Рабіліся розныя здагадкі. Пералічвалі ўсіх вядомых і невядомых злодзеяў, як сваіх, так і ваколіч-

ных, а да пэўнай думкі прысьці—ня прыходзілі. Дык к таму-ж і сьлед, затаптаны босымі нагамі, лапцямі натоўпу, згубіўся для пільнага вока сьледчыкаў.

Прайшлі ў вадзін бок, прайшлі ў другі, выйшлі на дарогу, што йшла па загуменьню—няма.

Ды ці лёгка пазнаць сьлед злодзея ў пыле дарогі, па якой усе цяпер езьдзілі.

Зьлёгку штурхануўшы Кугара і адвёўшы ў бок, Кавалёнак зазначыў, што з вечару Гарох некуды зьбіраўся ехаць. Ці ня ён гэта часам, злуючыся на Шпэнта, і ўзяў дубкі.

Такая думка здалася дзіўнаю для Кугара. Але... Гарох хоць і бядняк, але сумленны чалавек быў, Кавалёнак жа—сусед Гароху і пэўне-ж нешта ведае, калі так гавора. Напрасьліну ня ўзводзіў-ба. Трэ' паглядзець.

Пасоўваючыся ўдоўж гумнаў неўзаметкі падышлі да п展варатκі к Гарохаваму гумнішчу і тут нехта з наўтоўпу крыкнуў, паказваючы на сьвежы, даволі глыбокі сьлед:

— А во і сьлед!

— Бачыш, нават, пад цяжарам дубкоў як глыбока ўразаліся каткі.

Натоўп загуў. Кожны строіў дагадкі, выказваў свой погляд.

Узрадаваныя сьледам усе падышлі к гумну, дзе больш спрытныя да розных здарэньняў, больш дасьціпныя пасьпелі агледзіць, абнюхаць усё і з крыкам задавальненьня выцягнулі дубкі, што ляжалі пад грудам лам'я і калодзьзя.

— Мае дубкі, мае! Вось і прымета, што мае,—паказваючы на нейкія меткі, зароў Шпэнт.

Варам абдало Кугара. Няўжо Гарох па злобе запраўды зрабіўся злодзеем. Сумленны чалавек—і злодзі... Хай бядняк, але ўзяць хоць і па злобе... Не!... Не!... Тут трэ' асьцярожна паглядаць,—мільганула думка ў галаве Кугара,—а то часам чалавек можа за нішто прапасьці,—і рашуча пачаў дзейнічаць.

— Ну, мужчыны, адступецеся ад сьледу. Трэба яго добра разглядзець. Ты Несьцяронак, а то так хто схадзеце паклічце Гароха, паслухаем, што ён нам скажа,—а сам нахіліўшыся амаль да зямлі, пачаў углядацца ў сьлед.

Народ, стоячы абапал дарогі, дапамагаў Кугару сваімі заўвагамі.

— Вось глядзі, бачыш?! Тут во сьлед пярэдніх каткоў. Каткі някаваныя, а вось табе і задніх,—яны каваныя. Глядзі, глядзі, як відаць.

— Да адступіся ты, Кавалёнак. Што ўсьпёрся на сьлед ды топчышся, як... Зыйдзі з дарогі.

— Во, во! Глядзі і сьлед капытоў. Э! Браткі, ды на аднэй назе капыт абламаны...

— Ды не, гэта не ад капыта. Гэта так нейкая ямінка,— зазначаў Кавалёнак ды зноў лез наперад.

— Што гэта ты круцішся папераду, як шкурат на агні. Адыйдзіся ў бок ды паглядзі—ці гэта коньскі, ці якога чорта сьлед.

— Злодзеем, злодзеем мяне ўжо зрабілі, Шпэнтавы калодкі пакраў! А каб ён ня бачыў дзяцей сваіх, як я калодак ягоных! Мужчынкі, што гэта?—Ні то прасіўся, ні то пытаўся расхваляваны Гарох.

— Ты вось што, ня крычы, а лепей адкажы—ці езьдзіў учора падвечар куды,—зьвярнуўся Кугар.

— Не, ня езьдзіў. Яй-права ня езьдзіў? Праўда, зьбіраўся паехаць па снапы. Снапы ў мяне засталіся ў „Камянішчы“, але конь мой нешта захварэў, ня есьць, то і не паехаў.

— А можа закульгаў твой конь,—выпнуўся з натоўпу нейчы сьмяшлівы голас.

— Каб ты сам кульгаў па век...

— А чаму ня кульгаць яму, калі капыт падламаўся. Во, глядзі. Бачыш?

Гарох, зьбіўшы шапку на самую патыліцу, стаў уважліва разглядаць сьлед, потым узьняў галаву, разважаючы нешта. Натоўп сьціх. Пытлівыя вочы сьвярдзёлкамі праніцалі Гароха.

— Не, мужчынкі, мана. Тут ня мой конь ішоў? Яй—права ня мой! У майго каня ўсе капыты цэлы. Вось хоць зараз агледзім.

— Ды як цэлы, калі твой конь кульгае,—зноў кідаў тойжа голас,—я сам бачыў?

— Ох! Ты ўсюдых бачыш! Ці не спамыліўся толькі часам?! Гэта-ж майго суседа Кавалёнка, дык праўда, кабыла кульгае...

— Так можа гэта я пакраў дубкі! Што ты плявузгаеш на мяне. Ах ты злодзі!—закіпеў Кавалёнак.

— А на някованых калёсах хто езьдзіць, калі ня ты. Што, можа скажаш не?

— Чаго ты так узьеўся,—спыніў Кавалёнка Кугар.— Тут-жа сьлед паказвае, што пярэднія каткі толькі някованыя. Што ты блутаеш.

— Вось што,—зьвярнуўшыся да ўсіх, дадаў Кугар,—трэ‘ агледзіць каня: калёсы як Гароха, так і Кавалёнка, бо мне здаецца, тут справа нешта ня чыстая. Пры апошніх словах Кавалёнак, як палатно зьбялеў.

— К... к... к... кабылы няма ў двары, на пашы, аж пад... «Воўчым логам»...

— Нічога, пашлеш—прывядуць,—адказаў Кугар і накіраваўся к хатам.

Агледзеўшы Гарохавага каня і калёсы, усе пераканаліся, што ня ён вёз дубкі, а Кугару неяк нават і палягчэла.

Гарох ня браў дубкі.

Затое выведзеная з хлява кабыла Каваленка, накульгваючы на пярэднюю левую нагу, ўзрушыла натоўп, а калёсы праканалі ў крадзёжы.

— Во дурны, так дурны! І зрабіць як сьлед ня змог,—ціха, у бок прашыпеў Шпэнт.—Дарма паіў гарэлкай. Яшчэ пачне...

— Браточкі мае, даражэнькія, ня браў я дубкі,—не сваім голасам запрасіўся Кавалёнак, убачыўшы, што таіцца больш няма куды.—Усё гэты жываглот Шпэнт. Ён падбіў мяне. Зацягнуў да сябе, напаіў гарэлкай, а потым і кажа:—«Вінен ты мне?»—

— Вінен, кажу. пачакай, аддам. Ня ў сілах адразу.

— Зрабі мне ласку, пачакаю, а мо' і зусім дарую,—спакушаў мяне далей, як той нячысты, а сам усё падліваў ды падліваў.

— Ну, мой грэх. З п'яных воч і згадзіўся.

— Брэша ён, брэша! Не паіў я яго і кампаніі з ім не вадзіў,—кінуўся к Кугару Шпэнт.—Гэта ён каб выкруціцца. Пакраў дубкі, ды падклаў суседу. Знойдуць, мол, ня ён вінен, а Гарох. Мы-ж з Гарохам, мол, судзімся. Эх ты! Злодзі, злодзі! І красьці, і канцы ў ваду хаваць ня ўмееш, а яшчэ надумаўся на людзей сорам узводіць.

— Ну, годзі. Як бачу я, абодвы вы роўныя. Зьбірайцеся, пойдзем у савет, там і расьбяромся.

— Усе рушылі з двара.

М-ка Клічаў.

*Язэп Сукала.*

# У восень.

На памінках лета явар да каліна
Расьсяваюць сьлёзы — жоўтыя лісты...
Ой, пайду я гаям, выйду на даліну,
Моўчкі прывітаўшы голыя кусты.

---

Ой, пайду я гаям... Выйду, запытаю:
„Дзе-ж дзявалась постаць смуглае жняі?"
Мне адкажуць далі: «Кужаль запрадае,
Больш не адгукнецца песьня у гаі.

---

Больш ты не пачуеш шопату калосьсяў,
Погляд ня прывабіць сіні васілёк.
Новыя акорды з новых суталосьсяў
Заплятаюць жоўты восені вянок.»

---

Пастаяушы моўчкі, разьвітаюсь з летам,
Разьвітаюсь шчыра я з яго красою
І пайду да мэты восеньню сагрэты,
Няхай плача явар жоўтаю сьлязой.

---

Няхай плачуць хмары, вецер завывае:
Ці-ж патухнуць ў небе зораньκі-агні?!
Доля наша з намі, доля агнявая,
Ў далях нам ірдзяцца сонечныя дні.

Вёска Гулевічы,
Чырвона-Слабодзкага раёну.

*А. Жаўрук*

## Газэтчык.

Эх,
Помню горад,
Шэрым дымам апавіты;
Шалёных куляў
Посьвіст зухаўскі,
Гарматы вылі,
Уздрыгалі камяніцы,
Наўкол—
Агні...
Сігаў газэтчык
На асьфальце сінім,
І я пачуў
Пад кулямётаў сьмех:
„Правда!“
„Известия!“
„Апошнія навіны:
Разьбіт Калчак
Чырвонымі нашчэнт!“
І сэрца
Радасьней у грудзёх
Забілася
За родны край,
За вольны, алы сьцяг.

—·—

Гады мінулі
Вогненных мяцеліц,
Заціх у палёх
Хаўтурны роў гармат. .

А сёньня,
Сёньня
На гудушчай вуліцы
Ў электрабляску
Зноў убачыў я:
Стары знаёмы
На ранейшым каравуле
Сталёвым голасам
Задорна выкрыкаў:
„Правда!“
„Известия!“
„Апошнія навіны:
Няхай жыве
Сусьветны Першамай!
Сацыялізм
Будуем у краіне,
Вітаем
Жоўты
Ўзьняўшыйся Кітай!“
І...
Сэрца зноў
Вальней загрухацела,
Ярчэй мільгнулі
Сініх воч агні...
І ўсплыў на памяці
Мне горад
Дымна-шэры,
Шалёных куляў
Посьвіст зухаўскі.

Рагачоў.

*Зьм. Ліпнёвы.*

# Жніўная радасьць.

Сьмяецца лета. Яно хвалюе сэрца і гоніць з вачэй сумотнасьць... Сонца, як магутны плавец, размашыста ўдарае вёсламі залатых нітак-праменьньняў па вузкіх палосках. Поле разьліваецца жоўта-белымі фарбамі сьпелага жыта, якое пахне салодка-прыкрым пахам хлеба, ды пераліваецца золатам. Бачыш, як хіліцца буйная сіла пад гарбатым сярпом жняі, на якім паблісквае сонца, як хочацца сярпу жыць на вольным прасторы, прагавіта хапаючы дары летняга сонца, жывіцца імі і жыць, ды жыць...

У сонечным моры празрыста сінімі хвалямі, над пахучаю шырынёю поля, калышыцца душная смага летняга дню, пярэсьціцца зьзяе вакол пышна-квяцісты дыван патроху засыхаючых красак. Жаўранак тонкім срэбным званочкам уліває ў самае сэрца чалавека сваю пераліўчатую песьню, якая сьвежасьцю працінае цела, нараждаецца бадзёрасьць і робіцца бязьмежна радасна. Бязупынна дыхае зямля сваімі пульхнымі, успацеўшымі ад палка-напружанай ласкі летняга сонца раскінутымі грудзямі.

На вузкай палосцы гне свой зграбны, хрупка-крамяны стан Зося. Зграбная, сьвежая. Тварык загарэлы, любы, прыгожы, заўсёды з чароўнай усьмешкай. А вочкі, як васількі ў красуючым жыце, так і топяць твой погляд у таемна-яскравым бяздоньні і гараць знаёмым агнём. У грудзёх подых сьветлага, шырокага, як жыцьцёвага мора. Ветрык-сваволец зыбаецца па залатых калосьсях, то цалуе-песьціць твар Зосі і ад гэтага яна апускае серп, узьнімаецца ўва ўсю сваю істоту і вочкамі сваімі ў лес уцякае, які, п'яны хмельнымі днямі і звонкімі песьнямі птушак, заве ў свае пышна змрочныя, цяністыя палацы... Яна зачароўваецца шыракалістымі клёнамі, кучарава-доўгавалосымі русалкамі—бярозамі, ды говарам касцоў і стальным звонам касы. А то ляжа на мяжы, узяўшы ў абоймы травы пахучай, прыцісьне да грудзей сваіх пульхных і ў істоме адкінецца дагары і пачынае марыць

Успамінаецца, як нядаўна, ой нядаўна яна сядзела за кнігай у далёкім горадзе, вочкамі сваімі льняна-васільковымі ўпівалася ў дробныя літары. Яна студэнтка-сялянка. Успамінаецца ей і малады загарэлы Рыгор, які закрануў яе душу, парушыў ціхае жыцьцё. У тую хвіліну, калі яго зграбны стан стаіць перад яе вачыма, яна сашчэрвае свае зубкі і самі сабой вылятаюць ледзь чутныя словы:

Люблю яго, люблю...

Зося падымаецца і зноў пачынае спрытна рэзаць сьпелае жыта.

Вось дзе ўцеха, сярод сьпелага жыта слухаць, ям пяюць жаўранкі ды шумяць каласы і ў гэтым шопаце чуе яна нешта роднае, блізкае і чуласьцю сьветлаю аплятаецца яе дух. Вось дзе можна памераць сілу. І яна мерае з радасьцю нявымоўнай на вузкай палосцы, дзе на пахіліўшыхся к долу каласох рознакалёрым бляскам пераліваецца сонца. Жне і запявае сумна-жніўную песьню:

«Ой ды ня шумі ты, жыта залатое,
Ой ды ў полі каласкамі...»

А яно, ахінуўшы яе, шуміць, яно ня хоча маўчаць, бо шкода мінулых дзён, калі яно хвалявалася цёмна-сінімі фарбамі, калі на ім брылянцістым дожджыкам пералівалася раса і яно дыхала сьвежасьцю і радасьцю, цяпер яно сумуе, бо адзін за адным павольна і ціха зрезваюцца з звонам каласы і заплятаюцца ў залацісты вянок—сноп.

Смага томіць Зосю і яна, напіўшыся жывой вадзіцы, пяе бадзёрую песьню:

Новы дзень спаткаць ідзём
Дружнай грамадою...

Яна сустракае новы дзень і перамагае жыцьцё, а кал адна ня зможа, дык грамадою... А гады ідуць, як хвалі валяць. Яны нясуць з сабою жыцьцёвае шчасьце.

Былі гады, як крывёю abліваліся гэтыя гоні. Былі гады, як бацька не хацеў рушыць старога закону, бо быў цёмны. Але Зося перамагала ўсё. Цяпер—камсамолка. І стары бацька зразумеў вялікае слова—Камсамол. Цяпер толькі жыць, ды жыць. І яна жыве і сустракае ў прасторах заўтра.

Яна ідзе сьцежкаю да шчасьця ўсіх бяздольных і знойдзе яго... І жне з радасьцю нявымоўнай, хоць і рукі баляць і колецца ў босыя ногі іржышча.

Вечар.

Жыта, бы чарот высокае, хвалюецца ў цёплым густым змроку. Зоры сьвецяць. Шэпчуць лозы над ракой аб жыцьці

і каханьні. І хочацца жыць, жыцьцём шчасьліва-непарушаным, поўным радасьцей нязьведаных. А жнеі па шнуру ідуць з песьняю жніўнай. Зося нечага прыстала і ідзе адна, любуючыся хараством жніўчага вечару і глядзіць на вёску, якая жмурыцца на месяц з пад страхі-далоні. Раптам Рыгор з касою на плячох і з вясёлаю камсамольскаю песьняй.

Рыгорка, любы...

З радасьцю падышла Зося к Рыгору і разам ідуць. А зоры сьвецяць новым сьвітаньнем. Грудзі тугія ўзьнімаюцца ў абоіх шчасьцем ціхім, як ціхая песьня пра жыцьцё і каханьне...

Ї вечар засьцілае сваёю коўдрай іхнія цені.

Слуцак.

---

*А. Жукоўскі.*

# Я спаткаў яе ўчора.

Сонца ўрачыста ўзышло з бяздоньня,
Вецер з палямі гавора.
Мо' таму мне і весела сёньня,
Што спаткаў я яе ўчора.

* * *

Я спаткаў яе ўчора ля броду,
Дзе таемна шуршыць пясок.
Праз задумную леса згароду
Выдзіраўся месяц-сярпок.

* * *

Гэты месяц—сярпок залаценькі—
Ой, цікавы! Усё знаць хоча...
Як свавольны хлапчук маладзенькі
Заглядаў ён у яе вочы.

* * *

Яе вочы... Ой, ветрык, ты вецер!
Ша... Маўчы, бо й ты штось бачыў:
Хай мы трое на ўсім сьвеце
Будам знаць, што іх сьвет значыў.

* * *

Будам знаць... А ці помніш, нядаўна
Мы былі зусім чужыя?
Ці ня ты, мой таварыш, мой слаўны,
Сьцежкі зблытаў маладыя?

*Янка Хмель.*

# Кавач-Мароз

Кавач-мароз у зорну ночку
Сівізнай шорсткаю трасе,
Зьнімае зеляні сарочку,
Сваю-ж уласную нясе.

І на бурлячых хвальных рэчках
Крыштальны мост кавач кладзе,
І жарыць холадам у спрэчках,
Калі вайною сонца йдзе.

Кавач гартованай рукою
Ўладае ветрам ноччу, ў дзень,
Калечыць цьвецень прад сабою,
На зімні шлях усё вядзе.

Як запраменяць сонца іскры,
Калі ў лядовую пліту,—
Загад тут ветру. Вецер кіслы
Іх зараз рэжа на ляту.

Кавач на варце паляваньня
Сівізнай шорсткаю трасе,
Стаіць ад раньня і да раньня
На саламянае страсе.

З кіёчкам швэндае ля плоту,
У санках едзе па сьнягу,
Скрыпіць ў паветры самалётам,
Савой кугача ў берагу.

І дрэвы сьцісла так стрыбушыць,
Тапор адскаквае, зьвініць,
Мароз-паўстанец іскры трусіць,
Ў сьняжынках холаду агні.

Вёска Убалоцьце,
Клічаўскага раёну.

*В. Гараўскі.*

# Ноч зімовая.

**(Апавяданьне)**

I.

Ноч.

Хмурая і сярдзітая, густая, як балотная твань, зімовая ноч. Жудасна завывае вецер, кідаецца па шырокіх разлогах і плюецца сухім калючым сьнегам. Неба шэрае навісла нізка над зьледзянелай зямлёй, і здаецца, што гэта няпрыветлівае неба цяжка ўзвалілася на зямлю, прыціснула яе непамерным каменем.

У сьнежным ільдзяным кісялі загубіліся дарогі і сьцежкі, прытуліліся да сухой, прыдушанай зямлі. Кусты захаваліся ў шэрых гурбах, каб ня чуць балючага стогну зьдзічэлага ветру.

Нячулая, страшная ноч. Помсьціцца на тых, хто адважыўся заглянуць у яе ільдзяную глыбіню. Як скалечаны зьвер, кідаецца на ўсё, што падае адзнакі жыцьця.

Людзі захаваліся ў цёплых хатах, думаюць пра тое, што зроблена і пра тое, што трэба зрабіць. А ноч галосіць пад вокнамі, шалее ў полі. Цалуе адзінокага падарожнага, маніць у сьнежную пярыну. Шэпча пяшчотна і ласкава: „Сядзь, чалавеча, супачынь. Я сагрэю цябе сваёй шырокай нязьведанай ласкай. Навею ружовыя сьветлыя сны, буду сьпяваць табе песьню пра далёкае, недаступнае шчасьце“. Шэпча, зазывае да сябе, абяцае радасьць у халодных абнімках. Аберуч хапаецца за ногі і трымае іх у глыбокіх навалах сьнегу.

Пуста і адзінока кругом. Няма канца імглістай пустыні, няма граніцы бяздоньню варожай цемры. І сьнег і вецер зьмяшаліся ў адно. Заблыталіся думкі няроўнымі шэрымі клубкамі. І хто яго разьбярэ, ці гэта вецер вые ў полі, ці пераліваюцца адгалоскі ўспамінаў? Усё робіцца нявыразна шэрым і цьмяным. Аднекуль, з глыбіні мінулага выплываюць нявыразныя цені і бягуць, уцякаюць некуды, шпарка

бягуць, але ніяк ня могуць уцячы. Губяцца нейдзе, то зноў успlываюць блізенька, зазіраюць у вочы знаёмым поглядам, як тады... дзесяць гадоў назад.

Падарожны рвецца наперад, у абнімкі магільнай цемрадзі. Рашуча выцягвае з сьнежных гурбаў стомленыя ногі, адмярае крок за крокам. Ідзе сьмела пад жалобны напеў завіхуры, бо ведае, што пад шэрым сьнежным абрусам ляжыць цьвёрдая дарога, па якой праходзіў многа разоў.

Даўно гэта было...

Тады твар яго сьвежым і чыстым быў. Ня было на ім калючай чорнай шчаціны, ня было глыбокіх складак-маршчакоў. Тады быў маладым вясёлым хлапцом. Многа разоў прамераў гэту дарогу, сабіраў квітнеючыя сілы, каб пасьля распаліць іх у бурных парывах самаахвяры, у попеле боек, загартаваць у звоне жалезных станкоў. Цяпер прывык к жалезу, вечна радасныя песьні яго любіць навучыўся. Расплыўся сэрцам у гарачых горнах, ім аддаў сваё пачуцьцё.

Чалавек схамянуўся. Перад ім раптам вырас густы і хмуры лес. Глуха гулі верхавіны і ў гудзе іх чуліся песьні —цягучыя, сумныя лясныя песьні.

Успомнілася ўсё. Сэрца застукала моцна, моцна, бы вырвацца хацела з цесных грудзей. Хацела засьпяваць песьню аб нечым далёкім, далёкім, як тое шчасьце дзіцячае, што даўно адышло ў нябыцьцё. Нешта магутнае закіпела ў нутры, рвалася праз лес, пад нізка навіслыя стрэхі, дзе ўсе забыліся пра яго, дзе ніхто не чакае. Хутчэй, хутчэй... Хаця на адну хвіліну, на адзін момант толькі... Не гаварыць нават, пабачыць і пайсьці, каб болей не вярнуцца.

Лясок парадзеў. Дрэвы расступіліся, паказваючы з-за сябе шырокае сьнежнае мора. Высока падняліся яны верхавінамі к шэраму небу, як вартаўнікі асілкі. Стагналі глуха і жудасна. І трудна было зразумець, адкуль выплываў безнадзейны стогн: ці з вяршын аголеных дрэваў, ці з глыбіні зямлі, над якой схіляліся пачарнелыя крыжы.

Гэта могілкі.

Чалавек спыніўся. Сумнае нешта і шэрае, як гэта бяздоньне ночы закутала нутро. Успомніў родных і блізкіх, але ня ведаў, дзе іх шукаць. Мо' ужо сюды сваё жыцьцё прынесьлі, захавалі пад чорнымі крыжамі? Зьнікла даіцячая радасьць, памерла. Трупам легла на могілках і ніколі не ажыве. Думкаю толькі можна вярнуцца, а колькі-б ня йшоў, колькі-б ня блытаўся па знаёмых сьцежках, ня ўбачыш болей мінулых дзён.

Ніколі яны ня вернуцца.

II.

— Лезь, смаркаты, на печ і сядзі, а ня блытайся тут пад нагамі!

— Молька, за што ты яго б'еш? Вечна ў цябе чаго-небудзь не хапае, вечна трэба да каго-небудзь прывязацца.

— Няхай сядзіць шчанё. Нечага табе заступацца, бо каб пасядзеў з імі, так ведаў-бы...

— Змоўкні, ты, хаця на адзін вечар... Надакучыла ўжо...

— Надакучыла — а, падумаеш! Калі гэта табе надакучыла? Хто цябе дома бачыў? Чорт цябе ведае, дзе ты шлындаешся... Па жонцы ды дзецях галава не баліць, а як сабака туляешся ўвесь час пазавугольлю; так і глядзіш, каб дзе каго ўкусіць. Не, годзі ўжо гэтага! Чаго ты хадзіў сёньня да Макара, чаго ты ў яго ня бачыў? Радня табе якая, ці што? Ну, кажы ўжо, а мы паслухаем... Чаго-ж маўчыш?... Чужой зямлі захацелася? Сваей хаця дапільнуй.

— Захацелася. Надакучыла парабкам быць.

Габрусь хітра ўсьміхнуўся і прамармытаў быццам сам да сябе:

— Панам скора зажывеш...

Молька захадзіла па хаце, ня ведаючы, за што ўзяцца.

— Душу выматае зямлёй,—глуха прагаварыў Марцін, не падымаючы галавы.

Габрусь спакойна набіў люльку табакай, пусьціў пару клубкоў і загаварыў, паглядаючы то на Марціна, то на Андрэя.

— Хутчэй-бы дачакацца гэтай абрэзкі, бяду з галавы збылі-б. Дзякаваць богу, чатыры гады цягнецца. Прыедуць хлысты, папішуць, паперы напсуюць і, памінай як звалі. І цяпер цэлую зіму будуць пісаць, трэба-ж хлеб есьці, а летам — пад кусты. Абяцанка — цацанка, а дурному — радасьць. Няхай-бы ўжо бралі хутчэй гэтыя пяскі. Падаткам-бы мо' скуры ня дралі так. Гараваць менш трэ' было-б на іх.

Габрусь моцна зацмокаў, аж у цыбуку заквактала і цягнуў далей.

— Вось ты, Андрэй, зямлі маей хочаш. Ну, што-ж? Бяры, калі на гэта закон ёсьць. Ці я супроць гэтага?

— Хай хваробу возьме,—перабіў Марцін.

— Бяры, брат, мне ня шкода. Толькі думаеш, пяску пад'ясі? Не, брат, нутро не ператравіць. Бывае, адрыгнецца нядобра. Ня маеш бяды, так будзеш мець. Засееш чым? Лебядой? Не, брат, на пяску лебяда не парасьце. Без насеньня толку мала. Думаеш у крэдытным пазычыць? Год будзеш хадзіць, покуль сьлёзы выпрасіш. А з цябе тады скуру злупяць.

— Гэта праўда,—уставіў Марцін.

— Я-ж так і кажу: ня хочаце бяды—не пачынайце, самім спакайней будзе... Бацькі жылі, мірыліся, і мы паладзім. А вясной, калі цяжкавата каму, то й падможам адзін другому.

— Мы сваімі сіламі выб'емся,—крыкнуў Андрэй,—нам ня трэба вашай помачы.

— Маўчы!—сыкнуў праз зубы Марцін.

У калысцы заплакала дзіця. Молька ўсхапілася з лавы і пачала разграбаць кучу брудных посьцілак. Па хаце расплыўся едкі прэлы пах.

— Стася, прыкладзі на комінак смаляка.

— Ай, мне прасьці трэба.

— Іш, работніца якая, запрацавалася. Гэтак пільна ўзялася, што і смаляка прыкласьці некалі.

— Юзік, саскоч там з печы, ды прыкладзі, няхай ёй засьвеціць там...—злосна распарадзілася Стася.

— Ннхай-жа табе засьвеціць, як ты любіш другім загадваць. А табе-то цяжка ўстаць?

Але пакуль Молька скончыла крычаць, Юзік паклаў два смольных карчы і зыркае полымя весела глянула на хату.

— А каб цябе хвароба ўзяла,—не змаўкала Молька,—на што ты па два смалякі кладзеш? Секці-то цябе ня выправіш, а як паліць, то цэлы воз за раз спаліў-бы. Яшчэ сажа ў коміне загарыцца.

— Сьціхні ты, памаўчы хаця адзін вечар,—чуць ні плачучы, загаварыў Андрэй.

— Ляжы ўжо, калі ляжыш, каб ты каменем ляжаў. Яшчэ ты свой нос усадзіш, куды ня трэба...

Скрыпнулі дзьверы. Унізе, цераз парог сівымі клубамі хлынуў холад.

— Добры вечар!

— Добры вечар... Добры вечар, — адказала некалькі галасоў адразу. Усе вочы павярнуліся ў бок незнаёмага, які стаяў у парозе.

Лёгкая летняя шапка і пацёртае васеньняе паліто прыдавалі яму выгляд чалавека не тутэйшага. На блядым твары застыглі ружовыя плямы. Але ад чаго яны—цяжка было зразумець: ці ад таго, што яго грудзі хваляваліся і ён нешта непакоіўся, ці ад таго, што мароз быў сярдзітым на двары. Чорная густая шчаціна на твары змушала думаць, што ён даўно занядбаў выглядам свайго твару.

— Вось я толькі на хвіліну,—азваўся няпэўным голасам незнаёмы,—я толькі хачу сагрэцца крыху, бо вельмі сьцюдзёна на двары.

— Будзьце ласкавы, праходзьце,—адказаў няўважна Марцін.

— А хто вы такі будзеце, скуль вы?—пытаўся ў сваю чаргу Габрусь.

Незнаёмы з хвіліну маўчаў, ясна можна было зразумець, што ён ня хоча даць пэўнага адказу.

— Ну, але ўсё-ж-ткі, чаму вы ня хочаце казаць? Куды вы такой парой ідзіцё?—цікавіўся Габрусь.

— Шукаю, ведаеце, прытулку сярод людзей. Вандрую так з кутка ў куток.

Незнаёмы стаў моўчкі грэць рукі пры комінку. Габрусь нейкі час падазрона паглядаў на яго, пасьля ціха загаварыў аб нечым да Марціна. Дзеці захаваліся далей на печы і змоўклі.

— Сьцюдзёна на дварэ,—загаварыў аб другім незнаёмы, —так дзьме, што сьвету ня відаць.

— Вам, відаць, халаднавата было ў гэтай шапачцы,— азваўся Марцін.

— Што й казаць. Цяпер толькі на печы сядзець.

— Да ці ліха яго высядзіць на печы, трэба й на двор нос высунуць.

— Цяпер-жа працы няма ў гаспадарцы, хіба скаціну толькі дагледзіць.

— Так, то так, але хочацца, каб хутчэй дачакацца цяпла.

На печы заварушыліся дзеці.

— Сям'я ў вас, відаць, ладная,—зьвярнуў увагу незнаёмы.

— Якая там сям'я. Старую сваю яшчэ летам у каляды пахаваў. Толькі дачка, ды сын засталіся. Гэта ўжо самая малодшая; прадзе, скора й яе замуж аддам, годзі ўжо бацькаў хлеб есьці. А то ўнукі на печы.

— Ці вы толькі аднаго сына мелі?

— Быў яшчэ старэйшы, Лявон, той памёр.

— Хварэў, ці як?

— Ён і хварэць не хварэў, а так ведаеце, малаціў у суседа... увосень гэта было... салому насіў... ды сярэдзіну навіхнуў... праз гэта памёр.

Габрусь неспакойна зашавяліўся на лаве, мацней запыхкаў крывым цыбуком.

— Хто ведае, што каму на раду прызначана і што каго чакае,—хмура абазваўся ён.

У шыбу цьвёрдым комам стукнуўся вецер. Нешта затрашчала ў платох, завыла дзікімі галасамі. Дым з коміна нахлынуў на хату.

— Звар'яцела зіма,—азваўся незнаёмы.

— Нядобра цяпер па сьвету хадзіць. У сваім кутку зацішней.

Габрусь сьвярдзёлкамі вочы наставіў на бляды аброслы твар.

— А колькі людзей валочыцца па сьвеце, ня маючы ўласных куткоў!?.

Незнаёмы бокам павярнуўся да Габруся.

— У нас такіх ня чуваць,—цягнуў апошні прыкрым скрыпучым голасам,—былі ў галадоўлю, а цяпер не.

— Хто ведае, мо' й з вашых хто пераносіў усялякую непагадзь.

— Яно ўсяляк здараецца. Быў і ў мяне сын...

Габрусь абарваў, не дакончыў. Шпарка вытрас попел з люлькі і пачаў набіваць яе сьвежай табакай.

— Так што з ім?—пытаў незнаёмы.

— Ня ведаю, дзе ён цяпер...

— Мо' на вайну забралі?

— Не, сам з дому пайшоў. Такі ўпарты быў.

— Як-жа гэта ён кінуў хату ды пайшоў?

— Не хацеў бацькі слухаць. Я насварыўся на яго, всеь ён цераз гэта і пайшоў.

— І нічога пра яго ня чулі?

— Хто яго ведае?.. З пачатку чуткі хадзілі, быццам-бы ён камісарам у бальшавікоў. Пасьля казалі, што на Украіне нейдзе служыць. А хутчэй за ўсё прапаў нейдзе за няма што.

— Мо' жыў яшчэ, мо' вернецца...

— Каб жыў быў, то вярнуўся-б.

— А даўно ён пайшоў?

— Даўно. Гадоў мо' дзесяць...

Габрусь апусьціў галаву і змоўк.

— Вы, мусіць, ведаеце тут каго, калі так пытаецеся,—зацікавілася Молька.

— Не, ня ведаю. Цікава пачуць, як людзі жывуць.

— Якое тут жыцьцё,—загаварыў Марцін,—жывеш век, а з бяды ня вылезеш.

— Зямлі мала?

— Дзьве дзесяціны.

— Цяпер-жа надзяляюць зямлёй?

— Самі браць ня хочуць. Прывыклі ногі лізаць гэтым во...—Андрэй ткнуў пальцам на Габруся.

— Змоўкні, лярва, глотку разявіў,—закрычала Молька.

— Ты здыхай без зямлі, а я ня хочу.

— Падавішся яшчэ, праз горла вылезе,—ядавіта засіпеў Габрусь.—Разяўляешся на дарэмную, ты зарабі яе, а тады крычы. Добра ўмееш крычаць на ложку лежачы.

— Я ўжо даўно зарабіў яе. Мой бацька век гараваў на ёй..

— Якое табе дзела да таго, што я рабіў?—злосна крыкнуў Марцін. Але Андрэй, здавалася, ня чуў нічога, ён гаварыў, на кожным слове павышаючы голас.

— Ганку прагнаў калісь, не заплаціўшы за паўгода сабачай службы. За што? За тое, што спаць з табой не захацела... А калі Мікола за яе заступіўся, што ты з ім зрабіў? Зьбіў, як сабаку і выгнаў у сьвет. Гэта сына свайго так? Цяпер хочаш, каб ён вярнуўся? Сабака пасьля гэтага ня вернецца...

— Што было, тое ня вернецца, нечага ўспамінаць.

Марцін зсунуў сівыя бровы і злосна паглядзеў на сына.

— Гарачы які, — працадзіў Габрусь,—расхадзіўся, бы варам абдало. Век жылі і ціха было, а ты, брат, распанеў вельмі, вылежаўся, так і загаварыў вельмі... Бацьку-б старому падмог, капейку якую зарабіў. За гэта не заплоцяць, што пагаворыш.

— Што, дзядзька Габрусь, хочаш, каб і я зьвіхнуў сярэдзіну, носячы табе салому, пайшоў на могілкі к брату?.. Ня з роскашы ён прыходзіў да цябе, ня з радасьці, бы дома есьці ня было чаго. Ну, але я не пайду. Не дачакаешся!

Андрэй адвярнуўся да сьцяны і змоўк.

— Маўчы, гадзюка! — уськіпеў Марцін,—зноў разышоўся?! Ты нам усім жыцьцё запаганіў!

Ён стукнуў кулаком па стале, аж сьцены здрыгануліся.

— Годзі гэтага. Я не пацярплю, каб у маёй хаце зладзейскае насеньне прырастала! Я тут гаспадар!

У хаце зрабілася ціха, як у магіле. Агонь квола бліснуў і згас. Ніхто ня кратаўся. Толькі Габрусь смактаў патухшую люльку. Марцін зросься з сталом і ня кратаўся. Яго валасы зрасьліся кудлатай сівай барадой і ў гэты момант уся галава здавалася шэрай купінай, абросшай махнатым мохам.

Навіс цяжкі неспакой, каменем стапудовым прыціснуў нутро. Ніхто не адважваўся гаварыць. Толькі вецер сьмялей загаласіў пад вокнамі.

Здрыганулася калыска.

Піскліва заплакала дзіця. Плач гэты войстрым нажом кальнуў. Молька злосна рванула калыску, а дзіця яшчэ галасьней закрычала.

Раптам незнаёмы падняў галаву. Ціха падыйшоў да стала, бы кошка крадучыся да сваёй ахвяры.

— Што-ж змоўклі дзядзькі?—прагаварыў цяжкім прыдушаным голасам, — гаварыць болей няма чаго? Хочаце жыцьцё завярнуць назад? Дзяцей і ўнукаў укінуць у балота, у якім самі гнілі?..

На тэй зямлі не лебяда прарасьце, а атрута, якой вы самі захлынецеся. Яна гнойная ад вашага поту, у камень зьбіта лапцямі галодных, што шукалі сабе кусок хлеба. Вы-б вечна валяліся ў вашага суседа, рукі яго лізалі-б, як сабака... Кроў на гэтых руках яшчэ не застыгла, чалавечая кроў. Сьмерць дзяцей вашых, пракляцьце чорных лапцюжнікаў вісіць над ім. Вы жыцьцё прадалі за кусок хлеба, сабачай доляй радуецеся, абы толькі рукі лізаць.

Дзе ён сына свайго падзеў, душэгуб?.. З пракляцьцем на сэрцы пайшоў адсюль. Як злодзей пайшоў з хаты роднай шукаць прытулку сярод чужых людзей. Думаеце, вернецца? Не. Сканаў бы ад хлеба, у якім атрутаю застыгла чалавечая кроў. Бацька-крывасмок даканаў-бы зусім.

Вон яго гнаць цяпер трэба, а не валяцца ў нагах. Ён ваша жыцьцё дарэшты высмактаць хоча. Будзе поўзаць, як гадзюка, пакуль усіх у магілу ня ўгоніць. Яшчэ мала людзкой крыві напіўся...

Незнаёмы хрыпла закашляўся і шпарка адыйшоў ад стала. Агонь лізнуў смольны корч і глянуў жоўтым тварам на хату.

Габрусь калючым камочкам сьціснуўся, сярдзіта натапырыў сівыя вусы. Ведаў, што ўсе глядзяць на яго. Ня мог перанесьці. Устаў і як цень высунуўся з хаты.

III.

Душна рабілася ў хаце.

Цёмнай хмарай павіс махорачны дым.

— Я-ж і кажу,—гаманіў хуценька Тарас,—Андрэй Марцінаў тут бунтуе, а то ўсе-б за намі былі.

— Яны думаюць?..

— Даўно ведаем, што яны думаюць,—перабіў Клеманс, —трэба нам што-небудзь падумаць. Пераліваем з пустога ў парожняе, а толку нямашака.

— Я-ж і кажу,—падхапіў Тарас,—тут трэба цяпер падумаць, як-бы ім хвост прыцяць.

Тарас змоўк і цяжка асунуўся на лаву. Ён за гэты вечар нагаварыўся болей за ўсіх. Ці трэба дзе, ці ня трэба, Тарас гаварыў. Ён проста любіў пагаварыць, такую натуру меў. На лавах сядзела некалькі багацейшых гаспадароў. Ня першы раз так сабіраліся яны, тайком, каб ніхто ня бачыў. Але цяпер, калі асабліва запахла абрэзкай зямлі, мацней занепакоіліся. Адчувалі, што нешта трэба рабіць, а што наймя, ніхто ня ведаў Гаварылі доўга, сур'ёзна, замацоўваючы ўсё грубай лаянкай. Найперш спрачаліся аб тым, ці будзе абрэзка зямлі, ці не, а калі будзе, то каго выбраць у

камісію. Гаварылі ці строгі каморнік будзе і ці будзе гарэлку піць. Над апошнім доўга спрачаліся. Адны казалі, што ўсе каморнікі п'юць, другія — што савецкія ня п'юць. Нават да лаянкі дайшло, але ўрэшце згадзіліся на тым, што ад чарачкі не адмовіцца. Толькі пасьля гэтага ўсяго пачалі лаяць безьзямельную беднату. Еолей за ўсіх дасталося Андрэю Марцінаваму. На яго долю выпадала самая ядраная лаянка.

Высыпалі попел, набівалі люлькі, цмокалі губамі. Сьлюнявілі тоўстыя газэты, закручвалі сьмярдзючую самасейку. Дым шэрымі хмарамі закутаў сівыя галовы, прытупляў думкі. Стома цяжкімі лапамі сьціскала сківіцы. Марыў сон. Вінцэсь, ўсьпёршыся на стол, лёгка пахрапываў.

— Ну, што-ж?—азваўся Тарас,—кажэце што-небудзь, а то спаць хочацца, браткі мае.

— Вінцэсь, а Вінцэсь, ты кажы, ты болей ведаеш,— зьвярнуўся Тодар да Вінцэся.

Апошні ляніва падняў галаву, абвёў усіх соннымі вачмі, пасьля зноў паклаў яе на стол і ўжо праз сон марматаў:

— Дурні вы, няма аб чым і гаварыць. Ніхто вашай зямлі не паесьць.

— Сам ты дурыла пасьля гэтага,—загрымеў Тарас,— пакуль прасьпішся, дык Андрэй твае гоні ўзарэ.

— Хто дурыла? Калі дурыла, то на што ты пытаеш. Солі на хвост Андрэю насыплеш? Папрабуй, пабачым...

— У вочы табе солі, калі ты такі разумны.

— Цялушку пацалуй за гэта...

— У-у.. Касалапы. . Жонкі табе мала, к Міронісе падбягаеш.

— А цябе і Міроніха вон-бы выгнала.

Вінцэсь уськіпеў. Сіні ад злосьці пеніўся за сталом. Сон згінуў бясьсьледна. Балючымі гнайнікамі сабіралася крыўда на новае бязьлітаснае жыцьцё. А цяпер лопаліся. Пырскалі пенай атрутна—сьмярдзючай гнілі. Раптам загаманілі ўсе. Кожны стараўся перакрычаць другіх. Тарас усё болей насядаў на Вінцэся.

Наверх вывалаквалі брудныя бакі свае прошласьці.

Клеманс падсунуўся да Тодара і ціха шаптаў.

— Як-бы іх трохі... А то галовы паразьбіваюць; нядобра, каб у тваей хаце так...

— Няхай б'юць, каб яны аб сьценкі біліся. Ідзі сваю падстаў.

— Сякеру падай ім, спарней будзе.

— Гэта ты з сякерай за Габрусёвым пастухом ганяўся, а я не пайду.

— Гадзюка ты,—кіпеў Клеманс

Нутро набухала атрутай злосьці, прарывалася.

— Ты двое сутак у яме сядзеў, страхагэнта пільнаваў,— пеніўся Тодар

— Бандыт ты і твае дзеці бандыты. Яўрэяў у Пабярэжным парэзалі. Апошнія падушкі пазабіралі, думаеш, ня ведаем? Думаеш чужым дабром зажывішся? Праз горла выпра. Не расстралялі-б твайго Яна, каб справядлівым чалавекам быў, але бандыта і ўсё тут.

— А табе мала шампалоў усыпалі? Хто палякаў у Пабярэжнае вадзіў? Які справядлівы нашоўся.

Танулі ўсё глыбей і глыбей у твані злачынстваў. Шукалі карыта, у якім-бы можна было схаваць усё тое, што давіла сэрца.

Вінцэсь вылез з-за стала і засіпеў, як гадзінак.

— Прошлай вясной хто ў мяне бульбу пакраў? Па сьлядох давёў. У Тарасаў ды Тодараў двор упёрся. Але дагэтуль маўчаў.

— Тодар прысеў і ўстаў. Адразу зьбялеў бы палатно, а пасьля чырвань кінулася ў твар, аж вочы пачырванелі:

— Вон, паганец, з маёй хаты! Вон, пракляты душагуб!..

Тодар хацеў яшчэ нешта казаць, але Клеманс схапіў яго за горла і пасадзіў яго на лаўку. Ён захрыпеў дзіка, рвануўся, як падстрэляны і адскочыў да дзьвярэй.

У сенцах загрымела клямка і ў хату каменем увалiўся Габрусь.

Шэрыя выцьвеўшыя вочы паласнулі калючымі агенькамі. Сівая барада дрыжэла. Ад яго павеяла непадробным страхам і жудасьцю.

— А-а... разявіў ён рот, каб нешта сказаць, але раптам змоўк. Сударажны непакой прабег па лаўках. Усе маўчалі, гледзячы яму ў вочы. Толькі Вінцэсь усьміхнуўся сабе пад нос і сеў за сталом.

— Ну, чаго ты стаў сярод хаты, як асталоп які,— азваўся Вінцэсь,—кажы, што такое?

Габрусь здрыгануўся. Падышоў да стала і пачаў хрыплым абрывістым голасам:

— Нічога ня будзе... Дзела няважна выйшла... трасцу... скулу ім у бок..

— Асталоп,—адрэзаў Тодар,—пагаварыць з суседам не сумеў.

Габрусь, здавалася, ня чуў гэтых слоў.

— З пачатку ўсё добра было. Андрэй качаражыўся, але бацька за нас. Толькі валацугу нейкага чэрці прыгналі; пагрэцца, кажа, зайшоў. Ён узбударажыў усё. Як разышоўся... Пра кроў толькі й гаворыць. Душагуб нейкі... Крычыць,

аж у сярэдзіне нядобра робіцца... Трэба каму-небудзь бегчы паслухаць пад вакном... На вуліцы чуваць...

— Вінцэсь няхай ідзе,—гукнуў нехта з кутка, ён спрытнейшы.

— Адзін Вінцэсь толькі тут. Няхай Клеманс сходзіць.

— Я не пайду, ну яго...

— Да не таргуйцеся,—непакоіўся Габрусь,—цяпер самае цікавае казаць будуць, як я пайшоў. Хутчэй трэба...

— Пайду, маўчэце,—сыкнуў Вінцэсь, насунуў на вушы шапку і прапаў за дзьвярмі.

— Так кажаш валацуга нейкі?.. Даўно ён прыйшоў?—папытаўся Тарас.

— Нядаўна. Мо' гадзіна, ці паўтары...

— А адкуль ён?—зацікавіўся Тодар.

— А ліха яго ведае...

— Хіба вы ня пыталіся?

— Пыталіся, ды нічога ня кажа.

— Які ён?

— Чорны ўвесь, барадою аброс. Так распытваецца, быццам усіх тут ведае.

— Ці ты ня бачыў яго часам дзе-небудзь раней?

— Чорт яго пазнае...

Страх перайшоў у цікавасьць. Цесным колам зсунуліся ля Габруся. Закідалі пытаньнямі. Ламалі асьлізглыя кускі лаянкі і кідалі ў бок незнаёмага. Зноў спрачаліся ў здагадках. Непакоіла нешта.

— Чорт яго ведае...—безнадзейна загаманіў Тарас,—вось птушка, дык птушка... Але тут нешта нядобрае крыецца.

— Гадзюка і ўсё тут. Як стаў сіпець, то выходзіць, што ўся праўда ў Андрэя, а мы ў крыві купаемся.

— А Марц н што на гэта казаў?

— Што Марцін? Сядзіць, глотку заткнуўшы. Каб слова супроць сказаў.

— А ты што гаварыў?

— Што мне гаварыць? Я-бы ня вытрымаў, каб пачаў гаварыць. Схапіў-бы, здэцца, за горла, ды задушыў. У мяне нажом рэзала ў сярэдзіне. Плюнуў толькі ды пайшоў. Ня вынес-бы ўсяго...

— Вот памазгуй, што рабіць цяпер...

Раптам з печы загрымела Тодарыха.

— Сну на вас няма. Газу ўсю папаліце, да раньня хіба сядзець будзеце?!

— Маўчы,—адрэзаў Тодар,—не тваё дзела! У карыта нас усадзі, а ня ўмешвайся не ў свае справы!

— Справы, справы; вечна канца ім няма, а каб лягчэй было ад іх хаця трохі.

— Змоўкні, падла! Бачыш, што зямлю абразаць хочуць. А ты дрыхні!

— Няхай рэжуць, воўк іх рэж, — замарматала Тодарыха і захрапла, аж сьцены задрыжэлі ў хаце.

— Што яму трэба тут, каб хто папытаўся?—ціха прагаварыў Тодар, быццам сам да сябе.

— Яшчэ каня выведзе ноччу,— кінуў нехта з кутка.

— Прывалаклі яго чэрці на нашу галаву, - скоранька загаманіў Тарас.

— Кажа, пагрэцца толькі зайшоў, а там ліха ведае, што думае... Адчувае маё сэрца нешта нядобрае. Ох, каб ён бяды якой не нарабіў... Ніколі гэтага не было.

Габрусь шпарка захадзіў па хаце.

— Нічога ён не наробіць. Ведаць толькі, што ён гаворыць. З воўчым білетам адправім.

Голас у Клеманса халодны, як лядаш. Шчаціністыя вусы кратаюцца ў тахт слоў.

— Даведайся перш, хто ён такі, а тады адпраўляй.

Ды ўжо-ж, браткі мае,—загаварыў Тарас,—трэба штонебудзь рабіць. Будзе тут бяда. Колам з-за вугла і адправім. Хто ведаць будзе?

Клеманс упарта паглядзеў на людзей.

— Добра, каб валацуга,— а мо' гэта шпіён які? Што ты ведаеш? Тады згніеш у вастрозе. Трэба перш разузнаць, што ды як, тады...

— Вот жыцьцё сабачае,— залемантаваў Габрусь,— хоць жывы ў магілу лезь. Усялякае сволачы бойся за сваё дабро, слова яму не скажы. Божа мой, божа, за што ты нас грэшных караеш?...

Рвануліся дзьверы, бы іх хто хацеў зсадзіць з крукоў. Сіні, як труп уваліўся Вінцэсь.

— Кажы, браток, што там?

— Хутчэй, што?

— Як?,.

— Рэшатам сыпнуліся пытаньні. Вінцэсь зыбкімі крокамі перайшоў хату, рукой паказаў на вакно.

— Там... глядзеце...

— Пажар!..

Громам ударыла. Рвануліся людзі, забегалі. Кінуліся нешта рабіць, а што--адразу ня ведалі.

— Хто гарыць?

— Марцін.

Вінцэсь сіпеў прыдушана, глуха.

— Як загарэлася?... Хто запаліў?

— Хто-ж запаліць?.. Злодзі... Канакрад...

— Адчувала маё сэрца, што будзе бяда,—застагнаў Габрусь.

— Чалавека загубіў,—жалобна падхапіў Тарас.

— Адзін ён быў там?

— Адзін.

— А куды пайшоў?

— Нікуды не пайшоў... Там яшчэ.

— Пасьля, браткі, пагаворыце,—перабіў Габрусь,—мая хата побач, згарыць яна. Ідзём, браткі, хоць маю выратуем...

— А канакраду што?

Вінцэсь прыстыў у дзьвярох, бліснуў вачмі.

— У вагонь яго!—гукнуў раптам уськіпеўшы Габрусь.

— Сьмерць душагубу!

— У вагонь!

— Ай... Як гэта... чалавека?..—няпрытомна загаварыў Тарас.

— Чаго?! Сабаку і сьмерць сабачая,—сыкнуў Вінцэсь.

— Ідзём!..

## IV.

Агонь войстрымі языкамі буравіў смольнае бярвеньне. Прадзіраўся ўгару, пароў іскрамі чорнае неба. Прагна зьлізваў бурую салому страхі. Крывавым полымем вырываўся ўгару, то сланяўся, як няпрытомны, захлынаўся дымам. Вецер, як зьвер, накідаўся на полымя, з радасным рогатам вырываў клакі запаленай саломы, перакідаў іх цераз плот у поле. Пляваўся дробнымі іскрамі, гнаў чорнакрывавыя хмары дыму, падымаў іх угару, а пасьля кідаў людзям на галовы. А навакол хмурылася бяздонная зімовая ноч. Налазіла блізка доўгімі касматымі ценямі.

Шпарка бегалі людзі, блыталіся, як у зачарованым коле, крычалі. Гарачкова цягалі са студні ваду і лілі ў агонь. Залівалі стрэхі суседніх будынін, на якія сыпаліся гарачыя іскры. Ламалі платы, да якіх дапаўзаў агонь. А на ўсю людзкую бегатню і сумятніну зморшчаным, крывым тварам паглядала чырвонае полымя. Сабіраліся бабы, дзеці, падлеткі. Наплывалі з усіх бакоў бурным натоўпам.

— Бабы,—гукнуў нехта,—чаго раты разявілі! Сьнегам на агонь!

Агонь засіпеў зьлючы, як гад, зморшчыўся, але не сунімаўся. Молька босая, з венікам растрэпаных валосоў на галаве, бегала вакол палаючай хаты. Войстрым клінам уядаўся балючы, немы крык.

— Людцы мілыя, ратуйце... Згарыць уся... А галованькаж мая няшчасная. Згарыць... Людцы мілыя...

Бярвеньне ссунулася ў груду і гарэла яркім асьляпляючым полымем. Як на злосьць пырскала распаленымі галавешкамі.

— Хто запаліў хату?—скрозь трэск агня і дзікі посьвіст віхру прабілася трывожнае пытаньне.

— Валацуга тут нейкі быў, я бачыў...—кінуў нехта з натоўпу.

— Валацуга падпаліў!..

— Канакрад!

— Згубіў Марціна... Усю вёску запаліць хацеў?!

— Сьмерць душагубу!

Сіпелі нястройныя галасы з усіх бакоў. Нейкай нязвычайнай трывогай віхрыліся і разам з гарачымі іскрамі гінулі ў цемры.

— Хто запаліў хату?

Марцін нёс вядро з вадой і бразнуў аб сьнег. Закарузлыя рукі шукалі горла злачынцы. Крануты векавай абідай і багравым полымем пажара ўласнае хаты ён рынуўся ў натоўп.

— Хто запаліў хату? Дзе той душагуб?..

Дрыжэлі сінія вусны, вочы іскрыліся нястрымным гневам.

-- Валацуга нейкі прывалокся, ды запаліў! Усе бачылі...

Марцін на момант спыніўся, нейкая падазронасьць, як шылам кальнула ў нутры. Але полымя пажару закружыла галаву, засьляпіла ўсялякую сьвядомасьць. Закіпела толькі шалёнае жаданьне помсты.

— У вагонь душагуба!

— Дзе ён? У вагонь!

Роў натоўп дзікімі галасамі. Сумятніна страшэнная зрабілася і толькі грозны крык абурэньня рваўся ў цемень ночы. Вецер закруціўся на месцы, абдаў людзей гарачымі іскрамі.

— У вагонь! - выў вецер.

— У вагонь!—трэскалася полымя.

— У вагонь, ніхто ня ўбачыць,—падшэптвала чорная ноч.

— У вагонь!—дзіка крычалі людзі.

Незнаёмы нёс вядро вады. Яго схапілі некулькі чалавек і прывалаклі да пажарышча. Бяз шапкі, з раскудлычанай галавой, ён глянуў упартымі чорнымі вачмі на людзей. Нешта ўдарыла пад сэрцам, стала горача ў грудзёх. У вадзін момант успомніў пажоўклыя дні мінулага. Стала шкада чагосьці. Не сябе, не жыцьця свайго. Мо' тых людзей бліз-

кіх і дарагіх, зьвязаных павучыньнем векавечнага прыгону. Але ўпэўнена адчуў, што ратунку няма. Спакойна глянуў на людзей і вызываюча кінуў:

— Кідайце!

— У вагонь!!!—хлынулі хваляй галасы.

Некалькі мужчын, як шчэпку ўскінулі на руках худое цела. На момант зрабілася ціха, як у магіле. Здавалася—ўсё закамянела.

— Ра-а-а-з-з!.. Дв-в-а-а-а!..—пад тахт гойданьня лічыў Габрусь. Жудасным скрыпам падалі зыкі яго голасу, балюча білі, як узмахі кнута.

— Ну, бывай бацька! Твой сын ужо болей ня вернецца...

На хвіліну чорная фігура дзівосным абрысам мільганула на крывавым фоне агня і зьнікла.

Працяло жудой. У паветры застыглі апошнія словы; а з агню, траскучы, як удар абуха па галаве, вырваўся крык.

— Душагуб пракляты! Мала чужой крыві выпіў, сваёй роднай захацеў...

Вецер падхапіў гэты крык і панёс далёка ў поле. Натоўп трывожна шарахнуўся ад агня.

— Ах, божа-ж мой!—рвануўся раптам Габрусь,—гэта-ж сын мой... Мікола!... Мікола-а-а! Ратуйце! Міко-о-ла-а-а!.

— А-а-а-а-а...—завыла нешта ў полі і змоўкла.

Шэрая постаць Андрэя на хвіліну зьнікла ў полымі. Абгарэлае цела Міколы палажылі на зямлі. Абрывалі кускі спаленай вопраткі, абсыпалі сьнегам.

— А-а-ах, сынок мой...—залемантаваў Габрусь.

Мікола сударажна біў нагамі па сьнегу. З абгарэлымі валасамі, ўспухшым тварам ён непадобны быў да чалавека. Людзі прыціхлі, асунуліся. Як цені соўваліся па ўбітым сьнягу вакол згарэўшай хаты. Здавалася, што ноч змоўкла, толькі сумна ўздыхала, гледзячы на крывавыя падзеі.

Тухла вогнішча.

Барнаба стары ў голас разважаў сам сабе:

— Гэта-ж дзесяць гадоў... Такі добры хлапец быў, а цяпер вунь што!.. запаліць хату...

Далей думкі абрываліся і Барнаба моўчкі адыйшоў, цяжка зьвесіўшы галаву.

Мікола заварушыўся на сьнягу, падняў галаву і зноў апусьціў.

— У грудзёх паліць... вады,—чуць-чуць прагаварыў шоптам. У сьпечаныя вусны ўлілі крыху вады.

Ён праляжаў яшчэ некулькі хвілін нярухома, пасьля крануў успухшай рукой і прагаварыў ледзь чутным шопатам.

— Андрэй... гэта ты?... Гэта ня я.. ня я запаліў... Я ўсё-

роўна ня выжыву... Я скора памру... Але ты павер.... Мне лягчэй тады будзе... Гэта яны... ім зямлі шкада...

Некулькі чалавек міжвольна глянула на Вінцэся, які сагнуўся як вуж пад гэтымі поглядамі, пасінеў.

Марцін выпрастаўся, тупым узрокам паглядзеў на людзей і моўчкі сеў на абгарэлым бервяне ля пажарышча.

— Андрэй...—зноў прашаптаў Мікола.

Андрэй у адказ толькі ніжай схіліўся над ім.

— Я ўжо памру... Гарыць усё... Але ты глядзі да канца трымайся... Табе трудна цяпер... але ты бліжай к людзям... к сваім... безьзямельным... Разам трэба... адзін нічога... Багацеі вас мучылі... хату цяпер падпалілі... а-а... Бацька... роднай крыві заха... Чужой мала-а... За зямлю... а...

Застыглі недаказаныя словы на вуснах. Андрэй доўга яшчэ стаяў на каленях, рукамі ўпёршыся ў халодны сьнег. Напруджана ўслухоўваўся ў хрыплы патухаючы воддых.

Вінцэсь нерашуча падыйшоў да Марціна і сеў на сьнягу.

— Ты Марцін, не на мяне... Я памагу табе... Ці-ж я хацеў, каб так выйшла?. Ну, пад суд мяне цяпер, а табе-ж ад гэтага не лягчэй. А я памагу. Я гэта не нарочна.. Паслухаць пад вакном хацеў, а вецер папяросу вырваў, да ў страху. А тут ён выйшаў. Хто яго ведаў .. Думалі, канакрад які... Я не нарочна запаліў.

Марцін валавянымі вачмі глядзеў на чырвоныя вугалі. Нячуючы нічога ён у голас пачаў выкладаць словы, што глыбока заселі ў думках.

— На тэй зямлі не лебяда парасьце, а атрута. Яна гнойная ад вашага поту, у камень зьбіта лапцямі галодных, што шукалі сабе кусок хлкба.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раньняе сонца сьлязьліва глянула на крывавыя сьляды начы зімовай.

Вёска Кавалічы,
Стара-Дароскі раён.

*Валасэвіч Янка.*

* * *

У цёмным лесе глуха
Чуўся дзіўны шолах.
Сэнс я ў ім падслухаў
Чулаю душою.

Квола нейк шумелі
Сосны ды яліны,
Шум здаваўся мне той
Песьняй салаўінай.

А з тэй песьні часта
Ціха плыла радасьць,
І здавалась, шчасьце
Мне ў жыцьці ня здрадзіць.

Над прасторам ціха
Дзіўны лёс заляскаў.
Песьня не заціхне,
Адшукаю шлях свой.

Сумаваць ня мне ўжо,
Як раней ў няволі.
Растрасу па межах
Свае песьні ў полі.

Растрасу над лесам,
Раскідаю ў лузе,
Хай-жа мае песьні
У прасторы блудзяць.

Пасьмяюцца можа,
Можа і пахваляць,
Але ўсё-ж ня можна
З песьняю хавацца.

Вёска Мусічы,
Грэскага раёну.

*Барыс Мікуліч.*

# Восень бродзіць.

**(Акварэлі)**

Раніцаю—
паўзе па лагох туман, аплятае шэрую зямлю, закрывае вэлюмам далячыню...

Раніцаю—
сонца калі ўстае, разрываецца сівы туман, халодныя косы сонца пранізваюць зямлю...

Раніцаю—
азалочаныя хмурынкі бягуць па небе, бягуць некуды далёка, туды, дзе земля з небам сыходзяцца...

Раніцаю—
трымаецца доўга раса на расьлінах. Яна іншы раз белая і, калі паглядзець здалёку,—сьнег ляжыць, здаецца.

Устае калі сонца, зямля саграваецца доўга,—недагрэтая застаецца на ўвесь дзень.

Неяк невясёла грае пастух.
І, здаецца, гудзе яго дуда:

— Восень бродзіць...
— Восень бродзіць...

* * *

Чорным здаецца бор.
Пачарнелі старыя асіны і сосны...
Маўчаць птушкі.

На зямлі, як посьцілка, чырвона-жоўтае лісьце ляжыць. Шуршыць пад нагамі яно. Гэта шуршыць восень...

* * *

Праразаючы ціхае паветра, час ад часу ляцяць качкі. Ляцяць у вырай... Крычаць яны сумна, працягла, нізкімі нотамі—разьвітальны крык.

І калі зьнікаюць яны за лесам, яшчэ мацней адчуваеш,

што адышло каляровае лета,
што адцьвіло поле,
што на зямлі

— восень
— бродзіць...

Маркотна робіцца...

* * *

Часам пойдзе дождж.
Дробны, сьлізкі, агідны...
Плачуць тады дахі.
Шумяць гальлём таполі.

Нават сухі верас, здаецца, плача...
Жаўцеюць палі пад дажджом.
Ні былінкі на іх. Пуста...
Аднатонна кроплі стукаюць са стрэх хатак вясковых.

І ў стукаце чуецца:

— Восень бродзіць...
— Восень бродзіць...

* * *

Калі праходзіць дождж—неба, як шкло. Хмурынкі ўбеглі. Сонейка сьвеціць. Сьвеціць, але неяк холадна... Ня лётаюць матылькі, ня поўзаюць казюркі. Я шукаю іх. Хачу знайсьці... А не знайшоўшы, яшчэ болей адчуваю,

— што па зямлі
— восень
— бродзіць...

* * *

На ўзгорку клён стаіць.
Губляе сваё адзеньне.
Ціха шуміць.
Сумуе, мабыць...
Адчуваючы восень, сумуе зямля.
Сумуе сэрца...

Бабруйск.

*Язэп Сукала.*

# Цімох і каса.

**(Байка).**

Касіць траву Кандрат стары
Цімоха сына ўгаварыў.
А сын хоць быў гультай адвечны,
Але упершы дзьве яечні,
Пад нос хоць трохі й мармытаў,
Ды з-за стала такі устаў.
Узяў касу, брусок, мянташку,
Вады халоднае біклажку,
Кавалак сала, хлеба лусту,
Блінцоў з дзесятак, жбан капусты,
Ды не забыўся й сыра ўзяць,
Да і папёр на сенажаць.
А прышоўшы, пад кустом
На зямлю лёг жыватом,
І як „спрытны“ касец „добры“
Пакасіў спачатку ў торбе
І капусту, і блінцы,
Ня даў ганьбы і сальцу,
Нават сырам закусіў—
Гэтак шчыра ён касіў.
Пасьля працы наш Цімошка
Прыкархнуць рашыў патрошкі.
Прахваціўшыся-ж над вечар,
Мармынуў пад нос аб нечым,
Пазяхнуў разоў са дваццаць—
За касу рашыў ён ўзяцца,
Але сон—падлюга ў вочы
Да Цімоха лез ахвоча,

І чытач ня дась мо' й веры,
Але мой Цімох—халера—
Не прайшоўшы й паўпракоса,
Стаў кляваць сваім ўжо носам,
І спрасонку нейк насторч
Усьпёр касу сваю на корч.
Каса з ёнкам зазьвінела
І ад шыйкі адляцела.
— „Ну й майстры! Каб вы згарэлі,
Нам касы зрабіць ня ўмелі"—
Стаў тут лаяцца Цімох—
„Гэта-ж жарты! Каб я мог
Паламаць касу ў траве,
Ліха вашай галаве".
А каса яму адразу:—
— „Вінават ты сам, зараза,
Каб ты зекры лепш працёр,
Да мяне у корч ня ўпёр,
То тады была-б я цэла—
Гадоў сем траву-б шчэ ела"
. . . . . . . . . . . . . .
Я-ж каб быў там недалёка
І Цімоха не баяўся,
Дык ня сплюшчыўшы нат вока,
Яму-б гэтак адазваўся:
— „Знаць табе, браток, ня шкодзіць,
Што разява й мяла зломіць".

*Хв. Явар.*

# Загінуўшая грамата.

**(Апавяданьне)**

Ціха, спакваля пасоўвалася жыцьцё на маленькай чыгуначнай станцыі Рудня.

Нібы той тавара-пасажырны «максім», ход якога наводзіць толькі смутак. Няма і ня будзе як быццам таго машыніста, які бы пакруціў рэгулятар машыны на „чацьвёртую“ скорасьць і пусьціў яе бегам экспрэса.

Так і ў Рудні. Ідзе жыцьцё—як учора, будзе ісьці—як сёньня. Нічым не адменіцца. Няма ў ім нічога, што-б цікавіла каго, давала сэнс жыцьцю. Усе прызвычаіліся адзін да другога, ведаюць адзін аднаго ўсьцяж і ўпоперак.

Ідзе, сунецца „максім“. Колы яго зрэдку пасклігочуць на крутым павароце, прагрымяць на мосьце. Вось і ўсё.

Так і ў Рудні: пасварыцца адзін дзяжурны з другім за пяціхвілиннае спазьненьне на службу, палаіцца жонка памоцніка з жонкай стрэлачніка за кур, якія разгрэблі грады з цыбуляй, падаб'е нос сын вагара сыну тэлеграфіста, не падзяліўшы цацак,—вось і ўсе шурпатасьці, якія зробяць хвілінную адмену, ускалыхнуць бурбалкамі застойнае балота жыцьця чыгуначнай насельнасьці. Ды ізноў па-старому. Ізноў ціха. Ізноў нудна.

Так дзень у дзень.

—·—

Але раптам прыйшоў канец. Ціхае, нуднае жыцьцё нечакана закруцілася завірухай, пайшло шпаркім нясутрымным тэмпам. Мэрам сьцішны ход „максіма“ разам перайшоў у вар'яцкі бег пад адхон, якога ніхто не чакаў, ня бачыў, які пагражае катастрофай.

Зрабіўся вялікі крымінал. Крымінал, які перакульваў наладжанае жыцьцё, абяцаў вялікія зьмены, памер і характар якіх нельга нават і прадбачыць.

Здарылася вось што: старшы тэлеграфіст Міхайлаў, прыняўшы дзяжурства, выявіў адсутнасьць цэлай шпулькі тэлеграфнай істужкі. Перакапаў усю шафу, паглядзеў і за ша-

фай, злазіў у стол і пад стол. Няма. Няма цэлае шпулькі за № 8. А на шпульцы тры радкі літар, з якіх складваюцца тэлеграмы. А тэлеграмы-ж розныя—ёсьць і сакрэтныя! Няма яе, ды й годзе. Загінула, як тая гогалеўская „Прапаўшая грамата“. Але там, у Гогаля, казак знайшоў сваю грамату, абдурыўшы вядзьмачак, абыграўшы іх у карты. А тут не абдурыш, у карты не згуляеш. Бо вядзьмачкі ў нашыя часы пераявяліся. Нават і ў музэях краязнаўчых, ці гістарычных не захаваліся.

Істужкі няма. Міхайлаў добра ведаў, што можа ад гэтага быць. Калі тут з яго боку злога ўмыслу няма, дык давядзі-ж ты гэта! Давядзі, што не перадаў істужку з дзяржаўнымі сакрэтамі ў процідзяржаўныя, зладзейскія рукі.

Хто цябе паслухае, хто дасьць веры? Няма, мусіць, такіх дурняў. Так і прыпішуць здраду, контр-рэвалюцыю. Трэба неяк выкручвацца, трэба неяк ратавацца ад бяды.

І Міхайлаў знайшоў выхад.

Ого, Міхайлаў! На тое-ж ён і старшы, спрактыкаваны доўгагадовай службай, тэлеграфіст.

На твары яго зьявілася хітраватая, атрутная пахмылка, ён прысеў за стол і старанна вывеў буйнымі літарамі ў апаратным журнале: „Пасьля дзяжурства тэлеграфіста Дзеразы ў наяўнасьці ня знойдзена шпулька № 8“.

Цяпер Міхайлаў лічыў сябе застрахаваным. На крайні выпадак ён можа атрымаць строгую нагонку за недагляд. Бо так ужо водзіцца: за віну падлеглага агэнта непавінны ані ў чым начальнік павінен атрымаць нагонку—„за недагляд“. Гэта ўжо ўзаконеная традыцыя, проці якой Міхайлаў ня меў рацыі супярэчыць. Але-ж за тое Дзераза паляціць з пасады. Сваім стратэгічным манэўрам Міхайлаў меўся забіць двох зайцоў: сябе значна выгараджваў, а галоўнае – Дзеразу скідаў з свайго шляху: будзе ведаць цяпер, як лезьці ў старшыя! Замест старшых—у здраднікі, контр-рэвалюцыянэры. Хай паскача цяпер...

Напісаць рапарт начальніку вучастку сувязі, зрабіць у ім пару закідаў на Дзеразу, было ўжо ня так цяжка. Міхайлаў быў добры канцэлярыст, ён умеў абыйсьці паперкаю начальства.

Так вось і пачалася славутая справа аб руднянскай загінуўшай грамаце.

—·—

Сьледзтва па справе аб загінуўшай шпульцы было даручана Руднянскаму агэнту ДПУ. З вялікай ахвотай, энэргічна ўзяўся агэнт за сьледзтва. Ён прадчуваў, што ў гэтай справе ёсьць нешта няладнае: тут бязумоўна злаўмысны ўчы-

нак. Таму яго дапросу ня мінуў ніводзін служачы станцыі, нават самы дробны.

Але, ня гледзячы на ўсю стараннасьць агэнта, сьледзтва пасоўвалася вельмі марудна. Ніякіх даказак нельга было знайсьці.

Агэнт нэрваваўся, некалькі разоў выклікаў да сябе Міхайлава і Дзеразу. Рознымі прыёмамі абыходзіў іх. Анічагуткі дабіцца, даведацца было немагчыма.

Ходзячы на дапросы, Міхайлаў згубіў ужо былую ўпэўненасьць. Атрутная, хітрая пахмылка даўно зыйшла з яго твару, замест яе на твары гасьцявала нейкая крывая, утропленая, падобная на грымасы болю.

Хоць і зрабіў Міхайлаў запіс на Дзеразу, але чым дакажаш, што ён правільны? Адсутнасьць шпулькі выявіў ён тады, калі Дзераза ўжо ўшоў з дзяжурства, запіс таксама рабіў пры яго адсутнасьці. Гэта ня доказ. Дзеразу гэтым не зачэпіш. І з допытаў агэнта відаць, што падазрэньне падае больш на яго, чым на Дзеразу.

Нэрваваўся Міхайлаў, мейсца сабе не знаходзіў. Зусім абясьсілены, зьняможаны, зьвяртаўся са службы да хаты, сварыўся з нічым непавіннай жонкай, прыдзіраўся да дзяцей, хоць тут зрываў сваю злосьць, на хвіліну забываўся на загінуўшую шпульку.

А Дзераза сядзеў у станцыённым буфэце, заліваючы сваё гора чаркай гарэлкі і жаліўся буфэтчыку:

— Зьесьць ён мяне, братка, і ня зморшчыцца. Ня здолее, кажаш?, Ой братка, здолее. Яму гэта лягчэй зрабіць, чым порцыю цыркулярных тэлеграм прыняць. Чуе маё сэрцайка—загубіць ён мяне. Што? Дарэмна? Не, брат. Даўно ўжо ўбіў ён у свой медны барабан думку, што хачу я адабраць ад яго старшынства гэтае, заўсёды імкнуўся зьесьці мяне, зжыць са сьвету, ну і згубіць цяпер. Глупства? Не, браточак, і выпадак падвярнуўся на яго шчасьце надта ёмкі. Ды 'шчэ мо' сам і схаваў яе, каб пад мяне міну падвесьці. Што я мушу рабіць цяпер? Як з бяды вызваліцца? Парай хоць ты мне, бедаку...

Загінуўшая шпулька ня толькі Міхайлава і Дзеразу зьбіла з панталыку. Яна напалохала ўсё чыгуначнае начальства ў Рудні.

У габінэце начальніка станцыі, у воблаках тытунёвага дыму, адбывалася надзвычайная нарада. Заклаўшы рукі ў кішэні нагавіц, па пакоі пахаджаў начальнік станцыі і аддаваў загады сваім памоцнікам, якія ўважліва слухалі яго, расьсеўшыся вакол стала.

— Усе справы пераглядзець... Дзе запушчана—падагнаць... З дзяжурства нікуды не сходзіць... Увесь час на мей-

сцах... За падлеглымі агэнтамі бязупынна сачыць... Наглядаць і за тэлеграфам. Тут будзе справа немалая. Пачнуць ад шпулькі істужкі, дабяруцца да ўсяго. Усюды пачнуць капаць, шнырыць, кожную прамашку занатуюць. Будзе ўсім перцу. Жонкам, мусіць, ужо пераказалі, не сьцярпелі?—так і ведаў... Заўсёды праз жонак пойдзе слых на ўсю ваколіцу. Зачыніць ім раты, каб маўчалі. Мо' і дзеці ўжо ляпаюць? Суняць і іх.

Адным словам, падрыхтавацца, быць напагатове. Тут так і чакай камісіі. Неўзабаве мусіць і зьявіцца на нашыя галовы...

У тэлеграфе апрача мернага паляпваньня апаратаў нічога ня чуваць. Цішыня надзвычайная. Паветра насычана электрычнасьцю. І не зачэпленыя справай тэлеграфісты адчуваюць сябе кепска.

— Хто можа ведаць—згінула адна шпулька, можа згінуць і другая. Пазбавішся кавалка хлеба, прападзеш ні завошта...

Прымаючы дзяжурства, усё пільна пераглядалі, усюды кідалі вокам, адзін аднаму не давяралі. З пакою—ані кроку. Ад апарату—ні на хвіліну. Калі заходзіў сторож прыбіраць у пакоі—сачылі за ім падазронна.

Тэлеграф пераносіў відавочнае асаднае становішча.

На дварэ ля чыгуначных кватэр няма былой жвавасьці, ня відаць праяў руднянскага жыцьця. Дзеці ходзяць, павесіўшы насы. Няма вясёлага рогату, гулянак, ня чутно плачу, дзіцячых боек. Жонкі ходзяць спахмурнеўшыя, забыліся на ўсе суседзкія няпрыемнасьці, ня меней за сваіх мужыкоў хвалююцца, чакаюць бяды нямінучай.

Ой, што-то будзе...

Спахмурнела Рудня. Прытаілася. Нібы буралом прайшоў, паламаў, пакрышыў усё, параскідаў, паразьмятаў усе жывыя істоты.

Сьледзтва закончана. Хто яго ведае, якое заключэньне даў агэнт ДПУ. Ад яго не даведаешся. Будзе, мусіць, вышэйшая камісія. Будзе навала. Будзе ўсім. Будзе катастрофа, якая ўсіх зачэпіць.

—·—

Катастрофа і прышла. І раней, чым чакалі. Але-ж і зусім з другога боку.

Пад вечар у тэлеграф ускочыў адпраўіцель Мэндэлёвіч, жвава абмінуў апарат і падбег да Дзеразы.

— Што вы тут панапісвалі, што гэта за тэлеграма— «Грузіце вагон спец». Езьдзіў вось па справах сваіх па ваколіцы, ды ўсё галаву ламаю—якія гэта спэцы? Якія інжынэры, ці профэсары? Зроду я іх не грузіў. Іншая справа, калі сьпіцы. Гэтым я гандляваў. А мо' які спэцыяльны тавар? Нічагуткі не зразумеў. Паглядзеце, што вы тут для мяне за новы тавар знайшлі?

Пачаў Дзераза наводзіць спраўкі, разматваць шпулькі істужак. Нацягаў іх з шафы цэлую гору, кідаў-перакідаў, бегаў да апаратнага журналу, ізноў да істужак. І раптам плюхнуўся на крэсла і пачаў нястрыманна вар'яцкі рагатаць, лэпаючы ў паветры доўгімі, як скрыдлы млыновыя, рукамі, потым усхапіўся і пабег з пакою.

Праз некаторы час на станцыю пасьпешна зьбягаліся ўсе служачыя, выкліканыя Дзеразой „па справе аб шпульцы“.

Нэрваваліся. Трэсьліся.

— Мусіць камісія прыехала.

Падбягалі да Дзеразы, які з тым жа, дзіўным у такую хвіліну сьмехам, накіроўваў усіх да стала. Тут усе зьбіліся ў кучу, нешта разглядалі. Потым пачалі, як і Дзераза, галасна, заліўчата рагатаць.

На стале ляжалі дзьве шпулькі—№ 7 і № 9. Нааднэй было напісана, што яна закончылася ў 15 гадзін 10 хвілін 16 ліпеня, а на другой—што яна пачата таксама ў 15 гадзін 10 хвілін таго-ж самага 16 ліпеня. Значыць... Значыць шпулькі № 8 зусім і ня было... Глядзелі ў апаратны журнал—ён сьцьвярджаў наяўнасьць памылкі, ды апрача таго даводзіў, што памылку зрабіў сам Міхайлаў на сваім дзяжурстве.

— Ну, дык што мне грузіць, жадаў бы я ведаць?—запытаўся Мэндэлёвіч, якому ўжо надакучыла глядзець на звар'яцеўшых чыгуначнікаў.

— Браточак дарагі, грузі хоць цэлы склад вагонаў сьпіц. Грузі, што хочаш. Грузі спэцаў, грузі спэцыяльны тавар, хай табе шанцуе, хай гэшэфт добры ідзе, — крычэў Дзерава ў адказ і як вар'ят бегаў па пакоі, заглядаў усім у твар, і рагатаў-рагатаў, ня можучы стрымацца.

Рагаталі і ўсе.

Адзін Міхайлаў стаяў у кутку моўчкі, ня ведаючы, куды падзецца ад злосьці і сораму.

Сорамна было за тое, што столькі нарабіў клопату няма ведама з-за чаго. Злосна яму было ад таго, што нагонка цяпер забясьпечана, ды не традыцыйная, а самая заслужаная. А Дзеразе—анічагуткі. Праклёнашы-вядзьмачкі злосна пакпілі над ім, абдурылі бяз карт, гэтак ёмка скраўшы і зьвярнуўшы грамату.

—•—

Так скончыўся вялікі Руднянскі крымінал. Загінуўшая грамата знайшлася. Абыдзённае жыцьцё прайшло пагражаўшы катастрофай адхон, ды й ізноў роўна і мерна пакацілася звычайным сваім павольным ходам.

На дварэ чыісь жонкі сварыліся за кароў, трапіўшых у шкоду, чыісь дзеці пачалі генэральную бойку ў адзнаку сканчэньня вымушанага перапынку, які нарабіла згінуўшая шпулька.

*Алесь Жаўрук.*

## Усё міне.

Зацьвіла зіма марознаю пургой,
У небе хтось губляе пух, ці серабро.

---

Ў срэбнай шэрані стагоднія бары,
Месік стрэхі іржаныя серабрыць.

---

Загудзеў вятрамі—чмутамі прастор—
Ды сягоньня нам ня страшна ўжо нішто.

---

Усё міне, ўсё зьнікне быццам сіні дым—
Зацьвітуць ізноў вішнёвыя сады.

---

Закрынічыць радасьць ціхая ў грудзёх,
Песьня буйная зазвоніць ў сто званоў.

---

Ў ночку сінюю—чаромхавую гаць,
Выйду зноў за браму любую спаткаць.

---

Закалыша дарагая ў сэрцы сум—
Распляце сваю чарнявую касу.

---

Расцалую дарагую, абніму—
Ўбачыць ночка ды ня скажа нікаму.

---

А сягоньня хоць і сівер—дык нішто—
Хай гудзіць вятрамі—чмутамі прастор—

---

Ўсё міне, ўсё зьнікне быццам сіні дым:
І завеі і марозы і вятры.

*А. Жукоўскі.*

# Самагубцу.

Так, так... ну... бывай...
Ну, бывай назаўсёды, дружа.
Шкода, шкода цябе цераз край
І нек дзіўна, ведаеш, дужа.
— Як-жа так? Хіба ты
З намі быў—не па-нашаму думаў?
Бач: вясна! І на дрэвах лісты...
Дзе-ж тут месца для суму?
— Вось стаім над табой—
Усе хлопцы, ўся наша ячэйка,
А ў цябе ад скроні дугой—
Чырвоная страшная зьмейка.
— Чуем,—кажуць,—сям'я...
Чуем.—кажуць яшчэ,—каханка...
Яшчэ болей зьдзіўляюся я
І яшчэ мне страшней твая ранка.
— А здавалася ўсім,
Што ў змаганьні з жыцьцём, з сабою,
Зноў ты будзеш, таварыш, такім,
Як на фронце, чырвоным гэроем.
— Але фронт і жыцьцё—
Гэта розныя, мусіць, рэчы.
Ты ганебна ўтаропеў і ўцёк,
Працу ўсклаўшы на нечыя плечы.
— Што-ж, таварыш... бывай!
Адпачні, калі праца стаміла.
Ну, а наша жыцьцё возьме край,
Нашу кроў перальле ў свае жылы.

*М. Мікіцін.*

# Марыліна сьмерць.

**(Апавяданьне)**

Праца ў Н-ае бальніцы закончылася, калі к варотам прыцягнуліся калёсы.

Мокры, змораны конь—праз скуру тырчэлі адны рэбры—стаў. Сарпануўшы, затросься ўсім худым целам, пазяхнуў і апусьціў долу галаву з памутнеўшымі вачмі.

На калёсах, на саломе, абкручаная ў рызьзе і пакрытая посьцілкай блёклай ляжала немаладая жанчына. Час-ад-часу з сьсінелых вуснаў вырываўся працяглы стогн. Вочы заплюснутыя, глыбока запаўшыя пад лобам.

— Цішай, цішай, Марыля! Вось і прыехалі ўжо,—супакойваў бялёсавокі селянін, зьлязаючы з калёсаў.

Марыля ня чула. Няпрытомнасьць скавала яе ўсю.

Павольна, несьпяшаючыся, прывязаў селянін к плоту каня, адпусьціў церазьсядзельнік, падкінуў пад морду сьвежанакошанае травы і накіраваўся ўжо тады праз двор к ганкам.

Конь пацёгся быў да травы, захапіў некалькі каліў, але ня еў.

— Некага яшчэ там прывязьлі,—глянуўшы ў вакно, зьнімаючы халат белы, зазначыў малады доктар.

— Не дадуць нават пачалавецку пад'есьці. Здаецца, каб цэлы дзень сядзеў-бы тут, дык ўсё прыходзілі-б і прыяжджалі-б. І так ужо па сту, па сту дваццаць на дзень прымаем.

Шэры твар, парэзаны першымі, але глыбокімі маршчынамі, цьмяны бляск вачэй, павольны рух сьведчылі а вялікай стомленасьці доктара.

— Гэта, доктар, добры паказчык. Наша сялянства, вы самі-ж казалі, стала больш культурным, больш сьвядомым,—пасьмейваючыся зазначыў стары, пўдоў на сем, фэльчар Ягадзін.

— Так яно, бачыце, так—ды ня зусім. Ніхто не адмаўляе, што сялянства стала больш сьвядомым, але... палічыце, колькі прыяжджае адных толькі жанчын, хворых ад розных бабак? Колькі было непатрэбных сьмерцяў? Сьмерцяў, якіх

можна было ўберагчыся. І вось-жа маўчаць. Ня кажуць, ад чаго што. Памірае, а маўчыць. „Ня ведаю, дый годзі. Прыключылася так“. Багата яшчэ цемры гуляе па вёсках. Багата яшчэ захавалася шаптуноў ды бабак,—у раздуме казаў доктар.

— Ну, што вы, доктар! Хочаце, каб усё ўжо было добра. Гэта-ж цемра вякамі трымала сялянства ў сваіх кіпцюрох.

— Так! Але майце на ўвазе, колькі ўжо год, як мы нішчым яе. Змаглі-ж за гэты час перабудаваць жыцьцё! Не, тут трэба нешта...

Рыпнулі дзьверы. Праціснулася галава з кашлатай шапкай запыленых валасоў.

— Ці тут будзя дохтур?—запытаўся селянін.

— А што?

— Ды вось бабу прывёз. Нешта захварэла...

— Чаму раней ня прывозіў?

— Мы ж далёка жывом. Вярстоў пятнанцаць будзя,—камячучы ў руках шапку гаварыў селянін, увашоўшы ў пакой.—Конь стары. Дарога—адны пяскі. Ледзь дацёгся.

— Што з тваёй бабай?

— А хто яе ведае. На галаву жалілася. Галава ўсё балела ды цела.

— Вядзі сюды.

— Ды, бачыце, яна не ўстае,—міргаючы бялёсымі вачмі цягнуў селянін,— яна бяз памяці ляжыць.

— Таварыш Ягадзін,—завязваючы рукавы халату зьвярнуўся да фэльчара доктар,—скажыце, каб унесьлі.

Аглядаючы няпрытомную жанчыну, доктар толькі пакручваў галавою ды нешта мармытаў сабе.

— На што яна жалілася?—зноў пачаў пытаць доктар.

— Да я-ж вам казаў ужо, што на галаву, а потым усё цела балела,—як-бы зьдзіўлены някемнасьці доктара, які па два разы пытае адно і тое, адказаў селянін.

— У бабак лячылася?

— Ды не, не лячылася.

— Як не лячылася, калі відаць, што лячылі яе верацяном,—ня вытрываў доктар.—Да якой бабкі зварачаліся? Дзе жывеце?

— Ды што ты, таварыш дохтур! Якая бабка, якое верацяно? Пабойся ты бога! Да я магу паклясьціся... Хай мне вырвуць язык, калі я маню! Ні да якіх бабак ня езьдзілі...

— Можа й ня езьдзілі, дык жонка хадзіла.

— Яй-жа богу я нічога ня ведаю! Не саступіць мне з гэтага месца!.. Што гэта...

— Ды што кажаш мне, калі ясна відаць, што тваей бабе

заражэньне крыві зрабілі. Верацяном ці гваздом лячылі. Памерці можа цяцер.

— Памерці!?... Заражэньне крыві!?... Таварыш дохтур, зрабеце вы ласку боскую, дайце рады!... Ды я...

— Што я... я... Самі чорт ведае што наробіце, а потым я... я...—пачаў злаваць доктар.—Апэрацыю трэба рабіць, бо справа сур'ёзная. За вынікі не адказваю... Чаму раней не прыяжджалі?...

— Рабіце што хочаце, абы толькі жыва засталася! Маленькія-ж дзеці ёсьць. Што я з імі буду рабіць?!...—ледзь ні плачучы цягнуў селянін.—Дзеткі, што будзе з дзеткамі?!...

— Вось вам яшчэ адна ахвяра,—зьвяртаючыся да Ягадзіна падкрэсьліў доктар —Скажэце, каб прыгатавалі струмант. Пайду пасілкуюся, а тады... на стол.

— Вось што, апэрацыя сур'ёзная,—скінуўшы халат зазначыў яшчэ раз селяніну доктар,—за жыцьцё няўпэўнен.

— Мае дзражэнькія, рабіце што хочаце, абы жыва засталася!...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

* *
*

— Ну, што? Што казала табе хвершалка,—запытаў Лявон Чобат сваю жонку Марылю.

— Мама... Ма...а...ма!... баланку!... ба...ла...а...нку...у...у,—учапіўшыся за спадніцу енчыў малы Хвёдарка.

— Адкасьніся ты, гора, ад маёй галавы! Во смала!—выцяўшы малога крыкнула Марыля.

Хата напоўнілася румзаньнем. Гледзячы на Хвёдарку пачала плакаць і яшчэ меншая дзяўчынка Наста, што гуляла дзеравяннымі лыжкамі на мосьце.

— А сьціхніце вы...

— Ну, а ўсё-ж?—перапытаў Лявон.

— Позна... Чатыры ўжо месяцы. Кажа, ня можна,—скінуўшы хусту буркнула Марыля.—Сьціхніце, кажу!... І бяз вас сьвету ня бачу!... Ня рвіце мне сэрца!... Божа, божа!... Ну, чаго вам! На, на хлеба,—соўвала ў руку маломі скарынку.—А ты чаго, чаго ты яшчэ?—бяручы на рукі маленькую Настульку, супакойвала яе.

— Дзе другія?

— Агапа з Волькай пабеглі шчаўе зьбіраць, а Кузёмка каня пасе.

— Ці елі што?

— Бульбу, што на загнетку стаяла, паелі, а болей што?... Сама ведаеш...

— Вэнь, у капіраціве муку даюць. Зьбегаў-бы, папрасіў.

Мо‘ і далі-б які пуд... Напладзіў—дык кармі,—у сэрцы кінула Марыля, бразнуўшы аб прыпечак пустым чыгуном.

Бяднейшага за Лявона Чобата ўва ўсёй вёсцы ня было гаспадара. Тры дзесяціны зямлі, конь ды каравёнка—уся господа. А тут дзеці абсеялі яго, як макам, і ўсё дробныя—старэйшаму дзесяць год. Вось і пракарміся. Сказаць, што не працаваў ён—нельга. Працаваў, біўся, як рыба аб лёд, але, як кажуць, не шанцавала яму. Хто яго ведае—бывае народзіцца ўжо такі чалавек. Да таго-ж, што ні год, то й прыплод. «І адкуль яны бяруцца», думаў часамі Лявон, чухаючы патыліцу. «Во чакай цяпер шостага».

— А згары ты такое жыцьцё,—ляснуўшы дзьвярыма прамармытаў Лявон і вышаў з хаты па каня.

Ня клеілася работа ў руках Марылі: возьме чыгун, каб вады налеіць, паставіць на ўслон ды забудзецца; пойдзе ў стопку па бульбу, прыдзе, а чаго—і сама ня помніць. Нібыта нешта прыціснула яе. «Ну як-жа быць далей», сьвідравала думка галаву, «не маладая ўжо, сорак год, а тут, як на грэх, не пасьпееш аднаго спусьціць з рук, другое ўжо ёсьць... І што рабіць?...

— Здаровенька была!—праціскаючыся ў хату павіталася Хадорка, высокая, сухарлявая кабеціна, пра якую на вёсцы казалі, што яна з языком сваім заўсёды папераду ўсіх.

— Ну, як маешся?!...

Ад нечаканасьці здрыганулася Марыля. Думкі спуджана разьбегліся.

— Здаровенька!... Здаровенька!...
Дзякуй табе... Нешта вось нядужыцца,—адказала на прывітаньне Хадоркі.

— То-то я гляджу дый думаю: нешта Марыля ізноў таўсьцее.

— Ці ня зноў?—падсаджваючыся да Марылі запыталася Хадорка.

— Але, ізноў...

— Ды як-жа-ж гэта?

— А хто яго ведае... сама ня ведаю...—паціснула плячыма Марыля.

— Ты-ж не маладая ўжо. Трэба што рабіць.

— Хадзіла ўжо. Пыталася.

— Ну і што?

— Няможна. Позна ўжо...

— Ат, слухай ты іх. Нічога яны ня ведаюць,—махнуўшы рукою ўпэўнена тараторыла Хадорка.—Ты зьвярніся да бабкі Матруны. Вось яна так ведае. Вэнь памятаеш і Арыні Сёмкавай казалі, што позна, а бабка Матруна дапамагла—як рукой зьняла.

Ды яна-ж потым хварэла з паўгода.

— Ат, гэта глупства. Ну пахварэла, але затое... Абы бабка Матруна згадзілася. Прасіць яе надта трэба цяпер, баіцца яна—строгасьць пашла. Абы каму цяпер ня робіць,— і доўга яшчэ шаптала нешта Хадорка, ўгаварваючы Марылю.

— Гэта я па рэшата к табе забегла,—узьнімаючыся дадала Хадорка.—Апошнюю муку трэ прасеяць,—і забраўшы рэшата пашла з хаты.

— А ты, кумка, усё-ж паслухаў мяне, падыйдзі да бабкі Матруны,—праз акно ўжо раіла суседка.

* * *

Бабка Матруна, стомленая шуканьнем зёлак, траў, бадзяньнем па лясох, управіўшыся па сваёй гаспадарцы—а гаспадарка ўся—тры курачкі ды цыбаты певень—вышла пасядзець на прызьбе свае хаты.

Маленькая сама, з вялікай галавою, заўсёды павязанай цёплаю хустай, з жоўтым, сухім, як ліст увосень, тварам, расьпісаным рукой бязьлітаснага жыцьця, з бліскучымі войстрымі, як іголкі, вачыма, перагнутая папалам цяжарам гадоў, наганяла жуду ня толькі на дзяцей, але й на дарослых усяе ваколіцы.

Баяліся яе ўсе, але кожны лісьлівіў ёй, бо можа калі й прыдзецца зьвярнуцца за дапамогай бабкі Матруны.

Хатка яе, як і яна сама, шмат год пражыла на сьвеце і цяпер, абапёршыся на колік, стаяла небарача адна, сярод гароду, на адгоне сяла.

Адзіным акенцам, як падсьлёпаватым вокам, падміргвала, здаецца, кожнаму падарожнаму, каб зашоў... І йшлі туды. Раней, кожын дзень азіраючыся па бакох, ішлі шукаць у бабкі Матруны паратунку. Цяпер—не. Ды бабка Матруна й сама ня хоча, каб багата заходзіла: „Хто іх ведае, хто з чым ідзе. Адны шукаць дапамогі, другія...“

А быў час: ці то прыходзіла маладзіца з дзіцянём, які крычэў на зубкі, ці то прыцягнецца старая шукаць палёгкі ад колік у крыжавіне, ці то хлапец малады разагнаць нуду журботную па дзяўчыне любай—усе выходзілі задаволеныя і дзякавалі бабцы Матруне за клопаты.

І добра жыла яна.

Калі-ні-калі пасоўваліся да яе, як здані позьнім змрокам, дзяўчаты, схаваўшы ў хусты твар ад людзкога вока.

Шчыльней зачыняліся тады дзьверы, падсьлепаватае вока больш ня міргала і толькі час-ад-часу чуліся нявыразныя заглушаныя гукі.

Усім дагаджала бабка Матруна, дый было чым.

Праз адчыненыя дзьверы патыхала пахам розных траў,

карэнчыкаў. Маленькімі папушачкамі павязаныя віселі яны пад стольлю, ляжалі на палічках, а ў запечку заверчанае ў брудны кавалак палатна ляжала схаваным пакрытае гразёю завостранае верацяно.

Гэта—скарб, багацьце бабкі Матруны.

Нікому яна не адмаўляла. Быў час... Нікога не баялася бабка Матруна, рабіла сваю жудасную справу—калечыла народ. Цяпер вось ня тое: самой прыходзіцца баяцца, каб што якое ня здарылася. Асьцярожней вяла сваю працу, ня кожнаму дасьць дапамогу, каму і адмовіць, затое і брала даражэй.

Дзень згас. Толькі на захадзе блядая жоўта-зялёная істужка перахватвала, бы дзявочы стан, небасхіл.

Здрыгануўшыся ад сьвежага ветрыку, пазяхаючы, сабралася была бабка Матруна ісьці даць ужо старым косткам адпачынак, як заўважыла цёмную постаць, што асьцярожна набліжалася паўз плот.

Прыглядзеўшыся добра пазнала бабка Марылю, жонку Чобата, селяніна суседняе вёскі.

„Няўжо яна да мяне", зьдзіўлена падумала старая. „І чаго гэта? Што яна мае? З чым ідзе?.."

Бабка Матруна рашыла пачакаць. Позьняе наведваньне Марылі яе зацікавіла.

— Добры вечар бабка! А я да вас...

— Да мяне!.. Не чакала... Зусім не чакала цябе. Якія-ж такія патрэбы прывялі цябе. Ці не здарылася чаго?..

— Вой, бабачка! На цябе ўся надзея мая. Бяры што хочаш, а толькі вызваль. Богам цябе прашу...

— Ш... ш... ш... ня трэба, ня трэба тут. Яшчэ хто пачуе. Зойдзем у хату, там ужо...

Крэкчучы паднялася бабка Матруна, і, прапусьціўшы Марылю, азірнуўшыся зачыніла дзьверы.

Няпрыемны пах сухога зельля затуманіў адразу галаву госьці.

Запаленая газьнічка асьвяціла чорныя сьцены, пол з гурай лахманоў ды папушы траў. Абапёршы галаву на руку слухала бабка Матруна споведзь Марылі ды раз-пораз толькі ківала галавою.

— Так, так!.. Дрэнь твая справа, суседачка. Цяжка памагчы. Я нават і ня ведаю як.

— Бабачка, галубачка мая, вызвалі! Зрабі ласку. Падзякую чым захочаш, што толькі скажаш, зраблю.

— Бач, зязюлька, гэта ня так лёгка вызваліць. Дый цяпер страшна—надта ўжо пільна глядзяць. Як даведаюцца—ні табе будзе, а мяне пацягнуць...

— Рыбай немай буду маўчаць, нікому ані словачка. Нават сюды йшла, свайму наказала,—прасілася Марыля, соўваючы ў руку бабцы два сярэбраныя паўрублі.

— Гэта, бабачка, пакуль, там... што скажаш. Нічога не пашкадую... Вызваль толькі...

— Шкода мне цябе, суседачка, надта шкода! Мусіць трэ‘будзе памагчы,—зажымаючы ў руцэ паўрублёўкі прагаварыла бабка.—Толькі вось што, каб ніводная душа ня ведала. Чуеш?!... Ніводная!.. Пакляніся!.. . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Падсьлёпватае вакенца Матрунінай хаты больш ня міргала... Маўклівыя сьцены яшчэ раз былі сьведкамі жудаснае справы завойстранага, пакрытага гразёю вераціяна...

Вакол разьлеілася густая цішыня і супакой.

* * *

Прайшло некалькі часу. Марыля Чобат адчувала сябе з кожным днём усё горай і горай: галава як не свая, усё цела, кожная жылачка налілася нечым цяжкім—балела.

Няма сіл ужо хадзіць. Зробіць што ды ляжа.

А тут дзеці не даюць спакою—есьці просяць.

Знайдзі, згатуй...

Ня выцягнула—зьлягла...

— Што гэта, Марыля, з табою? Ці не паклікаць каго?—пытаўся некалькі разоў Чобат.

Маўчыць сьцяўшы зубы, а нутро паліць, пячэ... Халодны пот буйнымі кроплямі выступае на лобе. Павекі—цяжкія, цяжкія—няма сілы расплюшчыць вочы...

Становіцца млява: ні то стогн, ні то так нейкае забыцьцё агортвае...

А дзеці пішчаць, енчуць, тузаюць...

— Есьці, мама, есьці!.

Паліць... Ой паліць нутро... Пячэ бязьлітасна... Ня вытрымаць... Смага—піць хочацца... Два разы сонца ўзыходзіла, хавалася, а Марыля ляжыць пластам і... маўчыць. Вочы запалі, чорныя кругі вакол. Твар выцянуўся... жоўты. .

— Не, павязу ў бальніцу! Так і сьмерці дачакацца можна,—рашыў Чобат.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Ноч сінім полагам аксаміту павісла над хатамі. Вышчэрблены месяц глядзіцца ў гладкае люстра ракі. Глядзіцца і ўсьміхаецца, жартам акунаючы ў ваду глыбокую праменьні свае халодныя.

На беразе цёмным, на ўзгорку ля бору белыя муры вокнамі сьветлымі жмурацца месячку—бальніца.

Ціха вакол...

Колькі гора, пакуты ў гэтых мурох?!...

Палата маленькая. Сьвет лямпачкі жоўты спакойна ліецца на белыя сьцены, столік, ложак...

На ложку белым, на падушках ком шэры, зямлісты... Не, гэта ня ком—галава з раскіданымі валасамі, галава Марылі Чобат.

Гэта-ж яна ляжыць...

Праз сьцятыя вусны сінія ня вырвецца нават і стогн. Ляжыць моўчкі... Яшчэ глыбей запалі вочы, маршчыны згладзіліся, выцянуўся нос—стаў войстры. На коўдры шэрай бальнічнай жоўтага воску плеці—рукі.

Ціха, ціха ў пакоі.

Ля ложку, на зэдліку ў нагах сядзіць Лявон Чобат. Сядзіць нярухома. Вочы-шкло цьмянае. У вадно месца. Думае?.. Не, ня думае. Не аб чым думаць. Усё перадумана. Нічога не засталося... Так сядзіць...

Сьвет жоўты спакойна ліецца на ложак.

Усё цішай і цішай уздымаюцца грудзі Марыліны...

Усё болей і болей спыняюцца ў руху павольным сваім.

Во ўздыхнула яшчэ раз...

Затрымала паветра...

Ціха апусьціліся грудзі... спыніліся. .

Сьмерць паклала руку сваю—парвала ніці жыцьця...

А за рэчкай чырванеў усход.

*Апанас Атава.*

## З песьні: „Вясковае жыцьцё-быцьцё“.

Раніцы праменьні выляцелі птушкамі...
Прывітаўся дзень сінявокай далі.
Ў золаце даліна распласталася,
Вецярок збажынку завіхнуў, загушкаў...

Прывітаўся дзень завойстранаму вершу —
Сьпеву кос на роснай сенажаці...
Ад зоранькі там: узмахі, поступ-праца,—
Ад зораньki—сьпешная...

Узмахі й поступ... Безупынку й безупынку...
Пад пацалункі сонейка—яго клапоты...
Надыдзе-ж вечар—ў вёску стройнай ротай,
З песьняй, у зарава заходу,—к адпачынку.

А на вуліцы... Спаткаем піонэраў,
Ў стройных шэрагах... Засыплюць срэбрам...
Сэрца выстуквае: жыцьцё пераверием —
У будучыню-ж залатую—верым.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

К адпачынку, адпачынку - працы шчырай рота!..
Да думак сініх, да пунсовых сноў...
— Зоранька заўтра нас пакліча йзноў,
І знова заўтра нам—пяшчоты з потам.

*А. Жукоўскі.*

* *
*

Ня сумуй, бяроза, пры дарозе,
— Ня сумуй...
Не кляні сярдзітага мароза
— І зіму.
Ня кідай па ветру косы-вецьце
— Ды з жальбой.
Есьць бяда, бярозынька, на сьвеце
— Й больш тваёй.
Да цябе я моцна прытулюся,
— Да дурной,
Засьмяюся ў твар я завірусе,
— Ў твар п'яной.
Я і сам сягоньня крыху п'яны
— Без віна.
Ой, бярозка, зноў ці хутка станеш
— Зеляна?..
Ня дрыжы так, ня хіліся нізка
— Да зямлі.
Твае сёстры, бач, пабеглі нізкай
— У палі.
А ля рэчкі, ў гурах мая вёска
— Вун ляжыць...
Ці кахала-ж ты калі, бярозка?..
— Ну, скажы?..

*А. Жукоўскі.*

# Варывон і Палагея.

**(Апавяданьне).**

Усю ноч Варывон прасядзеў у цеснай і дымнай істопцы—гнаў самагонку. З гэтае прычыны ўраньні ён быў у самым дрэнным настроі. Яно-ж і праўда: чалавек не даспаў, чалавек працаваў цэльную доўгую зімовую ночку (паспрабуй выгнаць самагонкі!), адкуль-жа тут узяцца добраму настрою.

За час доўгага сядзеньня над апаратам шмат думак перавярнулася ў Варывонавай галаве, ды ўсё жаласных такіх, сумных, ды ўсё аб адным—аб жонцы.

— А як жа,—думаў ён.—Ты тут вось сядзі, карпей, як чорт які, а яна разьлеглася там недзе калодаю, ды дрыхне. А потым-жа піць і яна будзе, ды калі хочаш, яшчэ й больш за цябе. Цьфу, чорт... Не, патом, халернае стварэньне гэтыя бабы. Езьдзяць яны на нашым браце, як толькі хочуць. Паслухаць, што яны кажуць, дык і няшчасныя яны, і пакрыўджаныя. А калі разабрацца,—няма няшчасьнейшага чалавека за мужчыны. Ён табе і касіць, і араць, і скародзіць, і ў лес езьдзіць, куды ні павярні, адным словам,—усё мужчына...

Ну, як жа тут ня быць сэрцу пасьля такіх думак? Ну, як-жа тут ня быць сярдзітым на жонку, асабліва тады, калі больш няма на каго абрушыць усю злосьць, ды калі да гэтага занадта ўжо доўга ня было ніякіх спрэчак?

Адным словам, у выніку начных разважаньняў Варывон канчаткова сапсаваў свой настрой і вынес цьвёрдае рашэньне адамсьціць жаночай палавіне ў асобе сваёй жонкі за ўсю крыўду, што церпяць ад іх мужчыны. І Варывон пачаў шукаць выгаднага моманту, каб «адкрыць правільныя вайсковыя дзеяньні».

Гэты момант, які і заўсёды пры шчырым жаданьні, знашоўся хутка.

Калі самагонку з глякоў вылівалі ў пляшкі, не хапіла трох пляшак.

— Дзе-ж яны?

— Адну анодысь Піліп Корчыкаў браў, другая ў Васілія Тодаравага...

— А трэцяя?

— Трэцяя? А хто-ж яе ведае, нешта не прыпамятую я, дзе яна. Здэцца, і не давала я нікому...

— Здэцца, здэцца...—перадражніў Варывон.—Хутка ты ўжо і галаву дзе небудзь забудзеш. Дзе пляшка, я пытаю?

З гэтага і пачалося. Ну, ведала-ж Палагея, што трэба быць асьцярожнай, бо відаць было, што Варывон так і шукае прычэпкі (гэта-ж ужо ня першы раз). Трэба было якнебудзь ціха адказаць, ці пайсьці пашукаць і ўсё было бы добра. Дык не-ж: нібы чорт які падштырхнуў яе пад язык.

— Адчапіся ты! Адкуль я ведаю, дзе твая пляшка. Мо‘занёс самагонкі сваёй Парасьсі, а цяпер да мяне чэпішся...

Варывон нібы толькі і чакаў гэтага моманту.

— Як?—ускочыў ён.—Я занёс Парасьсі?!

Сам ня ведаючы, што ён робіць, але памятаючы, што трэба зараз зрабіць нешта нязвычайнае (у такі момант ён заўсёды выкідываў самыя нязвычайныя нумары для застрашаньня), Варывон падняў гляк з самагонкай і з усяе сілы рэзнуў яго аб вугол істопкі.

— На табе разам з Парасьсяй!..

А Палагея пырк—і няма. Як вадой размылася, ускочыла ў хату і ўжо круціцца каля печы.

А Варывон стаяў над чарапкамі гляка і глядзеў на мокрае месца тупым, нічога не разумеючым поглядам. У душы яго цяжка варочалася злоба, якую ён доўга наўмысьля распальваў у сабе. Горкім комам падступала яна пад горла і душыла.

Ён нічога ня думаў, толькі адчуваў, што яшчэ трэба нешта зрабіць.

— Пабіць,—мільганула і ўмацавалася рашэньне.—Пабіць!..

Ён схапіў за рыла адну пляшку і рашучымі крокамі накіраваўся да хаты. Раптоўна ў яго мільганула адна думка, якую ён адразу заглушыў у сабе дзікім рычаньнем:—Зьмяшу на нет! Будзеш ведаць Парасьсю!.. Сама, відаць, просішся!..

А думка была вось якая. Заўсёды, калі Варывон падступаў да жонкі з пэўным рашэньнем „зьмясіць“, яна пачынала аб чым-небудзь лапатаць, ды так лоўка ўмела выбіраць і моманг і тэму для лапатаньня, што ён губляў іменна гэты момант, узьнятая рука апускалася, падымаць яе зноў было так нялоўка, у выніку ўсяго гэтага Варывон пляваў, паварачваўся і выходзіў з хаты.

Вось гэтая думка аб тым, што і зараз будзе ўсё, як і заўсёды, і ўзьнікла ў галаве Варывона і хоць крыху, але ўжо надламала адчуваньне, ахапіўшае яго.

Душачыся ад злобы Варывон ускочыў у хату. Палагея адразу зразумела, чаго ён ідзе.

— Што? Біцца?..

Не даючы яму апамятацца, яна падскочыла да яго.

— Біцца? А ну, паспрабуй, зачапі. Ты думаеш—табе старое? Думаеш, як раней? Пры савецкай уласьці хочаш біцца?..

Так і ёсьць.. Як ні чакаў Варывон гэтага моманту, але зараз, заместа таго, каб падыйсьці і пачаць акатываць пляшкай па чым папала, як гэта ён намерыўся рабіць, ён пачаў слухаць, што яна гаворыць. І выйшла, як і заўсёды. Калі яна скончыла, Варывон ужо забыўся аб тым, што трэба біцца, а стаяў ашаламлёны навізною яе слоў. Такіх слоў ён яшчэ ні разу ня чуў ад яе.

А Палагея, круцячыся нібы ўюн па хаце, лапатала далей:

— Думаеш пастараму? А не! не, галубок! Цяпер ужо вам правоў няма! Вось паспрабуй, зачапі,—усе хутары склічу, сельсавет паклічу... А не, цяпер гэта ня ўдасца.

Варывон стаяў, як спаралізаваны, проста гледзячы на яе. У галаве яго стыкаліся самыя размаітыя думкі. І сердаваў ён на сябе і сорамна было яму, што з бабай ня здолеў зладзіць, і зьдзіўленьне брала, адкуль гэта Палагея навучылася так гаварыць.

„Гэта што на сход схадзіла“—падумаў ён.

А Палагея, бачучы, што небясьпека мінавала, таратарыла сваё:

— Ну, што стаіш, што стаіш? Ну, удар, удар! Зачапі!

Моўчкі глянуў на яе, падняў пляшку. Палагея з страшэнным сквілам кінулася да вакна. З размаху бразнуў пляшку аб мост, крута павярнуўся і вышаў вон. Пастаяў сярод двара. Зачасалася пераносіца—пачасаў. Новая думка апанавала ім, зьбіла яго зусім з толку.

— Так... Бабам, значыцца, улась... Добра... Ага, панімаім, добра панімаім, значыцца... Камунізма... Так... Бальшавічкі...

Мармычучы пад нос, ціха рушыў пад павець. Чаго ён пашоў іменна туды, а не ў другое месца, ён бы і сам не адказаў. Ішоў, пакуль ня ўпёрся ў сьценку. Глянуў—на гвазду вісяць вожкі. Для чаго-та зьняў іх з гвазда і пачаў глядзець на іх.

Адчуваньне дзікай злосьці зьмянілася ў яго ціхай пакорнасьцю, але і гэтая пакорнасьць была чымсь надуманым, знадворным, як і нядаўняя злосьць. Выгляд вожак радзіў у яго новую думку, надзею згуляць добра другі акт, калі ўдаўся першы.

Ён добра ведаў, што Палагея сочыць зараз праз вакно за кожным яго крокам, але стараўся не глядзець у той бок.

— Што-ж,—наладжваў ён сябе на новы лад. Калі так, калі ўлась за іх, тады нічога не паробіш. Супроць ражна не папрэш. Як гэта я раней ня ўспомніў гэтага.

Становячыся так, каб яго тужлівы твар біў відней з вакна, Варывон раскруціў вожкі і раскінуў іх па зямлі, трымаючы за сярэдзіну. Ён адчуваў на сабе погляд Палагеі і думаў:

— Глядзі, глядзі, сьцерва. Радуйся... Што-ж, калі на гэты раз тваё ўзяло. Даўно чакала гэтага...

Ад гэтых сумных думак аж у горле казытала. Цяжка ўздыхаючы, ён акуратненька сабраў вожкі, закінуў іх за плечы і ціха апусьціўшы галаву і соўваючы нагамі, накіраваўся ў хлеў.

— Але ладна,—ламаў ён камэдыю сам перад сабою, закідаючы вожкі за баньку,—потым пашкадуеш, але позна будзе.

І разам, недзе глыбока варушылася думка: „Няўжо ня выйдзе, няўжо ня перапросіць“? Варывону прадставілася карціна, як з дзьвярэй выбягае з немым крыкам Палагея, кідаецца яму ў ногі, цалуе іх, просіць ня губіць сябе і яе, перапрашуе. Ён адкажа: „Адыйдзі, дзіліхатка. Ідзі, шукай сабе камсамольца, а мне ўжо больш ня жыць“. Тады яна яшчэ больш будзе галасіць.

— Ну, тады можа і прашчу.

Але-ж нешта ня йдзе, нешта ня чуваць, каб скрыпелі дзьверы.

— Ладна,—бяз толку тупаецца Варывон і ў дзесяты раз папраўляе добра прыладжаную вяроўку.

— Ладна, жыруй сабе, раскашуй на маім добрым. Толькі... Тсс...

Ціханька, ледзь чутна скрыпяць дзьверы.

— Ага, не ўцярпела, сьцерва!..

Стараючыся не глядзець перад сабою, з тым жа тужлівым тварам Варывон пачаў прыладжваць пятлю. Сэрца тахала, як цапы па снапох. Варывон ведаў, што вось цяпер яна сходзіць з ганак, цяпер—ідзе па двару, падыйшла!.. зараз кінецца... Не... мусіць, глядзіць у шчыліну.

Цяжка ўздыхнуўшы, Варывон пачаў надзяваць пятлю. І да таго цяжка яму пры гэтым стала, што на момант ён і сапраўды паверыў было ў сур'ёзнасьць усяе справы. Аж сьляза пакацілася.

— Слухай, слухай,—раптоўна, так, што Варывон здрыгануўся, пачуўся прарэзьлівы і разам з тым насьмешлівы голас Палагеі,—а шапку-ж.. шапку чаму ня зьняў? Нязручна ў шапцы...

— Цьфу!—плюнуў Варывон і з сілаю адкінуў ад сябе вожкі.

... Калі ён увайшоў у хату, дык убачыў на вакне акуратна складзеныя аскалёпкі пляшкі, а каля стала Палагею. Яна старалася трымацца падалей ад яго і твар яе быў самы яхідны.

Варывон моўчкі залез на печ, накрыўся з галавою кажухом і, нават засынаючы, думаў: „Савецкая ўлась!.. Камунізма праклятая!"

А ва сьне бачыў Палагею, і Варывону здавалася, што яна цалавала яму ногі.

*Апанас Атава.*

# Над Дняпром.

Як кілім—навакол сенажаць!..
Я гляджу на дняпровую гладзь...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

У грудзёх у мяне шчыпле боль,
Кроў у жылах цячэ перабоямі...
Шкодна сіл мне да горачы сёньня...
Ой лясы, сенажаці, загоны!..
Ў дні вясны і жыцьцёвай зары—
Бесклапотна я вас раздарыў!..
Гэтак шкодна... але не вароціш!..
Годы хмелю ня вернуцца ў госьці!..
А наперадзе—гляну, як гляну—
Хараства, хараства на сьвітаньні!
Гэта-ж толькі-б—нястрымана рвацца...
Гэта-ж толькі-б—вагнём запаляцца...
І як вёсны—брысьці і цьвісьці—
У гарачым ды гордым жыцьці!
Як зямля у блакітным адзеньні,
Цалаваць сонцавеяў праменьні...
— Як бранзовая моладзь ў вадзе—
Успл ёскам сьмеху ірдзець—маладзець...
Але-ж не—не знайсьці ў сэрцы палу,
Каб узьняўся бушуючым валам,—
Як калісьці—як піў маладосьць...
О маё залатое раздольле!...
Яшчэ раз пра цябе я успомніў—

Яшчэ раз прасьпяваю пра поле...
Пра бялявую Случчыны шыр—
Над Дняпром... у ласкавай цішы.
Дняпро мілы! Ўпяршынь цябе бачу,—
Ціхі мой, ты прабач-ня йначай!
Што тваё я вялічча й красу—
Пераліў у няведамы сум...
Я-ж ня вінен, што сэрца ня ў ласцы...
Я-ж ня вінен, што вёсны мігцяцца.
— Прывялі мяне—горным пакінуць
Успамінак—пра моладасьць сінюю...

* * *

Не да твару мне гэтая песьня!...
Гэта знаю я—голаў павесіў...
— Але-ж гэта адно на хвіліну...
Прыдзе радасьць!—Сасьпее малінай!!!

* * *

О, жыцьцё—дай цябе мне абняць!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Я гляджу на дняпровую гладзь...
— У грудзёх у мяне шчыпле боль—
— Кроў у жылах цячэ перабоямі...

Рагачэў.

*Барыс Мікуліч*

# Воля сыновая.

**(Апавяданьне)**

1.

Вечарам зьбіраліся дзеўкі і хлопцы, раскладалі вогнішча на выгане, круціліся ля вагня і пелі:

Каліна ты, ружа мая чырвоная,
А не садзіся блізу горада Дабрэнева...

Змрок начны напаўзаў на іх, але спужаны бляскам вогнішча, падабраўшы сьвітку, уцякаў пад лес.

Дзяўчыны сьпявалі „Каліну" высокім гарлавым голасам, ад якога плёскалася цішыня, зьвінела водгульлем.

Сорам узяў хлапцоў, што дзяўчаты прыгожа гэтак сьпяваюць, а яны толькі слухаюць—зацягнулі „За Донам, Донам", але песьня абарвалася на самым пачатку, бо цягнулі хто ў лес, хто па дровы...

Дзяўчаты загарэліся задорам, адчуваючы перамогу, паліліся раптам жартаўлівыя прыпеўкі, у якія хуценька, наляту, падстаўлялі імёны хлапцоў. Пасьля кожнай удалай выдумкі—рвалася паветра выбухам рогату.

У хатах расквіталі „купалкі"—чыя за ноч расквітнее лепей—шчасьце таму ў жыцьці будзе...

А раніцою, на Яна—сонца не паказалася,—хмары ўваткалі небасвод.

Дробны дождж расьцінаў паверхню ракі, стаяла цішыня над ёй—ветру ня было.

І ня гледзячы на тое, што ішоў дождж—сабраўся стары Несьцер вудзіць рыбу, бо рабіць было нечага... Гаспадарка ўся—рабая карова ды люлька. Была баба—маладая жонка, але зараз няма... А баба Несьцера маладая зусім. Толькі два гады, як пажаніліся і жыць пачалі ніштo сабе. Думаў сабе Несьцер:

— Вось вазьму гэта я сабе... моцню бабу... Выдзялю сына... І эх.. пажыву на старасьці гадоў на славу...

І сабраўся надалей жыць з жонкай у згодзе. Але здарылася вось гэткае ліха. І адкуль яго прыйшло—ванцак яго ведае... Аднойчы вечарам, калі заганялі ў хлеў авечак ужо,

калі дзеўкі сабіраліся па канюшыну на саўхоскае поле ісьці, калі змрок, бы вадкасьць, заліў хату ўсю—моцна грукнуўшы дзьвярыма, у хату ўвашоў Несьцераў сын.

Кінуў сьвітку на лаўку, закурыў над газоўкай цыгарку і маўчаў.

— Напаіў каня?—запытаў яго Несьцер. Сьцяпан—гэтак клікалі сына—адвярнуўся да вакна і маўчаў. Несьцер запытаўся ізноў:

— Га? Чуеш... Ці напаіў каня?

Цішыня ізноў.

У сьветлым чатырохкутніку вакна—сылуэтам нярухомым Сьцяпан.

Толькі папыхвае цыгарка.

І ад таго, што стаяла цішыня ў хаце, што круціўся ў паветры змрок—страшка стала.

А Сьцяпан сядзеў, адвярнуўшыся да вакна, з шырачэзнымі плячыма, з махнацьцю галавы. Тады паклікаў Несьцер са двара жонку сваю Маньку і загадаў тапіць у печы.

... Дагарала ў печы, бубнела нечага Манька, выкала ў калысцы дачка Сьцяпана.

— Дзе-ж твая маладзіца,—кінула Манька:—мо‘ з Міхалачкам гуляе дзе?

Бліснулі тады вочы Сьцяпанавы і прыдушана нияк адказаў:

— Гэта ўжо—мая справа... Сачыцьза жонкай ня буду... А вось за табой параю бацьку...

Узбрылася] раптам Манька, бразнула конаўкай аб падлогу, падляцела да Несьцера і кулакамі замахала.

— Гані, стары, сабаку гэтага вон з хаты!.. Папіхаць намі будуць... Гані, кажу...

Даўно сьпела думка ў Маньчынай галаве—авалодаць гаспадаркай усёй. Вось і надыйшла хвіліна, калі можна шчасьця паспрабаваць...

А Сьцяпан, з усьмешкай маленечкай, адказаў:

— І я кажу, маладзічка, выкачвайся з маёй хаты. Досыць нацярпеліся ад цябе. Ня любіць сабака, калі людзі б‘юць...

Вось гэтак і сказаў.

... Абыйшла вёску вестка цікавая: Сьцяпан пабіў Маньку і з хаты выгнаў. А раніцою праз тыдзень Кацярына Шастаковых абвясьціла ўсіх:

— Пайшлі судзіцца са Сьцяпанам... Бачыла, як у мястэчка папляліся...

З гэтага і пайшло.

2.

Пусьціў селянін адзін Несьцера ў хату.

— Як сына вазьму ў рукі свае—падзякую ўжо,—абяцаў Несьцер.

А пакуль тое будзе—чалавеку, значыцца, на вуліцы валяцца якраз.

Суд быў, пастанавілі, каб Сьцяпан выплачваў бацьку дзесяць рублікаў у месяц, а з гаспадаркі—карову. І пачала тутака круціць Манька. Казала на вёсцы:

— Была дура за старога ісьці... Мы яшчэ паглядзім... З чаго я жыць буду? Дзесяць рублёў? Го... Я баба маладая— мне гаспадарка патрэбна, а ня дзесяць рублёў...

А суседкі, качаючы галовамі, паддаківалі.

... Пачала Манька плесьці на Сьцяпанаву галаву розныя агіднасьці. Да яшчэ Несьцера падбівае, каб казаў: сын б‘е. Не па сабе стала Сьцяпану—стрэчны кожны дбае і дбае пра Несьцера. Ратунку ня стала. Прышлося шукаць выхаду.

— Узяць бацьку,—казаў ён жонцы сваёй,—жыць да сябе, узяў бы... Але-ж Манька скулой сядзе... Гаспадарыць хоча.

Выхад прышоў сам па сабе. Сабралася вёска на раду: трэ‘ будаваць мост праз раку. Там, за ракой, луг, сенажаць— пытаньне сур‘ёзнае для ўсякага гаспадара.

Гудзелі сяляне.

Нізкарослы, таўсмаценькі чалавечак, расьцягваючы кожнае слова, вёў:

— Пасеў, слава богу, добры... Няма чаго грашыць... Гэтак узьнялося, што люба-весела... Да жніва дацягнем неяк...

— Ага,—адказвалі.

А другі пра мост:

— А нам на хутар прыдзецца—у раку кінешся? Не, браточак, мой, не... Мост нам патрэбен, як хлеб той...

Каля Несьцера сабраліся старыя. Ён троху п‘янаваты, размахваючы рукамі, нешта даводзіў. Яго сур‘ёзна і ўважліва слухалі.

— Гэ! Я яму давяду ўжо, як бацьку абражаць. Ён мяне біць, а я яго: цыц! Значыцца... Лаяцца, таксама... Зачыні ляпаўку і айда...

Падляцела раптоўна Манька.

— Ратуначак дайце!.. Сьцяпаніха карову забіць хацела... Я бараніць, ведама, кінулася, дык яна мяне паленам...

Супынілася.

Падышоў Сьцяпан. Моўчкі прасунуўся праз натоўп і

падышоў да Несьцера. Той забегаў вачыма: куды ўцячы? Сьцяпан, прыгнуўшыся троху, як-бы насунуўся на яго.

— Ну, бацька, кажы... Вось тутака перад народам кажы: біў цябе я калі?

І ад запытаньня гэтага стала сорамна, бо ён-жа, Несьцер, стары чалавек, хлусіў пра сына. І апусьціўшы галаву долу і асеўшы пад поглядам Сьцяпана, ціха праказаў:

— Гээ... браткі... Воля сыновая...

І пайшоў.

Манька ў сьлезы. Падляцела да Сьцяпана.

— Што?.. Што?.. Бацьку старога абражаць перад народам...

Адхіснуў яе Сьцяпан рукой.

— Ідзі ты, недапечаная...

* * *

Сядзіць вось цяпер адзін дзед Несьцер і вудзіць рыбу. Улоў невялікі, але часу стары мае шмат. Ды на вячэру якую шчупака будзе.

А Манька недзе на хутары ў бацькі чакае сватоў.

Часам, калі запытаеш у Несьцера пра здарэньне з сынам, махне рукой, і, пыхкаючы старой люлькай, адкажа толькі:

— Гэ... браткі... Воля сыновая... Што зробіш?..

*Міхась Лынькоў.*

# Журавель мой, журавель...

(Апавяданьне)

Падае сьнег.

Усё гусьцей і гусьцей, у нейкай маўклівай вялічавасьці і ўрачыстасьці апускаюцца лёгкія сьняжынкі і акутваюць зямлю тым невыясьнімым супакоем прадзімовым, які чалавечая чулая душа заўважа, адчуе толькі на міг, на хвіліну.

Нібы белы сон апускаецца на зямлю. І не гудуць маўклівыя белыя мухі. І сьніць зямля аб мурожнай траве. Ісьніць аб зорах бліскучых зімовых...

Тады стыгне сэрца.

Тады пуста.

Нібы гэтыя сьняжынкі—чыстыя, белыя—што абляпілі і шыбы вакна, і галінкі сумнае ліпы пад вакном, і двор, і вуліцу, і ўсю бязьмежную зямлю,—нібы сьняжынкі гэтыя апускаюцца ільдзінкамі на сэрца, ільдзінкамі войстрымі і халоднымі, таюць на ім, гасяць у сэрцы цяплынь, гасяць надзеі, жаданьні...

Калісьці—даўно, даўно—калі Вера была яшчэ Вярунькай і калі сонца сьвіціла куды зырчэй і калі травы расьлі пахучай,—тады падабаўся і сьнег. Ён чысты, чысты і такі белы. Нібы крахмальнаю посьцілкай засьцілаў ён брудны двор. Паглядзіш з вакна—любата! Ні калужынкі, ні памыяў, ні сьмецьця, ні таго агіднага паху, ад якога трэба было заўсёды зачыняць вакно—нізенькае, каля самай зямлі, невялічкае вакенца з прагніўшымі рамамі і заплесьнявелымі, замурзанымі шыбкамі. Люба тады было і прабегчы басаnож па двару. Ногі чырвоныя, чырвоныя, аж сэрца заходзіцца. А весела ўсё-ж-ткі. Куды там! Праўда, матка сердавала часам, а то і за валасы схопіць, накрычыць:

— Ты ў мяне вось пабегай яшчэ, пабегай, гадаўка, ўвесь нос твой кірпаты зруйную...

Ды ўсё-ж-ткі мамка. І накрычыць, і ляшча дасьць—ня стра-а-шна!. А калі прыдзе адкуль-небудзь, занёсшы бяліз-

ну, дык глядзі: ці кавалачак пірага, ці абаранак які, а часам і цукерку дасьць.

Тады матка садзілася звычайна на табурэцік, не на той, на якім начоўкі з бялізнай ставілі, а на новы, што ў куту ля стала, і гаварыла, абапёршыся на далонь шчакой:

— А ведаеш што, Вярунька?

— Чаго?

— Вось... татку памятаеш ты?

— Татку? Якога татку?

— Эх, неразумнае ты маё, галованька твая бяспрытульная... Расьцём вось безбацькавічамі... Каму мы трэба, хто аб нас хоць падумае... Жывём, як той гарох пры дарозе — хто йдзе, той і скубе. Ня жывём, а мадзеем...

— А чаму гарох?

— Ат, адчапіся... Ідзі на вуліцу...

Мамка бралася зноў за работу. Вымала з печы вялікія чыгуны з вадой, спаласквала начоўкі, даставала з пад ложаку брудныя вузлы з такой-жа бруднай, чужой, пазаношанай бялізнай і прымалася за сьцірку. Вяруньцы нечага было робіць у хаце — матцы яна яшчэ ня памач — малая. І яна шла на вуліцу. А там заўсёды дзяцей поўна, асабліва летам. Тут-жа й рака — купайся ад раньня й да вечара — і пад'есьці некалі. Тут-жа й лесапільны завод, аграмадны, з вялікім комінам — зірнуць страх. Заўсёды дым з яго такімі чорнымі, чорнымі клубкамі. Па рацэ плыты ідуць. Абганяюць іх параходы. Тоўстыя, пузатыя бярліны плывуць, не скалыхнуцца, блісьцяць на сонцы залацістым гонтам. А чаўноў, чаўноў — шныпараць па вадзе — не пратаўчэшся.

Тут-жа і прыстань невялічкая. Ля яе заўсёды народ тоўпіцца, стаяць балаголы. На пяску старыя якары валяюцца, на беразе дагніваюць пракавечныя лайбы з струхлелымі днішчамі і паіржавелымі, пакрыўленымі цьвікамі.

А на ўзгорку нахіліўшаяся крама, прыліпшая шкарлупкаю той да зямлі. У краме крывавокая цётка Луцэя прадае табаку, сялёдкі, абаранкі, цукеркі, а летам такі прыгожы і чырвоны квас. Прыгожы квас і прыемна глядзець, як булькоча, пераліваецца ён пад сонцам, калі наліваецца квас па стаканах. Хто-ж небудзь да п'е. А Вяруньці, Міцькі, Кацькі — у рот глядзяць.

І тады цётка Луцэя бярэ заўсёды мятлу і крычыць на ўсю прыстань:

— Ату вас, кыш, галапузыя...

І ўсе кідаліся ўроссып — куды вочы глядзяць. Бягуць і заліваюцца на ўсе галасы вясёлаю песьняй — дражнёлкай:

Цётка Луцэя
На сонцы пацее,
Чорту душу
Прадае за йгрушу...

— От і дашкураюць-жа, каб на іх звод. Ĭ ўправы тае ня знойдзеш на іх. То-ж бязулы...

Ĭ цётка Луцэя ўрачыста пагражала кулаком з дзьвярэй сваёй крамы, а дзетвара, забраўшыся на недаступныя бярвеньні, яшчэ гучней і галасьней, аж на ўсе прыбярэжныя вуліцы, памінал і аб цётчынай душы,

Але-ж і Луцэя надакучыць. Тады можна і другія забаўкі знайсьці. Ля варот заводу дрэмле заўсёды дзед Апанас—завод пільнуе. У дзеда тоўстая, сукаватая качарэжка і цікавая табакерка з бяросты, якая ляжыць заўсёды за пазухай. Звычайна дзед сядзіць і носам клюе. Вось, вось сагнецца ў дугу. Ĭ тады, сарваўшыся як тая вераб'іная зграя, усе падбягалі раптам да дзеда і крычалі пранозьліва на самае вуха:

— Дзед Апанас...

— Га...— з прасонку крыкне дзед.

Усе хуценька хаваюцца за штабялямі дошак, дроў і бярвеньняў. А дзед, падняўшыся з лавы, вылупляе вочы, шчурыцца на сонца і заўважыўшы каго-небудзь за штабялямі, пачынае хітраваць. Прыжмурвае вока, нібыта сабіраецца злазіць у табакерку і нечакана кідаецца да штабялёў. Усе ходу. А дзед доўга мармыча нешта, седзячы на сваёй лаве і пачэсваючы затружаны хрыбет.

— Ну і шкнарадзь-жа і паганцы-ж, каб на іх ліха, супакойна адпачыць—і то не даюць. Пачакайце-ж, я да вас дабяруся. Але дабрацца да дзетвары яму так і не ўдавалася. А сам цярпеў: то качарэжку скрадуць, то завяжуць вузел на штанох, калі дзед, спакусіўшыся цёплай вадзіцай, пялёскаўся дзе-небудзь на мелкім, між платоў і бярвеньняў. Але-ж каб сердавацць—не сердаваў асабліва дзед.

— На тое-ж яны і падшывальцы, што з імі зробіш...

Ĭ калі ён быў у добрым настроі (заводзіў песьню пра турэцкую вайну да пра белага генэрала), „шкнарадзь“ без усякага страху авалодвала дзедам і ён доўга, цягуча расказваў пра турку.

— Ĭ такі ён з сябе чарнявы, а нос, брат ты мой, што твой якар... І бяжыць гэта ён і пішталетам махае: „здавайся, моў, рус, іначай капец табе...“

— Ну?

— Вось табе і ну, а я яго штыком ды як садану...

— Ĭ што-ж?

— Пагодзь, хлапец, не сьпяшыся. Дай па парадку ўсё.

Дык вось—ён тут пісь—і дух з яго вон.

— О-о! і ня страшка?

— Эт, пішталет, дзе-ж там страшка, ежалі салдат я і пры ўсёй амуніцыі. А вось як пад белым генэралам хадзілі...

Добры быў дзед. І шкадавала дзетвара і болей за ўсіх бедавала, калі ўзімку загінуў дзед, папаўшы ў пельку, пераходзячы ноччу раку. Вясной і знашлі толькі. Глядзець усе бегалі. І доўга сьніўся дзед--сіні, распухшы, з аблезлымі і склізкімі шматкамі барады. І табакерку знашлі ў кішэні. І ў табакерцы залатая пяцёрка была—уся дзедава маёмасьць, яго багацьце. Пасьля дзеда застаўся яшчэ ўнук яго Ігнатка. Яшчэ малым хадзіў на завод ён—абрэзкі падбіраў, складаў да кучы. А жыў дзе прыдзецца—то ў аднаго, то ў другога, то ў качагарцы перасьпіць. Летам—на дошках. Цяпер вун хлапец нішто, ад другіх не адрозьніш, ды й прыгожы яшчэ... Добры хлапец... Відны хлапец... так... Прыгожы... Нішто...

... А сьнег падае. Падае, падае сьнег. Сьняжынкі, як тыя белыя мухі, супакойныя белыя мухі, нібыта на нявідомых нітках спускаюцца да зямлі, пераганяюць адна другую і ціха, спакваля лажацца на зямлю, пакрываюць дахі, усьцілаюць нібы ватай той ваконныя шыбы.

Вун певень нерашуча прашоўся па двару і зябка падцяў адну лапку і стаіць—задумася. Пад паветкай нахохліліся куры, не да кудахтаў цяпер: зіма—зімавіна прыходзіць, а з ёй не да жартаў—ні зерня табе, ні казюркі, ні чарвячка—небаракі. Толькі стары вун плот на сьнягу чарнее, але прыдзе і яго пара, абмятуць і яго завеі, убяруць пухкімі гурбамі сьнегу.

Чаго-чаго, а сьнегу багата зімой. І калі сьнег, і калі сьняжынкі белыя—люба ўспомніць аб сонцы, аб вясьне, аб залатым дзяцінстве. Мо' яно і не залатое, мо' яно і мурзатае, і румзатае, і хмурнае, і суровае, але калі—ж вочы блісьцяць, як тыя іголкі калючыя, калі яны сьмела з сонцам дражняцца, калі сьлёзы сушацца сьмехам? Звонкім, радасным, як сонейка скрозь хмары, і такім бесклапотным? Калі-ж гэта, калі?

...Стройныя шарэнгі ідуць па двару, маршыруюць. Міцька ў барабан б'е і заліваецца барабан шротам дробным, аж ад каменных сьцен ідуць пагалоскі, курэй пугаюць—раскудахталіся. А чырвоныя гальштукі гараць палымем, і макам чырвоным расьцьвітаюць запацеўшыя, замурзаныя твары. А песьня—песьня—вун Пятрук—пэцкун—дзіркі на пузе сьвіцяцца, стаіць ля ганак і як паклаў палец у рот—не зварухнецца. Заслухаўся малы,—зайздросьціць «вялікім».

— Пацапан у іх... Зулавель пяюць...

А журавушка—журавель усе галасьней, гучней запаўняе ўвесь двор, вуліцу, далятае пагалоскамі да ракі, да плытоў, да заводу:

Журавель, мой журавель,
Журавушка малады...
. . . . . . . . . . . . . .
Рукі мыць
І ногі мыць
І сырой вады ня піць.

— Іш ты іх, пацаны разышліся...—прабурчыць якаянебудзь бабка ў вакно і, адагнаўшы сьпіцай муху ад носу, садзіцца за няскончаную панчоху.

А журавель пабедна гучыць над усім, перамагае ўвесь двор, усю вуліцу—усе прыслухаюцца да жураўля. Як жа, рэпэтыцыя, трэба добра навучыцца маршыраваць, хутка сьвята прыдзе, на дэманстрацыю трэба пайсьці.

І ня толькі журавель адзін. Вечарамі, вун, па нядзелях, у старэнькім нахіліўшымся клюбе заводу сабіраюцца малыя, справы вырашаюць. Для іх і пакойчык спэцыяльны адведзены. І прыходзіць да іх Ігнатка часам, малады камсамолец. Ён уваходзіць сур'езны і крышачку хмурны Заўсёды ўрачыста кажа:

— Будзь гатоў!

І ўсе дружна адказваюць:

— Заўсёды гатоў!

Хлопцы шумяць, бязуляць іншыя, але Ігнатка сур'ёзны, прызаве да парадку ўсіх і трымайся толькі тады:

— А якая ўлада раней была?

— А чаму ты нос не памыў?

— А ці можна піонэру семячкі грызьці?

— А якое ж сьвята ў нас заўтра?

— А ты з мамкай у царкву усё, а я табе што казаў?

— А сто-з, калі яна б'ецца, цуць сто, дык паплугай...

Якіх толькі ня было пытаньняў. А потым гульні ў сваіх і чужых, у вайну, да ці мала чаго...

Так, ці мала чаго. Але гульнямі сыт ня будзеш. А Вяруньцы чатырнаццаты год. І калі сабярэцца дзетвара вясёлай гурмай на рэчку іцьці, пазыбацца на параходных хвалях —Вярунька асобна йдзе. Ідзе толькі з дзяўчатамі—куды там, нязручна з усімі разам, ну з хлапчанятамі гэтымі самымі, праз год, праз другі, глядзі, нявестаю стане, дзяўчынаю поўнай ..

Вун нядарма і мамка часам углед зіцца так, неяк дзіўна, па новаму, ды слова—другое прамовіць:

— Глядзі ў мяне, дзеванька...

— Чаго ты, мамка?

— Гэта я... аб хлапцох гэта я гавару... Ты глядзі, разум мей...

— Ат, што ты, мамка, гаворыш!.. І якія тут хлопцы і пры чым?

— Ну, тота-ж.. —значна прагаварвала мамка,— чатырнаццаць год маеш, а гэта табе ня што-небудзь...

Так, чатырнаццаць. Можна-б і раней на працу стаць на якую, але-ж адзіная дачушка, адзінае дзіцятка—шкода матцы, жалкуе часам. Але шкадуй не шкадуй—ад працы не ўцячэш.

— Вось што, дачушка, гаварыла я сягоньні з Мікіцёнкам, што на заводзе ў заўкоме тым. Трэба, галубка, за працу станавіцца. Мой хлеб цяжалейшы, ня раю яго табе... Вось пойдзеш з панядзелка на завод. Сякую-такую працу дадуць: абрэзкі тыя, апілкі там, да знойдзецца што па тваёй сіле...

Так зьявілася на заводзе новая камсамолка Вярунька (нядаўна толькі з піонэрак вышла). Працавала колькі на абрэзках, потым дошкі нагружаць стала на ваганетках, потым ля цыркуляркі паставілі... І люба-ж было... Раніцой, яшчэ клубяцца туманы над ракой, гудзіць, залівaецца медны голас гудка.

— Гу-гу-гу... годзі спаць, падыма-а-а-йся...

І хуценька на завод. З усіх вуліц і перавулкаў брыдуць нахмураныя, яшчэ ня выспаўшыяся рабочыя. Але, чым бліжэй да заводу, чым большыя зьбіраюцца купкі людзей—глядзіш і весялейшымі сталі людзі, страхнулі сон з сябе і сьмяюцца ўжо, часам зубы лупяць з дзяўчат. Асабліва вось Ахрэм.. Стары, а дзяўчын ня міне ні воднай, кожную зачэпіць.

— Верка, штаны вун згубіла!--крычыць на ўвесь бераг.

Вярунька чырванее, бяспомачна, нерашуча аглядваецца навокал, баіцца пад ногі зірнуць (а ну, чаго добрага, хапаешся са сну...) А навокал рогат. Але на помач Арцём прыходзіць—наводчык піл. Ён весела цепане па плячу, падміргвае, але бяскрыўдна так, ветліва...

— Слухай ты яго пустаброха... Ахрэм што ні слова—брэша заўсёды... Ня румянься дарэмна...

А вось і завод. Гудзяць пілы, пранозьліва зьвініць верашчыць цыркулярка. За сьцяной пагражаючa шыпіць машына, пыхкае парай. Бяз памяці носяцца ваганеткі, мітусяцца рабочыя. Але толькі знадворку здаецца так: прыгледзься-ка лепей—кожны на мейсцы сваім, у кожнага свой абавязак. Вун і Ігнатка ля свайго станка. Памоцнік станкавога—не абы як. Заўважа Вяруньку, на хвілінку ад станка адарвецца, ёй дапаможа конвэйер прыладзіць, пусьціць сярэбраны дыск цыркуляркі.

— Ну, працуй, да глядзі, сьцеражыся, зажымкі вось у час вымай... Да глядзі... пальцы, або рукі ..

І жартаўліва ўжо:

— Ну, будзь гатова!

— Заўсёды гатова!..

Ігнатка ўжо ля свайго станка, к якому бесканечна паўзуць таўшчэзныя мокрыя калоды. Шалёна шорхаюць пілы, выкідваючы фантанамі жоўтыя апілкі, пахне хвояй, смалой і потам—цяжка тут. Цяжка ні цяжка, але ўсьпеюць і падміргнуць Ігнатку і пажартаваць часам:

— Не ўвівайся, браток. Дарэмна... Не аддасьць за цябе матка, жалкуе занадта. Каб шчіблеты, кажа, і пры часах... Не абы як... А мы з табой гэблям скоблены... Пацаноў пладзіць...

— Ну, кінь ты ўжо языком часаць...

Прызнацца, любіць Вярунька завод. І рабочых, і старых, і хлопцаў—вун камсамольцаў колькі сваіх. І дзяўчаты ёсьць. Усё свае—прыбярэжныя. Аднаго толькі мейсца баіцца Верка і ніколі да яго не падыходзіць. Ні то страшка, ні то холадна неяк робіцца, калі і падыйсьці да яго. Гэта вун вуглавы вялікі станок, з пад якога выходзяць самыя тоўстыя дошкі. Там заўсёды неяк асабліва страшка гудзяць пілы, нават жудасна неяк. Там працаваў калісьцы татка Вяруньккі і рукі пакінуў там... А памёр у бальніцы, антонаў агонь быў... Аб усім падрабязна расказалі старыя рабочыя: як упаў, як зьбялеў і крычаў потым, як спынялі машыну... Апілкі былі чырвоныя... Даўно гэта было.

— Ты хадзіць яшчэ вучылася тады, толькі што кінула поўзаць...—кажа часам аб гэтым маці.

І які ён быў, ці такім вось, як усе рабочыя гэтыя, як вун дзед Іван, ці стары Карней, што ходзіць заўсёды хмуры, засмучаны (дзяцей загарадзь, карміць жа трэба), ці вун дзядзька Сяргей, у якога, здаецца, застыгла на векі—вечныя ўсьмешка вясёлая на шчаціністым твары. І лысіна яго нібыта сьмяецца. Як жа, вечна вясёлы, вечна песьні пяе, весяліць усіх.

— Ня журыся, малы, гудок хутка. А ты, красуня галаву ня вешай, знойдзем хлапца, знойдзем малайца..

... Эх, хоць бы раз, хоць бы разочак зірнуць-пазірнуць на дарагога татку... Дзе там... Ня вернеш мінулае... Асабліва, калі... апілкі чырвоныя...

... Нудна глядзець у вакно. Шэрая раніца, прадзімовая. Усё спускаюцца ціха сьняжынкі... Вун палавіну шыбак заляпіла.. У прадранічным змроку тускла сьвіцяцца бліскучыя шышкі шырокага ложку. Зірнеш на іх—холадна робіцца, працінаюць дрыжыкі цела. Задрыжыш, калі поплеч з табой...

нялюбімы, нянавісны... Муж. Сьпіць. Пагардліва падкурчыла пад сябе ногі Вярунька, адвярнулася, каб не дакранацца да мужніна цела, гідкага, дрыжкага, як тое цеста жыдкае. У-у... пропадам прападзі яно ўсё, захланіся...

Дыша муж, паволі апускаецца і падымаецца цяжкая ватная коўдра, на стале будзільнік цікае, цішыню парушае... Побач з будзільнікам пляшачка з ёдам, нямыты стакан з пад малака, і на сподцы павучок паўзе, шэранькі, невялічкі...

— Хоць бы са стала спусьціўся, мо' б к шчасьцю якому, к перамене той... І дурная, што думаю я, да чаго дажыла — у павучку шчасьце знайсьці хочаш...

А бліскучыя шышкі сьвіцяцца, сьвіцяцца холадна, шэра... Вун мухі на столі — паскурчыліся, павысахлі, на лямпу наліплі. і толькі са сьцяны ўсьміхаецца з шырокага дывану, што над ложкам, херувімчык нейкі (амурчык, кажуць), хлапечык такі галыш. Усьміхаецца аж да вушэй, чырванее твар яго, нібы тыя яблыка палавінкі, а чаму ўсьміхаецца — запытай яго. Можа сэрцу таму, што стралой вун прабіта (жоўтае па чырвонаму), ці тэй пляшаццы з ёдам.

Ёд... Малако... Муж... І ад мужа, і ад ласк яго ёдам пахне і яшчэ нечым... І яшчэ нечым... Ах, мамка, мамка, каб ведала ты, да каб знала, як цяжка жыць з нялюбімым, цяжка быць з нянавісным, глядзець у вочы яму, цалаваць вусны гэтыя, вось поплеч ляжаць з ім, дыхаць паветрам адным — дзе ёд і гнілыя зубы, і пот гэты...

І прыдушаны плач сатрасае худзенькія завойстраныя плечы (сямнаццаць год толькі, да ці ў радасьці-ж), прытуляецца Вярунька к падушцы, прыліпае ртом да яе, каб ня выдаць сябе, не разбудзіць старожкую цішыню плачам сваім, сваім ёнкам. А сьлёзы, сьлёзы — уся падушка аж солкая. Холадна аж.

З за раскрыўшагася пляча двое воч глядзяць — заспаныя, зьдзіўленыя.

— Ізноў?!

Цішыня. Толькі цікае будзільнік на стале, адбівае мерныя тахты, да чуць-чуць падзергваецца часам Вярунькіна плячо, худзенькае, белае і такое прыгожае, такое прывабнае — узяў бы і расцалаваў бы, пакрыў бы ласкамі пяшчотнымі. Ды дзе там... Вун толькі рукой дакрануўся, сьцялася Вярунька ў камочак, уцянула голаў пад коўдру. А тут будзільнік вось, звоніць ён, тарахціць.

— Эх, на службу пара, не спазьніцца ў кантору...

Заспаныя вочы ўстаюць, праводзяць рукой па падушцы? —

— І ўчора, і сёньня, і кожнае раніцы так...

— Ї чаго-б гэта ўсё і адкуль пачалося? Ну, чаго не хапіе ёй? Работніцай была вун, мазоліла рукі, галадавала з маткай калісьці... Здаецца... Эх, разьбярыся тут, што к чаму, ды куды... Яшчэ каб не любіў... А то... зразумей-ка тут...

Аркадзь Ермалаевіч, усунуўшы ногі ў стоптаныя чувякі, пашлёпаў да ўмывальніка і доўга, марудна пырскаўся і пялёскаўся там вадой, харкаўся, прамываў горла. Ї тады гідка булькатала вада і Вярунька закрывала коўдраю вушы, каб ня чуць, каб ня бачыць. Потым Аркадзь Ермалаевіч доўга сядзіць перад люстрай, прычэсвае жыдзенькія, бялёсаватыя валасы, старанна распраўляе іх, каб прыкрыць пачынаючуся лысіну. З пятак яна—але непрыемна неяк. Затым чарга гальштуку. Гальштук не паддаецца тоўстым пухлым пальцам, ніяк яго не завяжаш.

— Ня тое ў Вярунькі. Ня пальцы ў яе, пальчыкі—уміг завяжа. Але-ж ёй не да таго...

Аркадзь Ермалаевіч апранаецца, бярэ зашмальцаваны свой партфэль, топчыцца на мейсцы і ўрэшце нерашуча суне да дзьверы.

— Эх-ма... Ї сягоньні бяз чаю прыходзіцца ісьці. Нічога не папішаш.

Ї тады, як праскрыпяць дзьверы і ляпне выхадная дзьвер у калідоры—тады становіцца неяк лягчэй на душы ў Вярунькі. Хуценька ўстае, адчыніць квортку. Сьняжынка, другая заляціць у вакно, падзе капляй халоднаю, сьвежай на гарачую шчаку—прыемна. Ї трошачкі бадзёрай. На шырокім двары пачынаецца дзённы рух: коляць дровы, падмятаюць ля ганак, падмятаюць сьцежкі да хлявоў, да калодзежу, які скрыпіць заржаўленым калясом, нібы піць просіць. Падмеценыя сьцежкі чорнымі істужкамі выступаюць сярод белага сьнегу. Чарнеюць у паветры суччa ліпы. Толькі зьверху аблажыла іх сьнегам, як ватай. На карнізе вакна вераб'і сядзяць—нахохліліся—куды і вёрткасьць падзелася і забіяцкасьць тая птушыная, вераб'іная.

З дзьвярэй суседзкай кватэры хлапечык выходзіць. За сьпіной торбачка з кніжкамі, і гэтыя кніжкі прыдаюць надзвычайнай сур'ёзнасьці пузыру, які нешта жуе і, прыкрыўшы кулачком вочы, жмурыцца на сьнег. Ї ў хлапца гальштук і ўвесь хлапец—нібы сьнігір той вясёлы, з чырвонай грудкай. Хлапец хаваецца ў калітцы, вун толькі ногі яго з пад варот мільганулі—і няма, пабег дзесьці па вуліцы. Ї ў думках чамусьці журавушка ўзьнікае, нібы прылятае адкуль здалёку, авалодвае думкамі... Ї мімаволі пяецца ціха:

Журавель, мой журавель,
Журавушка малады...
. . . . . . . . . . . . . .

— Але што-ж гэта я? Дзевятая гадзіна, а ў мяне ня прыбрана, не памыта. Да й полудзень гатаваць пара, пасьпець бы яшчэ на базар...

Часам мамка прыходзіць, якая тут жа на дварэ жыве, памагчы ў чым, у гаспадарцы параіць... Вось і цяпер. Распаліла вун печку. Бульбу шкрабе. І апусьціўшы нож на калена, пытае раптам:

— Ну як, дачушка?

— Што?

— Ну, з мужыком у цябе як?

— Нішто...—адказвае Вера і стараецца не глядзець матцы ў вочы.

— Ой, дзеванька,—кажа матка, акінуўшы пытлівым вокам і Веру і няпрыбраны ложак, і стол,—гляджу я на цябе ды маюся... Ну, чаму-ж ня жыць? Ну чаму вочы ў цябе чырвоныя? Мой хоць, царства яму нябеснае, піў жа часам, спрабаваў кулакі ў ход пускаць... Ну і даводзілася гараваць трохі... І то, што казаць—яшчэ жылі як, людзі—і тыя зайздросьцілі. Каб толькі не няшчасьце гэтае... А што худога сказаць аб тваім... Лепшы чалавек, па мойму... Піць каб—ні духу, у карты—нізваньня, і цябе яшчэ любіць як—ці мае ж вочы ня бачуць...

— Мамка...

— Што мамка. . Сама вінавата, мусіць з чалавекам ня можаш зжыцца, ня можаш абыйсьціся з ім па чалавецкі...

— Ай, мамачка, кінь ты пра гэта...

— Лёгка сказаць—кінь, а як гэта сэрцу майму. Свая-ж ты мне, родная, не чужая. Думала, супакой вось, радасьць сабе на старасьці год прыдбала, унучкі пойдуць...

— Мамачка...

— А тут на табе... І дзе мая галованька была, няшчасная мая доля,—і маці выцірае падалом спадніцы старыя выцьвілыя вочы, безнадзейна махае рукой, такой плоскай, пазьедзенай шчолакам гарачым і мылам, пакрытай зморшчакамі рукой.

— Ат, няхай ужо будзе, як будзе. А можа яно і абыйдзецца як. Вядома, молада-зелена, розум гарачы, ды яшчэ час такі, свавольны цяпер усе, занадта ўсе свавольны. І нашто ёй яшчэ ў камсамоле быць. Муж вун такі, сур'ёзны, самавіты... Пара б гэту дурасьць кінуць, ні к чаму... Муж дамоў, а гаспадыня з хаты, да яшчэ вечарамі гэтымі... Ня гожа так.

І толькі дзесьці, у самай глыбіні душы, крыецца жаласьць да дачкі, другія думкі ўзьнікаюць, думкі спачуваньня да яе долі, да яе загубленых рана гадоў.

... Красавацъ бы яшчэ... Дзіцёнак гарэтны сама яшчэ, з пялёнак, можна сказаць, толькі вылузнулася... Да й па праўдзе сказаць, не задужа тварам узяў Аркадзь Ермалаевіч. Званьне толькі, што бухгальтар той... Ну, на жыцьцё хапае, і даволі, можна сказаць, хапае... Але ж з сябе нявідны... Ці аб такіх жаніхах марыла калісьці для свае дзяўчынкі... Вось і падумай тут, раскінь галавою.

Але гэта толькі ў думках, у захаваных ад вока людзкога думках. Гаварыць жа аб іх нельга, тым больш дачцы—зачым патураць—жыцьцё ня жарты. І не арэх—узяў да раскусіў—трэба вялікі розум мець і... асьцярожнасьць.

І варушацца часам другія думкі:

— А вось, каб дзіцянятка. Божачка мой, то-та радасьць... І ляпей яно было-б тады, бо дзіця зьвяжа, і нялюбы любым стане, даражэйшым.

І ў час, калі супакойна ў хаце, калі лагодна і весела часам ідуць размовы між дачкою і маткай, старая здалёку пачынае наступаць на Вяруньку.

— Ну... Вось што, дачушка, калі-ж гэта нехрышчоніка дачакаемся (ого, цяпер акцябраць усюды, паспробуй ка, прымусь Вяруньку, калі будзе што).

— Ат, мамка, табе жартаваць хочацца...

— Верачка, у сур'ёз-жа я, далі—бог у сур'ёз,—і матка выразна паглядае на Верку.—Ну было што?

Вера чырванее, глыбокі румянец залівае аж вушы, патупляюцца вочы ў падлогу.

— Не...

— Чаму?

— Ну, не, да й годзі...

— Ня хоча можа? Мо'...

— А, мамачка, ну даволі, да кіньма аб гэтым глупстве казаць...

— Гэта ня глупства, дачушка. Але-ж яму відней. Рабіце сабе, як хочаце... Але-ж доўга так нельга. Вось старая я, чаго добрага і перакуліцца ня доўга... А хацелася-б яшчэ ўнучат пабачыць, пагушкаць...

У такі час Вярунька асабліва жалкуе матку. І сапраўды—старая ужо, колькі гора вынесла, колькі вузлоў гэтых брудных перацягала за свае доўгія годы, усё на другіх старалася, хрыбет гнула на іх, да крыві пасьцірала рукі, вадой паразмыла іх. І ў такія хвіліны Вяруньцы хочацца зрабіць што-небудзь прыемнае, прыемнае матцы, каб супакоіць яе, суцешыць яе, суцешыць і прылашчыць.

— Трэба будзе ўгаварыць як-небудзь яго, няхай да нас перабярэцца, годзі з бялізнай той важджацца...

І тут-жа закрадвалася сумненьне.

— Каб з кім другім, ці з ім згаворышся... Да і ці гаварыць з ім ахвота. Не, ня прыдзецца...

---

Аркадзь Ермалаевіч служыў у канторы завода. Пачаў калісьці з звычайнае канцалярскае пісаніны, а цяпер вось—бухгальтар. Незамянімы. Павага, аўторытэт ёсьць сярод сваіх служачых. Сярод рабочых—казаць ня прыходзіцца. Асаблівае прыхільнасьці няма, але-ж шапку ламаюць, асабліва з старэйшых. Як-жа: начальства ўсё-ж, да й да грошай дачыненьне чалавек мае, калі што і дапаможа часам. Хоць у невялікім, да ўсё-ж справа. Таму мей і павагу да чалавека, пашану аказвай яму. А Аркадзь Ермалаевіч акуратна служыў, акуратна прыходзіў у контору, і акуратна здуўшы пыл з казённае табурэткі, асьцярожна, спакваля садзіўся, адмыкаў свае шуфлядкі ў стале, даставаў і разгортваў аграмадныя кнігі, дзе сярод безьлічу розных граф, тоўстых і танюсенькіх, стройнымі шэрагамі разьмяшчаліся бязьлічныя лічбы і лічбы. Многа іх і чужому воку не разабрацца ў іх, мёртвыя яны, нярухомыя. Аркадзь жа Ермалаевіч у кожнай лічбінцы бачажыцьцё: тут і радасьць і сьлёзы, і пакуты, і гора—усяго пакрысе знойдзеш, чаго толькі захочаш. Кожная лічбінка жыве сваім жыцьцём. Зірнеш на яе і цэлыя шэрагі зьяў, людзей становяцца поплеч з ёю, усьміхаюцца, хмурацца, маўчаць часам, часам крычаць, хвалююцца. І ўсе гэтыя зьявы, нязьлічоныя падзеі людзкія разьмясьціліся вось на двух старонках: дэбет і крэдыт. Па за імі што—ня цікава.

І як супакойна было раней, калі Аркадзь Ермалаевіч нічога ня ведаў, акрамя гэтых дэбету і крэдыту. Кожны год акуратна езьдзіў на курорт, акуратна слухаўся дактароў, церпяліва піў розныя воды—лячыўся, асьцярожна выбіраў знаёмых. Ужо год, як ад сэрца пачаў лячыцца. Вун ёд прапісалі і сказалі яшчэ: не хвалявацца. І гэта стала лёзунгам у жыцьці, асноўным правілам, распарадкам.

Роўна а трэцяй гадзіне Аркадзь Ермалаевіч шоў да хаты, еў свой нямудры абед, лажыўся спаць на гадзіну, пасьля чытаў „Аганёк“ (яшчэ за старымі парадкамі выпісваў), а вечарам ці шоў у кантору, ці дома падганяў балянсы. Калі ні калі—у кіно.

Так бы і пражыў весь век—між балянсамі, ёдам і канторай, між дэбетам і крэдытам. І як яно вышла—Аркадзь Ермалаевіч і ня памятае добра. Ні то дырэктар вун намякнуў:

— І чаго-б гэта вам... ні ажаніцца часам. Пара-б, дара-

жэнькі... А то-ж сорам так, чалавек вы, можна сказаць... а куту свайго ня маеце...

Ні то іншае што, мо' тыя вось думкі, што часам уклінyяліся між шэрагаў лічб і ніяк не зьнікалі... аб будучыні, аб старасьці...

Хутчэй—надавуміў дырэктар. У трыццаць сем год цяжка на справы такія рашацца...

Ї вось рашыўся. Галоўнае, дырэктар надавуміў, дырэктарскае пажаданьне, а гэта табе не абы што, з ім трэба лічыцца. А можа і яшчэ чаго трохі было... А можа... Вось паклаўшы руку на сэрца і запытаўшы сябе: „Ці любіш?“, ня зманіш-жа, шчырую праўду скажаш: „Люблю... Люблю і шаную, усім дагадзіць хачу“...

Вун і раней, яшчэ год назад, колькі раз заглядаўся на гэту дзяўчыну, калі бялізну прыносіла, ці з вёдрамі па двары бегла, ці раніцай шла на завод.

— Так, люблю... Галоўнае толькі—не хвалявацца...

Але-ж паспробуй тут... Вун і заўчора і пазаўчора, і сягоньні... Бяз чаю... і мокрая падушка.. Ї гэтыя трапяткія, пагардлівыя рухі... Ухіляецца ад яго?—Чым я не чалавек? Ці не дагадзіў чым? Здаецца, усім... Адна спаднічка была вун, чаравікі і тыя стаптаныя, з бялізны тае – абы перамяніцца можна. А цяпер? Аб усім паклапаціўся, сумачку і тую вун купіў, з кніжкі ўзяў крыху, запасы, фонды свае крыху парушыў?... Прызнацца, і добра спачатку было. Увесь пакоік другім стаў—цяплынь, прытульнасьць, і на стале талерачкі чыстыя замест судніка таго цэрабкопскага, пахучы боршч замест той вермішэлі...

Ї на табе, вось... Разьбярыся тут. . З доктарам знаёмым раіўся, чаго да ад чаго, да памагчы чым. Ї той, падумаўшы з хвіліну і гледзячы пад сьцятыя на пераносьсі пальцы, парады даваў:

— Звычайнае гэта, не зьвяртайце ўвагі.. Сямнаццаць, кажаце... Ну, вось... Як і заўсёды тут—рэакцыя там, ну, разумееце, пэсымізм частковы, і ўсё такое іншае... Ї ня думайце нават: пройдзе ўсё, як рукой здыме. Абжывецца, прызвычаіцца і ўсё стане, як сьлед. Маладое—яно заўсёды як крэмянь той, з яго іскры сячы, а пасьля—адшліфуецца, памякчэе... Нічога сур'ёзнага... Ну, і вы там, паболей ласкі, не раздражняйце, не хвалюйце...

Ї сам Аркадзь Ермалаевіч, нібы ў апраўданьне нейкае, нібы ў уцеху сабе тут жа падумаў:

— Так... галоўнае – не хваляваццa.

Але-ж вось каторы ўжо дзень. Не мякчэе крэмянь. Як жа тут не хваляваццa.

І Аркадзь Ермалаевіч адчувае сябе нібы выбітым з прызвычаенай наежджанай калявіны, і таму неяк нязручна, ніякавата, не па сабе. І з па за лічб, з за гэтых улюбёных граф, акуратных, каліграфічных надпісаў праглядвае часам сумны тварык з русымі кудзеркамі, з гэтымі сінімі вачмі, у якіх застыглі ні то папрок, ні то безнадзейная пакорлівасьць... І яшчэ вось плечы гэтыя — войстрыя, уздрыгваючыя...

Задумаўся. Не заўважыў, як і кляксу паставіў вун на чыстай старонцы—ніколі гэтага не было раней. Доўга і старанна счышчаў яе ножычкам, паліруючы ногцем падчышчанае мейсца, уздыхнуў крыху і, зірнуўшы на гадзіньнік, стаў згортваць і хаваць у стол кнігі.

— Хоць без пяці хвілін яшчэ, але-ж трэба пайці. Не забыцца ў аптэку. Ёд вышаў...

—·—

Калі Вярунька вышла замуж за Аркадзя Ермалаевіча — а гэта вышла так раптоўна, так нечакана — Ігнатка хадзіў сам ня свой. Сорамна таварышом глядзець у вочы. Нібыта вось ногі падбіты, не знаходзіш месца сабе, ня ведаеш, дзе прытуліцца і ўсё перад табою — цемень.

— Каб то знацьцё да веданьне, ну, ці маўчаў бы да гэтага часу... Усё думаў — ня к сьпеху справа. І як яно гэта вышла, не дабяру розуму... І гулялі-ж вось часам, і ў ячэйцы ўжо з паўгода як жартавалі хлопцы і дзяўчаты, на вечарыну напрашаліся, дапытваліся, калі ў загс... Нават больш правідкія загаварвалі аб конкурсе на імя — у выпадку там чаго-небудзь... У Лізкі і прапанова нават была:

— Ляпей і прыгажэй Рэвы нічога й ня выдумаеце, таму ад самай што ні ёсьць рэвалюцыі... А калі часам хлопчык, ну...

— Што ну. Трактарам назавём, Трактар Ігнатавіч і ніякіх табе там. Індустрыялізацыя тут, прамысловасьць і сельская гаспадарка, усё, што належыць. І рэвалюцыя твая не пастрадае... — дадае сэкратар.

На сьмех Ігнат адказваў сьмехам, жартаваў, як усе і толькі тады, калі надакучалі занадта, адмахваўся рукой:

— Даволі, хлопцы, бузу церці, каціцеся вы з сваім трактарам падалей.

— Ну, чаго там...

— Да вось і чаго, каціцеся і годзе...

А ўсё-ж-такі было прыемна ўсё гэта чуць, думаць аб Вяруньцы часам, будаваць нейкія пляны. Нават столік вун за дванаццаць рублёў купіў, няёмка без яго, нікуды і кніжкі алажыць, пад'ёсьці не на чым. І галоўнае, думкі аб Вя-

руньцы—не пашкодзіць раней што-небудзь прыдбаць, а то засьмяюць часам—на калене хлеб рэжа—скажуць.

Нават падумаў раз, а ці ня варта падаруначак які-небудзь, хоць невялічкі, зрабіць Вяруньцы. Тады-ж раздумаў.

— Ці мы мяшчане якія, ці што, каб глупствамі займацца. Люблю і годзі. А пасьля ўсё можна.

І вышла ўсё ў неспадзеўкі.

— Прамаргаў дзяўчыну. Эх ты!—кінуў сэкратар мімаходам.

І дабавіў яшчэ:

— Гэта-б яшчэ не бяда, а вось з за цябе, з за твае дурасьці і ячэйка згубіла дзяўчыну—абабіцца, вядома, у пялёнкі уныпіцца. Памінай цяпер актыў наш жаночы чым звалі. І не ў пялёнках справа, а галоўнае—ку-у-ды папала...

— А ты дзе быў, дзе былі твае вочы сэкратарскія,—агрызнуўся Ігнатка, выхаваў вось калашне той стракатай на радасьць.

Калашня—Аркадзь Ермалаевіч.

Але-ж у першыя дні Вярунька яшчэ не „абабілася“, вун і на сход і на нагрузку сваю не забылася—у рэдкалегіі. Праўда, на работу ўжо не прыходзіла. І хлопцы і дзяўчаты кінулі казаць аб здарыўшымся—ці мала клопату ёсьць, да працы.

І толькі Ігнатка, калі шлі разам са сходу (на другім квартале жыве ад Вяруньki) і гаварылі аб усякай дробязі, запытаў раптам:

— Ну, як жа... вышла...

— Вышла...—ціха прамовіла Вера і замаўчала. І абодвым стала неяк нязручна, нібы цяжар які давіў на плечы, ці нешта ліпкае, вязкае зьвязала язык, не дае яму зварухнуцца. Хацеў бы слова сказаць—і ня можаш—кожнае слова ў пуд. І крыўда пякучая, як агонь, вострым болем прашлася па сэрцу, прымусіўшы яго балюча ўздрыгнуць, сьцяцца ў камочак і сударгава забіцца. Аж у вісках забалела.

— То-ж... Любіў... Думаў... Ну, не сказаў можа... Дык яна-ж не цяльпух той—разумець бы павінна... І цяпер чорту лысаму...

І раптам загаварыў. Глядзеў у яе вочы, прыпыніўшыся на рагу вуліцы, і злосна—кожнае слова калючка—гаварыў задыхаючыся.

— Эх ты... так... Што ж ты зрабіла?.. Паскудніца ты... На што пагалілася?... Камсамолка яшчэ... Прадажная ты... У-у...—і не знаходзячы болей слоў патрэбных, Ігнатка пашоў у другі бок, пашоў хутка, сьпяшаючыся.

А Верка стаяла яшчэ хвілін колькі. І хоць бы думка, хоць бы слова якое... Туман у галаве... Нехта прашоў вун

па таму боку вуліцы, спыніўся, глядзіць... І Вера, сьпяшаючыся, спатыкаючыся аб цэглу тратувараў, пабегла да свайго двара. І ўсьлед бегла думка:

— За што... за што...

І доўга праплакала ў гэтую ноч Вярунька. Варочаўся з боку на бок Аркадзь Ермалаевіч, прыслухаўся, пацінаў плячмі, запальваў лямпу. Вера прытваралася сьпячай. Аркадзь Ермалаевіч стараўся заснуць, адагнаць ад сябе ўсе клопаты, хваляваньні свае. „Не хвалявацца, галоўнае"... І не памагала: ніяк ня мог выпаўніць гэта правіла і бачыў, што яно нікчэмна тут, некарысна.

— З чаго-б гэта ўсё,—плавала нявыразная думка ў сонным, затуманеным мазгу Аркадзя Ермалаевіча

—.—

— Чалавек акуратны—будзе ў яго і бялізна акуратная,—часта думала маці Вяруньні, нахіліўшыся над начоўкамі і распырскваючы стомленымі рукамі хлапкі белае, часам бруднае мыльнае пены. Часам спынялася, стаяла нярухома, упершыся рукой у крыж (ные вось, асабліва пад нягоду), змахвала рукой мыльныя пырскі з твару і зноў прымалася за начоўкі.

— Так акуратная... Скажам—у Аркадзя Ермалаевіча, колькі год мыю—за старым парадкам яшчэ мыла. Яшчэ манаполька вун на вуглу стаяла... Поплеч з манапольскай акалодачны жыў—і яго сям'і мыла... Цяпер самі ўжо мыюць. Да й ня грэх, пакрасавалі, чаго там, ня ўсё-ж на чужыя рукі. Але аб чым гэта я? Аб акуратнасьці вось... Ці не праз гэту акуратнасьць і дачка мая замуж пашла і нішто пашла... А што ня любіць, ня міл мо'—глу-у-пства. Ці беднаму чалавеку да любоў, абы хлеба кавалак... Абы кут свой .. Яно і добра тады.

І ўспамінае старая, як сватаўся да дачкі Аркадзь Ермалаевіч. Вось прынесла раз бялізну яна. На стале злажыла, прысела крышачку на табурэцік перадыхнуць, адпачыць дужа ганак высокі ў кватэры. Аркадзь Ермалаевіч прысеў на канапцы сваёй—ляжаў перад тым.

— Ну, што, Мікітаўна, жывём як?

— Нішто, даруй божа. Жывём, хлеб жуём, чаго трэба болей...

— Та-а-ак... Дык нішто—кажаш?

— Чаму не—абы дух быў у цэле—чалавек не загіне.

Аркадзь Ермалаевіч пытаў яшчэ аб надвор'і, аб цэнах на дровы, на вугаль (іш, гаварок знашоўся—раней дык моўчкі ўсё—заплоціць грошы і пазірае скоса, калі ты ўжо выйдзеш, мо' мяне ў супакоі пакінеш—негаворкі чалавек быў). Невя-

дома к чаму аб мужу запытаў: калі, да што, да як. Аж нуды было нагнаў, хацелася ўжо падняцца да й пайсьці да свае кануры. А потым і сказані:

— Дачка ў вас, Мікітаўна?

— Так, дачка, а што?—А сама зацікавалася—вось насланьнё, к чаму б гэта, у бяседу ўкінуўся.

— Прыгожая дачка ваша,— і Мікітаўне нібыта здалося нават, што ўздыхнуў тут Аркадзь Ермалаевіч.

— Людзі ня хаюць, а бог не пакрыўдзіў—не калека, ня лодыр, дачушка, як нада. А выбачайце мяне, старую, к чаму гэта вы, Ермалаевіч?

— Так... Да ну... Гм... бачыце, к слову прышлося...

І нечакана:

— А ці аддалі б вы Верку за мяне замуж?

— За ва-а-с?

— За мяне...

Спачатку Мікітаўна ня ведала, што і адказаць. Ці ўсур'ёз, ці жартуе—хто яго разьбярэ: чужая душа—пацёмкі. І толькі сабраўшыся з думкамі, адказала:

— Добраму чалавеку я заўсёды рада. Але ж, выбачайце мяне, старую,—зачым вам жарты гэтыя, са мной, са старой?

— А не, што вы кажаце, я без усякіх жартаў. Вось давайце пагаворым, як сьлед.

І Аркадзь Ермалаевіч тут разышоўся: і нудна яму аднаму, і пасада ў яго нямалая, а што знача ўсё гэта, калі ты несямейны, скажам. Нежанатаму чалавеку і павагі тае няма, і пры скарочаньні, скажам, штату у большасьці халасты ўлліпне. Да й аб дзецях трэба падумаць. Праўда, не стары яшчэ (што знача трыццаць сем год?), але ж час ужо, годзі, пара і сям'ёй абзавесьціся, бо нельга ж вечна неба капціць. Прапусьціш—не дагоніш.

Аж цэлую гадзіну мірна гутарылі Мікітаўна з Аркадзем Ермалаевічам і вышла яна вясёлая і бадзёрая і ад гэтай радасьці новай нават сьлязу змахнула рогам стракатай хусткі.

— Як жа, зяць бухгальтар. Вось табе й прачка Ого! Што-та людзі толькі скажуць?

Доўгімі вечарамі ўламвала матка Вяруньку. Пускала ў ход усе сілы свайго красамоўства, старалася ўзьдзейнічаць на лепшыя пачуцьці дачкі, расчуліць яе, разжалобіць.

— Ты вось аб матцы і думаць ня хочаш. А хто ж цябе выпеставаў, хто ночы не дасыпаў, праглядаў свае вочы, каб ты вось вырасла, закрасавала. Усё аб табе клапацілася, аб долі тваёй. І стараюся вось, каб к лепшаму яно... Да й бухгальтар ён... Гэта табе не абы хто, не твае вун тыя, замухрыжаныя, калені палапленыя—камсамольцы там, скажам, ці

хто. Бухгальтар. Восемдзесят рублёў чыстых грошай у месяц—і ня сьнілася табе... Ды й ці ты-ж, дачушка, мяне не паслухаеш, ці-ж табе глядзець прыемна, як я гора сваё гарую гараванскае...

Мікітаўна нават плакаць спрабавала. З кожным днём мякчэла Вярунька, старалася не супярэчыць матцы. Колькі раз сам заходзіў. Праўда, клопаты. Чаі там да самавары, да й чай жа голы ня станеш піць. Але што ж паробіш, трэба вывесьці дачку ў людзі. Аркадзь Ермалаевіч і падарункаў вун некалькі зрабіў. Скрынку цукерак, на спаднічку, нават пярсьцёнак хацеў купіць, але Вярунька ад пярсьцёнку наадрэз адмовілася:

— Самі будзеце насіць, калі што. А мне ня трэба.

Разы са тры ў кіно схадзілі. Так вось яно ўсё палёганьку да памаленечку і вышла паматчынаму. І калі ў нядзелю, прыбраўшы Вяруньку ў новую сукенку, новыя чаравікі, пасадзіла Мікітаўна яе і Аркадзя Ермалаевіча ў фаэтон (паехалі ў загс запісацца), яна адчувала сябе вельмі шчасьлівай і ад шчасьця ўсплакнула. І шкода было трох і Вярунькі: вось не з кім і слова будзе сказаць у хаце, і пусты ложак застанецца і усё-ж дачушка родная, у чужыя людзі вось. Успомніла і свае былыя годы. Калі-б гэта Вяруньку цяпер прыбраць ды па стараму,—красуняй была-б. Фату-б, скажам, а там цьвяты тыя, сьвечачкі, карону-б тую царскую ў царкве... Княгі-і-ня... І аб мужу ўспомніла. Характар меў чалавек, цяжкі характар... А ўсё-ж нішто жылі, дай божа кожнаму, хоць бы і дачцэ... і толькі сумнявалася крыху Мікітаўна ў адным: ці палюбіць, ці зжывецца Вярунька з мужам? І тут жа ўцеху знаходзіла.

— А ці яна першая?.. І я, к слову сказаць, нават і ня ведала мужа раней, пакуль не пасватаўся вун. Абжывуцца, сьцерпяцца, а там глядзі і зьлюбяцца. Да што казаць, ня варта заглядаць далёка...

---

Вярунька нэрвова жартавала з дзяўчатамі, сьмяялася, але сьмех быў ненатуральны, у ім адчувалася хваляваньне, нейкая нявыразная трывога. Гэта было відна па ўсім: па яе залішне чырвонаму твару, па залішнему блеску воч і па той задуме, якая раптоўна на хвіліну другую авалодвала Вярунькай і праз якую Вярунька адказвала часам неўпапад. Шоў звычайны камсамольскі сход з дакладамі, з справаздачамі асобных таварышоў і з нязьбежнымі „бягучымі пытаньнямі“, якія на першы погляд здаюцца дробязямі, але якія ахапляюць усё жыцьцё заводу, усё жыцьцё ячэйкі, моладзі, якія зьяўляюцца штодзённымі клопатамі, задачамі і імкненьнямі

працоўнага люду заводу. Даклад быў аб піонэрскай працы ў ячэйцы. Маладзенькая камсамолка—піонэрпрацаўніца—толькі нядаўна, разам з Вярунькай, вышаўшая з піонэраў—скардзілася на пераросткаў, прасіла ячэйку вырашыць пытаньне з імі. Не даюць працаваць, псуюць другіх хлапчанят, ня слухаюцца, бязуляць. З за іх колькі піонэраў павыходзіла, тае атрад і нічым не пасобіш. А тут яшчэ заўком ніяк пакою не прадаставіць пад куток піонэрскі—дзе-ж справу разгорнеш. Да й ячэйка добрая—павыдзялялі хлапцоў вун, з піонэраў быўшых, а яны і ня ходзяць... Папаў у камсамол, дык і ручкі ў бручкі, папяросу ў зубы—ты да мяне не падыходзь: я та, я та парце-ейны, ты мяне й ня трывож...

Хлопцы спрачаліся. Выступаў Ігнатка, які сядзеў у прэзыдыуме і ўпотайкі, з пад ілба, пазіраў часам у куток, дзе сядзела Вярунька. Ігнатка, як быўшы піонэрпрацаўнік, доўга гаварыў аб мінулай працы ў атрадзе, гаварыў, як паставіць вучобу ляпей.

— Галоўнае, распусьцілі вы іх там. Дысцыпліны ў вас няма аніякае. Таму і ня слухаюцца...

За ім выступаў стары рабочы, прадстаўнік ад партыйнай ячэйкі.

— Ігнат ня правы. Ня ў дысцыпліне ўсё галоўнае. З дысцыплінаю далёка ня ўедзеш. У нечым другім тут справа, а ў чым—трэба ўсім падумаць тут. Вось у мяне хлапец, у хаце ня ўседзіць, ўвесь дзень на вуліцы. А запытай, чаму ў атрад ня йдзе—насупіцца:

— А чаго-ж мне хадзіць туды, чаго я ня бачыў там, няцікава...

— Барабанам адным дзіцянят не зацягнеш, трэба разумна, па новаму паставіць усю справу з імі, каб яны, дзеці, адчувалі сябе там іменна дзецьмі і мелі там усё, што і патрэбна дзецям. А як зрабіць гэта—вось і падумаем...

Вярунька слухае даклад, слухае спрэчкі і ўсе гэтыя словы аб піонэрах атулялі яе пеляной нявыразнага салодкага смутку, перамешанага з абрыўкамі нейкае радасьці, сьветлых надзей, чаканьняў. Здаецца, вось акунаешся ў нейкае дзіўнае злучэньне розных колераў: чырвань, зелянь, жоўценькія праменьні, сінія іскры. Усё гэта перамешваецца, пераліваецца, зелянь цяплынь разьлівае, белыя зайчыкі скачуць, і расьцьвітаюць цьвяты ружовыя. А над усім журавель-журавушка... І цяплынь кругом... і радасьць... і сонца... і жоўтыя вёслы на хвалях... і ласкі матчыны... І ў суседнім садзе былі такія вішні, сьпелыя вішні чырвоныя—люстэркі сонечныя і малінавы сок.

— ...Харашо ў піонэрах...

...І ёд...

Сонца гасьне і нікнуць чароўныя фарбы. І на сэрцы шэрань.

— ...Што-ж, прымацаваць і Верку да іх, балазе ёй часу цяпер даволі.

— Каму, як ня ёй гэта праца,—чуліся навакол галасы.

З піонэрамі пакончылі. Чарговае пытаньне—індывідуальны даклад Вярунькі. Усе насцярожыліся—як жа, першы даклад пасьля замуства—цікава паслухаць. Зашорхалі стульлямі, каб бліжэй прымасьціцца, не прапусьціць слова, другога. Толькі Ігнатка ўныпіў вочы ў павестку, сядзіць, не зварухнецца, водзіць карандашом па паперы, моцна прыціскаючы руку да стала, каб ня выдаць сябе, не паказаць, што вось дрыжыць нешта рука, хвалюецца сэрца...

Вярунька расказвае аб сваіх абавязках, аб сваёй працы па нагрузках. Расказвае не сьпяшаючыся, стараючыся не хвалявацца залішне, ня зьбіцца з парадку. Даюць пытаньні. Адказвае. Нехта задае пытаньне аб мужу, але сэкратар сярдзіта абрывае:

— Гэта цябе ня тычыцца?

— Як гэта ня тычыцца?

— А вось так... Сядзі і ня рыпайся,—і сэкратар, кінуўшы неўзаметку позірк на Ігната (як той трымаецца), пытае Верку:

— А вось скажы ты нам, чаго ты ня была на мінулым сходзе ячэйкі?

— І ўпраўды, чаго-ж гэта я ня была мінулы раз,—думае Верка, наморшчыўшы лоб і стараецца ўспомніць прычыну. І ня прычыну—ці варта казаць аб ёй. Ці варта казаць аб тым, што ўвесь дзень прасядзела ў нянавісным пакойчыку, што балела галава. І не ад болю, а ад неадчэпных, цяжкіх, як сьвінец, думак. Думак, ці варта жыць, калі ўсё перад табою—цемень; ці варта жыць, калі кожны дзень праходзіць у шэрым тумане; ці варта жыць, калі пахне ёдам, калі нікнуць і гаснуць фарбы ў душы, калі з сэрца выпіты нянавіснымі вуснамі надзеі і цяплынь жыцьця, калі навакол так холадна, так шэра і пуста-пуста... і ўперадзі нічога няма, нічагусенькі... Толькі холадна стукаюць па вечарох касьцяшкі шчатоў... Да словы гэтыя прыкрыя, аб здароўі, „не хадзі, Вярунька, на двор так, бо застудзішся", і ласкі, у-у, сьлімак... Ці варта казаць? Засьмяюць, не зразумеюць...

А з цёмнага кутку нехта кідае словы, гаворыць і сьмяецца.

— Чаго пытаеш? Ці ты не разумееш... З маладым мужаньком сваім праклажалася, мілавалася з сваім ненаглядным.

І прыкрая цішыня павісла ў пакоі. Толькі нехта ў кутку хіхікнуў яшчэ, да й змоўк. А за сталом, прыўскочыў Ігнат,

чырвоны і страшкі. Цяжкі ўдар кулаком па сталу сатрос паветра, і ўсе палахліва азірнуліся назад, туды, у куток.

— Эх ты, дубіна!.. Пень неразумны. .

Ігнатка сышоў уніз і падышоў да Веркі, якая стаяла ля вакна, сударгава падзёргвала плячмі ў немым плачы. Яна нахілілася на падаконьнік і, закрыўшы вочы рукамі, сьцялася ў жалкі камочак, прыліпшы да цёмнае ашарпанае сьцяны.

— Ну кінь... Ну, годзе... Вера... Вярунька... Ці хто цябе крыўдзіць хацеў... Да й ці варта зважаць на глупствы?.. Ну, міленькая...

Перашэптваліся дзяўчаты, сэкратар наводзіў парадак і мыліў Пятруку шыю:

— І ня хлопец з цябе, а калода тая дубовая... А між іншым, кажучы між намі, сьвіньня ты ў обшчым і цэлым і больш нічога... Наступнае пытаньне аб экскурсіі.

Са сходу шлі моўчкі. І ўжо не даходзячы трохі да хаты, Ігнат узяў нерашуча Верку зз руку і, ня гледзячы ў вочы ёй і падумаўшы нешта крыху, загаварыў. Гаварыў ціха, з раздумаю.

— Ты, Вера... Вось што... Усё-ж-ткі, даруй мне... Сама ведаеш... Ну, я нагаварыў табе калісьці. Памятаеш... Залішняга многа. Я думаю, разумееш ты, з чаго гэта тады сталася... Ня крыўдзіць думаў, сам быў пакрыўджаны... Яшчэ калі-б табе добра было, ну, тады-б яшчэ і сюды і туды... А то-ж... ведаю, як жывеш, ведаю, чаму і пашла за яго...

Вярунька ўслухалася ў кожнае слова, і гэтыя словы спавівалі сэрца нечым мяккім і цёплым. І радасным. І сьветлым. І так прыемна было адчуваць яго голас, чуць яго блізасьць, відзець радам яго постаць, гэтую мілую, трохі сутулую постаць, прыхіляцца да яго цьвёрдага пляча.

— Я на цябе ня крыўджуся... І ня думала нават...

„Эх, каб з ім гэта жыць“—мільганула сьветлая думка. І разам зьнікла. „Ці-ж гэта магчыма... пасьля ўсяго гэтага“...

— Вярунька!

— Ну, што?

— Ведаеш, Вярунечка, я вось часта думаю аб табе... Ну ты-ж яго ня любіш?

— Ня люблю... Ня люблю я яго, Ігнатачка, даражэнькі, каб ты ведаў толькі, як я ня люблю. Думала, матцы ляпей вось будзе, дзеля яе і пашла. А цяпер... Ці думаеш, матцы ляпей? Як сьцірала, так і сьцірае... А мне што? Моцы няма трываць далей... Каб ты ведаў толькі, Ігнатка, каб ты ведаў толькі, мой даражэнькі, як цяжка жыць мне, увесь сьвет нямілы...

— Ну, дык ці сьвет клінам зышоўся? А я на што?

— Ты?

— Так... Я... Ведаеш што, Вярунька, .даволі ў жмуркі гуляць і марнаваць сабе жыцьцё. Я-ж люблю цябе... даўно люблю .. А ці ты мяне ня любіш?

— Ігнатачка... Міленькі... Даражэнькі! Што ты кажаш?! Каб толькі ты ведаў, як я цяпер шчасьліва, шчасьліва і шчасьліва... Любы мой...

І першы пацалунак, першы запраўдны пацалунак запраўднай любві парушыў цішыню пад старымі ліпамі, што шчыльнай сьцяной абступілі вуліцу з абодвых бакоў.

Не хацелася дамоў.

Хадзілі па доўгіх вуліцах, марылі аб бліжэйшым будучым, будавалі пляны жыцьця.

— А ўсё-ж-такі я пайду на завод, бо бяз працы будзе сумна.

— А гэта ўжо як захочаш... А сягоньня, Вярунька, ты ўжо ідзі да маткі, да ў яе й заначуеш, чаго ісьці туды...

— Не, мой любы, туды ўжо ніколі, ніколі... Ці з сьлімаком ахвота жыць, у яго-ж думкі толькі аб ёдзе... Даволі, нагаравалася...

—.—

— А ну, стань на дыбачкі, ну стань жа, стань... Эх ты, мая румзачка, ну чаго-ж ты, чаго... Хутка татка будзе і мамка прыдзе...

Малы плача ў калысцы, але пачуўшы пра мамку, сьціхае і нібы нацэліўшыся трапляе кулачком Мікітаўне ў нос і балюча цярэбіць яго сваімі войстрымі кіпцюркамі. У старой аж сьлёзы на вочы просяцца, да таго балюча... І сьмех бярэ.

— Шчыпунчык ты мой... І-іх, сурёзны які, чуць што—за нос ці за вуха... Ну й хлапец, няйначай камандзерам будзе, сур'ё-ёзны, сур'ёзны...

Мікітаўна гушкае „камандзера“, пазірае ў вакно (пара-б ужо, гудок быў, мо' сход які, як часам бывае), а думкі сьветлаю чарадою ідуць і ідуць, поўніцца імі душа аж да самых краёў. Добра, калі шчасьце табой апануе... хоць і на старасьці год, але ўсёроўна, шчасьце заўсёды бывае шчасьцем...

— Ня думала й не гадала... А што-б было, калі-б з тым... Падумаць страшка... Ды добра, што так усё здарылася...

І Мікітаўна з яшчэ большаю ласкаю пестуе малога, лашчыць яго, разгладжвае рэдзенькія шоўкавыя валосікі, прышчоўквае языком, заглядаецца ў вочы.

— Маіх крывей... Як неба сінія вочы... Па Вярунцы вачмі пашоў. А нос бацькін—Ігнатаў нос—у дзеда Апанаса ўдаўся... Іх ты, сьнігір ты мой чырвонагрудзенькі...

— Ваюеш?—пытае з парогу Ігнат.

— А што і рабіць нам—старому і малому, увесь дзень і ваюем, вось нос аж распух...

— Ну, пацан, хадзі да мяне, годзі бабку крыўдзіць, хадзі вось газэту будзем чытаць.

Але малы адварачваецца і хаваецца за бабкінай шыяй.

— А ты-б вось хоць пагаліўся, аброс шчацінай, малога пугаеш, вось і на рукі ня йдзе да цябе.

— А ты яго сьпеставала, таму і ня йдзе...

— Яшчэ чаго выдумаеш? Іш, выдумлёнік... Сурочыш шчэ часам...

— Нічога, нічога, жыў будзе па бядзе такой.

А вось і Вярунька. Проста з парогу да хлапца. Носіцца з ім па хаце, цалуе, гушкае, потым садзіцца карміць, укладвае спаць. Ігнат чытае за сталом газэту і пасьмейваецца сабе, пазіраючы на Вяруньку.

— І не надакучыць табе важджацца з ім?

— У-у, ду-у-рань, яшчэ-б што сказаў?!

І ўжо справіўшыся з хлапцом, усе садзяцца за стол, і Мікітаўна цягне з печы нязьменны чыгунок з вячэрай.

А вечарамі Вярунька купае малога. Дапамагае старая, якая тупае навакол начовак, мацае ваду, старанна падкладвае пад галаў пялёнку (каб гуз не набіў), дае парады. Вярунька беражна плёскае вадой на ружовае цельца, на гэты сьмешны тварык, што вось-вось расплачыцца, моршчыцца ад вады, гэтак сьмешна-сьмешна сажмурвае вочы.

Вярунька плёскае вадой і ціха ўголас расьпявае сваю любімую песеньку:

Журавель мой, журавель,
Журавушка малады
. . . . . . . . . . . . . . .
Рукі мыць
І ногі мыць
сырой вады ня піць...

# Бібліаграфія.

**С. М. Некрашэвіч і М. Я. Байкоў. Расійска-беларускі слоўнік.** *Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва. Менск. 1928. У ліку (!) 7000 экз.*

Слоўнік трымае ў сабе ў альфабэтным парадку аж за 60,000 расійскіх слоў, што якраз водвай супроць таго, што трымае ў сабе «Практычны расійска-беларускі слоўнік» М Байкова і М. Гарэцкага. Слоўны матар'ял беларускае часткі слоўніка ня менш багаты. Адным хібіць слоўнік-мэтадалёгіяй. Сапраўдней, яе на старонках слоўніка зусім няма. Ат проста, сядзелі людзі (С. Некрашэвіч і М. Байкоў) над слоўнікам расійскае мовы і старэнна запісвалі па памяці супроць кожнага расійскага слова ўсе тыя беларускія, якія (як здалося ім пад гэты час) адпавядаюць расійскаму. А як такіх беларускіх слоў, якія б хоць бокам нагадвалі сабою сэнс расійскага слова шмат, то і вышла так, што супроць кожнага расійскага слова стаіць часам (больш як у палавіны слоў) пяць, шэсьць а то і за дзясятак беларускіх слоў.

А вынік ад усяго гэтага такі, што ў слоўніку беларускіх слоў багата, а якое ж беларускае слова якому расійскаму адпавядае па сэнсу, дык з гэтым справа дрэнная. Гэта кожны карыстальнік слоўнікам сам павінен будзе давясьці. Каб ілюстраваць ужытую ўкладчыкамі мэтадалёгію складаньня слоўніка, падамо прыклад, наперад зазначыўшы, што з такіх прыкладаў складаецца па меншай меры за палавіну слоўніка:

*Грусть* — журба (пс.-л. т.), смутак, маркота, туга.

*Кручина*—туга, сум, смутак.

*Печаль* — смутак (пс -л. т), сум, маркота, жаль, нуда, туга, тужба; *печаль глубокая* — засмучэньне.

*Скорбь*—туг[а]*), с[у]м, см[у]-так, засмуч[э]ньне, жаль, жур[ба].

*Скука* — нуда, маркота; *одолела скука* — нуда напала.

*Тоска* — нуда, нудота, туга, маркота, журба, смутак, сум; *наводить тоску* — н[у]дзіць (!).

*Горесть* — гаротнасьць, гарэча, жаль (м. р.), туга, смутак.

Ну хто там, у каго сем пя-

*) Дужкі азначаюць, што на літару, зьмешчаную ў іх, падае націск.

дзяў у ілбе? Угадай ну хоць бы вось што: якому расійскаму слову адпавядае беларускае—нуда, туга, смутак, засмучэньне.. Намі тут узяты для прыкладу назнарок такія беларускія словы, якія ў мове даволі такі дыфэрэнцаваны. А што робіць слоўнік з тымі словамі, якія да гэтага часу яшчэ ня зусім пасьпелі зрабіць гэтага. Так і блудзяць яны з старонкі на старонку, як бадзякі ці пахатнікі адвечныя. Прыкладам — лухта, брыдота, дрэнна, махлярства, вісус і інш. і інш. Надта цікава было-б, каб хто з мовазнаўцаў нашых заняўся падлікам такога бяспашпартнага бадзяньня беларускіх слоў па старонках слоўніка і агаласіў вынікі ў друку.

А вось і яшчэ «мэтода».

*Колченогий* - клышаногі, клыпаты, кулявы, кульгавы, клышун, кандыба.

*Косолапый*—клыпасты, клышаногі, клыпаногі

*Криволапый*—касалапы, клышаногі.

*Кривоногий*—крываногі, клышаваты, клышун, кандыба.

Гэта значыць: калі па расійску *криволапый*, то па беларуску касалапы, а калі па расійску *косолапый*, то па беларуску клыпасты. А крывалапы? Ды хіба па беларуску так можна! Кажаце, на вёсцы так гавораць. Мо' дзе і гавораць. Людзі і гавораць. Ну дык гэта напэўна «русызм». У слоўніку-ж у беларускім—ужо традыцыя такая—так трэба пісаць, каб і на пустабродныя анэкдоты матар'ялу хапала. А мы? Да што мы... Прызвычаіліся і кончана. І матар'ялу такога ў слоўніку занадта, вельмі ж занадта... Ня скажаш— хоць адбаўляй. Тады ж і слоўніка друкаваць ня трэ' было б. Ды яшчэ лікам на 7000 экзэмпляраў.

Але ж працягваем даваць прыклады. Каб хоць нагнаць жалю сумленным чытачом.

*Навылет*—наскрозь (стар. 67).

*Насквозь*—наскрозь, скрозь, навылет.

*Сквозь*—скрозь, праз, пераз, наскрозь.

Ну чым ня цуд!

І яшчэ з слоўніка:

*Контур*—абр[ы]с.

*Абрис*—н[а]рыс.

*Витязь*—рыцар.

*Верея*—шула (вярэйнае)?

*Засыреть*—завільжэць.

*Ветренность*—пустата.

*Дотекать*—даплываць.

*Богомолка*—багамоліца.

І г. д. і г. д. Без канца. Тут і няўдалыя (з вышэйадзначанае сэрыі) пераклады і пераробна «беларускі» манер, каб было не па расійску, хоць і не па беларуску. Тут і наватворы...

Укладчыкі ў прадмове зрабілі заяву, што яны наватвораў імкнуліся ўнікаць. Але, на вялікі жаль, слова ня спраўдзілі і далі прыклады наватвораў крайняе неэстэтычнасьці.

*Влюбчивый*—кахлівы (!!!), занятлівы (?), вабкі (!!!)

*Наследник*—спадкаемец (!).

*Живодёрня*—скурадзёрня, гіцлоўка...

І г. д. і г. д.

Нам здаецца, што ўкладчыкі тут перастараліся. Ёсьць апаска, што пасьля яшчэ пары—другое такога слоўніковага мудрагельства з беларускае мовы высмыкаюць астатнія духі і будзе яна на радасьць усім нашым «антышавіністым» сапраўды ня мова, а „мёртвы язык“. Трэба б параіць на выпадак складаньня новае рэдакцыі слоўніка больш пакідаць супроць расійскіх слоў пустых мест. Гэта было б і разумна і сумленна—не знайшлі укладчыкі належнага слова і годзе, што папішаш з каханаю бядою. А ўжо голае месца напэўна ня пуставала-б доўга. Хто-небудзь ці ў рэцэнзіі, ці ў допісу ў слоўніковую камісію запраэктаваў бы належнае і—можна загадзя на гэта спадзявацца—надзвычайна трапнае слоўца з нороднага хадзячага слоўніка. А калі б і гэта не адбылося б, то пісьменьнікі б утварылі патрэбнае слова. Гэта іх справа—усё ж яны больш, як хто, чулыя да жыцьця мовы,—а ня ўкладчыкі слоўніка. Справа ўкладчыкаў быць сумленнымі рэгістратарамі, чаго С. Некрашэвіч і М. Байкоў ня выпаўнілі, падаўшы слоўнік свае ўласнае мовы, а не агульна-беларускае—ці то жывое, ці то літаратурнае.

Нядобрую паслугу беларускай мове зрабілі ўкладчыкі і тым, што ўціснулі нагальна ў яе склад некую колькасьць чужамоўных і непатрэбных ёй слоў, як: дылда, бажаць, бяда (двуколка) і іншыя. К слову тут сказаць—бядою каля Порхава (!) завецца і ня звычайная двуколка, а старадрэўні славянскі воз, які складаецца з перадка-двуколкі і прымайстрованага да яе полаза з сукамі. З цягам часу з гэтага возу тэрмін «бяда» пашырыўся ў Расіі і на звычайныя двуколкі. Ну то тож у Расіі. Дык і места тэрміну «бяда» у расійскім слоўніку. Па нашаму, калі ўжо беларусізаваць было для двуколкі чужамоўную назву, то лепш за ўсё тут падыходна слова „арба“. Без яго ў беларускай мове ўсёроўна не абыдзешся—раз. А падругое, і вядомасьцю большаю-меншаю на Беларусі яно ўжо ўпіраецца трохі ў нашу мову. Але ж ўсяго лепш—двуколка. Прыняты ж укладчыкамі таго ж складу тэрмін аднаколка.

Урэшце спынімся на апошняй збоку слоўнага матар'ялу хібе слоўніка—на вульгарызмах. Проста дзівіцца прыходзіцца, чаму гэта беларуская мова ў беларускіх практычных (а слоўнік С. Некрашэвіча і М. Байкова не акадэмічны) слоўніках атэстуецца спэцыяльным наборам вульгарызмаў. Мы бяром толькі некалькі іх па чарзе спачатку слоўніка і хочам паказаць, што без вульгарызмаў беларуская мова вельмі лёгка і латва абходзіцца.

Прыклады:

1. *Астма*—дыхавіца, удушша (харошае, народнае слова!) Дыхавіца, як вядома, у каня бывае і адпавядае гэты бела-

рускі тэрмін расійскаму «запал».

2. *Баба*—пупарэзка.

На што гэта? А ці невядама ўкладчыкам такое места з духоўнага канту: „Успамяні, госпадзі, бабку-прыемку, што пры радох прымала, бруд ад цела ачышчала, матцы на ручкі здавала").

3. *Беременная*-чараватая.

Тэрмін „чараваты" ня будзе вульгарызмам да каня, нават з сякою-такою нацяжкаю дзеля чалавека. Але ў дачыненьні да жанчыны, якая носіць дзіця ў сабе, ужываецца такі выказ: баба ўцяжку, адсюль агульна прыняты тэрмін—цяжарная.

Назіраюцца ў слоўніку яшчэ хібы і ў карыстаньні морфолёгічнымі элемэнтамі мовы. Прыкладам з прыстаўкаю *папа*:

У слоўніку (стар. 62-63) маем:

*Выбраться много раз*—папав[ы]брацца.

*Выбросить много*— папав[ы]кідаць.

*Выводить много* — папав[ы]вадзіць.

Як вядома, прыстаўка *папа* належыць у беларускай мове да дзеяслова шматразовага трываньня, ды ў мове выражае доўгую паўторнасьць дзеі, ды яе ціхую павольнасьць, што як раз супроцьлежна дынамічным дзеясловам з паднацісксным канчаткам *ац[е]ць*: грымац[е]ць, стукац[е]ць, жухац[е]ць.

Ёсьць яшчэ ня вельмі трапныя, а то і камічныя формы:

*Баронесса*—баран[о]ва.

*Аптекарша*—аптэкарыха (замест аптэкарка, як дакторка, фэльчарка, акушэрка).

Другая справа такая форма: *Альпиец*—альпеец.

На манер: *россиец*-расеец.

Але ж тады трэба было б пісаць і аўстрэец, італеец. Гэта было-б нават больш нацыянальна, хоць форма і старая, малаўжытная цяпер.

З правапісам прынцыповасьць у некатарых выпадках недатрымана. Прыкладам:

*Галоп*—галёп.

*Галун*—галун.

*Платон*—Плятон.

*Аллах* – Алах.

І поруч.: *бэстыя* (слоўка, слоўка то якое, язык ломіцца), *істэц* (таго ж складу)...

Гэта форменная гаркавасьць і да таго ж страшна непатраўная гаркавасьць нашага правапісу. І ўкладчыкі тут зрабілі правільна, трошкі адхіліўшыся ад правапісу ў напісаньні слоў *аллах* і *галун* (хоць на Случчыне і можна чуць: „семежаўкі шапкі з кгалёнамі насяць"). Наогул жа з правапісам нам трэба пайсьці насустрач народнай фонэтыцы, як мы ўжо даўно ідом насустрач народнай этымолёгіі, а часам і з вялікаю ахвотаю падхопваем элемэнты яе.

Агулам жа кажучы, разгляд слоўніка застаўляе зрабіць такі вывад, што слоўнік складзен з усіх бакоў няўважліва і лічыць яго за хоць бы які дапаможнік пры вывучэньні беларускае мовы нельга. Такой асобе ён толькі засее ў разуменьні беларускае мовы

вялікую блытаніну, а нават і непашаннасьць да яе, як да блытанае, ня здатнае да дакладнасьці азначэньняў.

Таму, прыходзіцца шчыра пажадаць хутчэйшага выданьня новае рэдакцыі слоўніка, дзе б ён ужо ня быў толькі сырым матар'ялам, сярод якога не спаткнецца толькі асоба, спрактыкаваная ў беларускай мове.

Пры перакладаньні слоўніка надалей пажадана, каб укладчыкі зрабілі ў мэтадзе ўкладаньня наступныя зьмены:

1. Каб словы — адназьмесьнікі ў расійскім тэксьце былі разгледжаны за адным захадам; прыкладам:

*Скатерть* і *настольник*.
*Вовколак* і *оборотень*.
*Длинноногий* і *долгоногий*.
*Ровесник* і *однолеток*.
*Калита* і *мошна*.

Так сама і іншыя.

Гэта дасьць наступныя вынікі: зьменшыць лік слоў, да якіх патрэбна падабраць беларускія адназьмесьнікі; пакажа, што многія словы забрылі ў расійскі альфабэт з суседніх моў, а нават часта і з беларускае (*настольник*, *вовколак*-правапіс які!) і ў расейскай мове няўжытны, за тое могуць быць дакладным беларускім адзназьмесьнікам да свае расійскае пары, што вельмі і вельмі зьменшыць блытаніну ў слоўніку.

2. Каб словы агульна-беларускія, шырокаўжытныя мелі адно месца і пры тым самае дакладнае ў слоўніку.

3. Калі ў літаратуры беларускай спрачаюцца за адно месца два ці некалькі слоў, пішуцца яны поруч.

Прыклады:

*Получить*—атрымаць, палучыць.

*Шаг*—крок, шаг, сіг, сяг.

*Желудок*—кіньдзюк, шлунак трыбух, каўбух.

4. Словы, блізкія па значэньню, але не адназьмесьнікі і не дыфэрэнцаваныя, пажадана аб'яднаць у групы, выпісваючы з аднаго боку расійскія словы, а з другога беларускія.

5. Словы з неаднолькавым правапісам:

*Вдвое*—удвой, удвая, в[о]двай.

*Совсем*—зусім, сусім, саўсім.

6. Не пасаромяцца пакінуць супроць некатарых расійскіх слоў пустыя месты, каб запоўніць іх у выніку крытыкі слоўніка, што можна будзе зрабіць выданьнем дадатковага слоўніка.

7. Калі у ўклакчыкаў запраэктавана будзе слова, няпэўнае па зьместу і духу адпаведнаму расійскаму слову, яго надрукаваць, але адзначыць значком сумненьне саміх укладчыкаў.

8. Асьцярога з новатворамі, якія трапілі ў першае выданьне слоўніка...

9. Слоўнік дыфэрэнцаваць згодна з запатрабаваньнямі жыцьця на наступныя:

а) слоўнік дакладное (дзелавое) мовы (для патрэб журналістыкі, канцэлярый і навукі).

б) зборнік беларускіх ідыя-

тызмаў ці неграматычных сказаў.

в) зборнік вобразнае (поэтыцкае) мовы.

Ува ўсялякім выпадку ні ў якім разе не мяшаць гарох з капустаю—мову прыкладную і вобразную, што асабліва шкодліва адбілася на толькі што разгледжаным слоўніку.

Самы слоўнік выпусьціць не як камэрцыйнае выданьне, а як навукова-дасьледчае ў абмежаваным ліку, каб пасьля выпраўкі і перараобу ўжо пусьціць ува ўсеагульны ўжытак. Баяцца, што гэта грошай каштаваць будзе, не прыходзіцца. Дзе п'юць, там і ліюць. А каб стварыць належны грунт для культуры, чаго у нас як раз і хібіць, дык тысячы — другое не павінна быць шкода.

***Р. Горбах.***

---

**„Аршанскі Маладняк“** *Красавік 1928 г. Стар. 111. Цана 50 кап.*

Вось перад намі № 7 часопісі „Аршанскі Маладняк“. Назва „часопісь“—рэч даволі адцягненая, бо больш-менш сталай, рэгулярнай пэрыодычнасьці ўстанавіць нельга. Так № 7 вышаў праз 9 месяцаў пасьля № 6. Таму больш правільным былоб-б адкінуць назву „орган“ адкінуць нумарацыю і замест часопісу выдаваць альманахі.

Гэты нумар з тэхнічнага боку стаіць вышэй за № 6, які ўжо меў пахвалы за тэхнічныя якасьці. Выданы № 7 „Аршанскага Маладняка“ вельмі прыгожа. Тут, сапраўды, аршанцы маюць посьпех, ідучы навыперадкі з „Маладняком“. Тэхнічныя магчымасьці друкарні Акадэміі ў Горках скарыстаны як найлепей.

Што да зьместу, дык у параўнаньні з № 6 тут менш ужо можна заўважыць вершаў, якіх не зьмяняе час—вершаў, апяваючых пэйзаж, малюнкі прыроды ў разрэзе асабістага ўспрыйманьня. Але да іх шэрагу ўсё ж можна аднесьці „Помню вечар“ Калугіна, „Ночку“ Максімава, „Сяўбу“ Ганны Сапрыкі.

Зусім іншае трэба сказаць пра вершы А. Вечара. Тэматыка іх сучасная, цікавая. З абурэньнем ён піша ліст да таварышоў:

„Дык як-ка так?
Лявон, няўжо само
табе у галаву прышло такое
глупства,
што ты, батрак,
пакінуў камсамол,
паміж завулкаў на рагу стаў“
(„Недапісаны ліст“)

Бо хоць:

„У нас ня ўсё на вёсцы—дабрыня.
Таму і чуткі поўзаюць,
як зьмеі...
Але, каб ты тугою набрыняў—
мой дарагі,
ніяк не разумею“.
(Там-жа)

І калі:

Разгорне нехта
камсамольскі сьпіс
і „перарастак“ стане поруч з імем.
Няхай! Няхай!
Калі мой дух ня сьпіць,
я буду з партыяй на зло суровым зімам“

Бо ён упэўнены, што:

„Краіна наша ўся ідзе к вясьне,
галоп зьмяніўшы на трывалась рысі,
і кожны дзень становяцца ясьней
другіх людзей і будучыны рысы".

І калі ён скончыць вышэйшую навучальную установу, тагды ён разам з другімі прыйдзе на вёску:

„пабудаваць такія гарады,
якіх ня бачыла жывое вока".

Такой жа бадзёрасьцю, імкненьнем пазнаць лепшае ў жыцьці, бо „імчацца дні на звонкіх капытах... Я не магу адным і тым застацца"—прасякнуты і другі верш Вечара „З кнігі «Мінулае».

Так сама Юлі Таўбін і Я. Гоманаў свае лірычныя перажываньні зьвязваюць з сучаснасьцю, не зачыняюцца ў шкарлупку нутраных асабістых настрояў. Поэма Аляксеява «Хатнярка Лёнька», тэмай для якой паслужыў трагічны канчатак каханьня хатняркі Лёнькі і парабка Алеся, якога загубіў праз зайздрасьць кулак Янка, цікава спробай аўтора стылізаваць апошні разьдзел пад народную творчасьць.

Ня гледзячы на сваечасовыя папярэджаньні крытыкаў, Прыбыткоўскі працягвае свае ня вельмі ўдалыя шуканьні як у галіне формальнай так і вобразнай, і ў апошнім нумары «Аршанскага Маладняка» абдарвае нас такім „трапным" выразам, як «шэрая кроў» (старон. 22), формальныя ж шуканьні дасягнулі «звыш-Лефаўства»:

„Ма-
мач-
ка
ці-
хань-
ка
хустку на плечы".

Або:

„У коміне завеі...
сплю-
шчы-
лі-
ся векі.
Сон...
зара...
дзень—
бон-
дар і-
дзе
„Бон-
дар,
бон-
дар
я!.. (стар. 24).

Што там граматычныя нормы, калі нам падабаецца перанос слова; «і—дзе» (?!) А пекната затое якая! Проста так і просяцца на апэрацыю «аля-Прыбыткоўскі» вядомыя радкі Жылкі:

„Ня-
ма
зба-
вень-
ня
а—
проч
пе-
кна-
ты"...

Проза зборніку прадстаўлена даволі цікавым апавяданьнем Гаўрука „У маткі за пазухай" з жыцьця гарадзкога мяшчанства, тэмы мала закранутай у нашай літаратуры; а так сама эскізам Каваля «У

супрадках». Гаўрук аздобіў сваё апавяданьне няўдалым вобразам: «У каморы было так вузка, як у гіпсе» (?!)

«Хоцімка» М. Г.—проста падарожныя ўражаньні.

Цяпер адчуваецца вялікі голад на рэпэртуар для беларускае сцэны. Гэта дало штуршок нашым філіям да спробы сваіх сіл у драматургіі. Вось і тут мы бачым «п'есу ў аднэй дзеі» Яз. Віра „Панскае права“. Дзея адбываецца ў Заходняй Беларусі. Гэты драматычны абразок лёгка і карысна скарыстаць на вясковай сцэне. Псуюць толькі тыя мясьціны, дзе сяляне і сялянкі вядуць размову з панам. Не падобна да праўды сцэнка жартаўлівых размоваў з панам, нават з дачай князю фіг. Пасьля такой «клясавай барацьбы» нечаканым выходзіць канец са зьяўленьнем паліцэйскіх, забойствам рэволюцыянэра Яся. Ня так трэба паказваць барацьбу ў Заходняй Беларусі, не жартуючы там даюць фігі панам... Залішні і выразы на нямецкай мове эканома. Яны ўскладняюць выкананьне ролі і не зразумелы для публікі, калі ў кніжцы выразы гэтыя растлумачаны, дык ня зробіш жа гэтага пры пастаноўцы п'есы! А іх зусім беззаганна можна было ўнікнуць.

Як і ўсякі сталы часопіс «Аршанскі Маладняк» мае крытычна - літаратуразнаўчы аддзел, у якім зьмешчаны: «Лірычны фэномэн»—Бухаркіна, «Бядуля пасьля Кастрычніка» (гісторыка-літаратурныя нататкі)—М. Гарэцкага і «Індывідуальнасьць і сучасная літаратура—Прыбыткоўскага.

Есьць яшчэ ў зборніку аддзел «Народная творчасьць і і мова», цікавы сваімі матар'яламі, але ім мейсца не ў літаратурным альманаху. Дыскусію аб словах, якую пераняў «Аршанскі Маладняк» ад «Узвышша», трэба было б перанесьці ў «Маладняк». Добрыя пачынаньні пераймаць ня грэх.

Аддзел «Бібліаграфіі» пастаўлены добра.

Агульнае ўражаньне ад зборніка прыемнае: ня гледзячы на заганы відаць вялікая праца філіі. А ў працы без памылак ня бывае. Трэба шчэ раз параіць адмовіцца ад маніі мець «орган», падтрымоўваючы яго штучна, а перайсьці да непэрыядычных альманахаў. Такія ж аддзелы, як «Народная творчасьць“, «Мова», а таксама і палемічныя артыкулы перанесьці ў «Маладняк». Зборнікі будуць шмат каштоўнейшымі, выйграе і ўся арганізацыя.

*Хв. Шынклер.*

---

**Васіль Каваль. На загонах.** Апавяданьні. *Б. Д. В. Менск, 1928 год.*

«На загонах»—другі зборнічак Васіля Каваля, які адрозьніваецца ад першага большай сталасьцю і вытрыманасьцю.

Самае вялікае апавяданьне «На загонах» малюе здарэньне ў вёсцы Лугінах далёка 'шчэ да рэволюцыі. Галоўная дзея-

чая асоба апавяданьня — Максім, бедны і хворы селянін, які б'ецца, як рыба аб лёд на сваёй зямліцы гаротнай. А зямля трымае моцна чалавека і прыходзіцца гараваць з-за яе. «Звыкся і зрosься лугінаўскі мужык з зямлёю — сваёй карміцелькай адзінай — ды часта душыць жыцьцёвы прыгнёт».

Жыве чалавек, працуе да сёмага поту, а прыходзіцца аддаваць усё, бо шмат паноў і начальства сядзіць на карку сялянскім. Мае Максім брата Андрона. Андрон — „жылісты мужык“, граматны, які часам вучыць сялян глядзець на сьвет і разумець яго. Браты на «прымеце» у начальства, бо адмовіліся падаткі плаціць, ды Андрон яшчэ «муціць» народ. Вось і данёс вясковы стараста Макей каму патрэбна на іх. Узялі Максіма, узялі неспадзеўкі, зусім нявіноўнага селяніна за нсплацеж падатку.

І калі стаяў Максім перад земскім — толькі тады зразумеў усю крыўду, а, застаўшыся адзін — на — адзін з Макеям, пырнуў яго нажом і ўцёк. Уцёк і замучыла совесьць: за што ўбіў чалавека. Ня вытрымаў, узяў ды павесіўся — усё роўна прападаць. Даведаліся аб гэтым сяляне, узьнялі бунт, расправіліся з ураднікам. А потым Андрона ўзялі...

Просты зьмест, прасякнуты глыбокім спачуваньнем да гаротных, робіць апавяданьне надзвычайна моцным. Другое — „Дзед Піліп“ — хутчэй абразок, чымся апавяданьне, малюе старога дзеда Піліпа, які жыве ўспамінамі, які вельмі любіць свайго ўнука, юнага піонэра. Дзед памірае ў хлеве, ратуючы гэтакім чынам каня-друга ад ваўкоў. Тутака сужэту амаль што няма, але ёсьць затое кавалак жыцьця, ёсьць тып, які любоўна малюецца Кавалём.

Яшчэ ёсьць у зборніку творы, якія бліжэй падыходзяць да сучаснасьці, гэта — «Сіла Зямлі», «Ноч» і «Жыцьцё і сонца». У апавяданьні «Ноч» ёсьць дзьве, роўналежна распрацаваныя тэмы: апавяданьне ўдзельніка барацьбы з бандытамі — Алісея і абмалёўка гэтага чалавека, як вясковага барацьбіта за культуру, за новае. Аўтар імкнецца да сучаснасьці, да абмалёўкі сучаснай вёскі. Казка «Сіла зямлі» цікава ня столькі сваім сужэтам — сколькі стылем.

Нарэшце — вершы ў прозе — «Жыцьцё і сонца“ — гэта гымн індустрыялізацыі вёскі, гымн змычкі гораду з вёскай.

Стылістычна зборнік гэты ўяўляе цікавае злучэньне фольклёру з літаратурнай формай (пераважна-навэляй).

Мова ў Васіля Каваля нагадвае народную: «Адзін з дванаццаці месяцаў — ясны, як сонца, халодны, як восенскі вецер»... і г. д. (стар. 7). Нагогул, шырокае ўжываньне народных элемэнтаў даводзіць аб тым, што галоўнай крыніцай творчасьці Васіля Каваля зьяўляецца вёска, з яе радасьцямі і горам... Гэта даводзіць і тое, што некаторыя малюнкі гораду («Жыцьцё і сонца»)

Кавалю не ўдаюцца. А самі вершы ў прозе—«Жыцьцё і сонца»—самая слабая рэч у зборніку. Няма ў іх той непасрэднасьці, сьвежасьці, якія прымушаюць лічыць Васілія Каваля таленавітым маладнякоўцам.

Наогул, «На загонах» робіць прыемнае ўражаньне. Каштоўным зборнік зьяўляецца таму, што аўтар цалкам у сучаснасьці, таму, што ў ім Васіль Каваль адыходзіць ад душыўшага раней рамантызму.

*Б. М.*

---

**Л. Родзэвіч. Рэволюцыйным шляхам.** Апавяданьні з жыцьця Заходняй Беларусі. *Б. Д. В. Менск 1928. Стар. 94, цана 55 к.*

Жыцьцё Заходняй Беларусі, змаганьне нашых братоў-беларусоў, якія знаходзяцца пад абсацам польскага пана—окупанта, за свае чалавечыя правы—блізкі і зразумелы сэрцу беларуса-грамадзяніна вольнай Савецкай Беларусі. Вось чаму Заходняя Беларусь—багатая і ўдзячная тэма для нашых пісьменьнікаў. Але шырокіх палотнаў з жыцьця Заходняй Беларусі мы яшчэ ня маем, мы бачым пакуль што невялікія эскізы. Шэраг такіх эскізаў—кароценькіх апавяданьняў і дае нам кніжка Родзэвіча. Кніжка апавядае нам аб жыцьці селяніна на „крэсах усходніх“, якое праходзіць у барацьбе з польскім поліцэйскім, асаднікам.

Аўтор карыстаўся ў пераважнасьці апісальным мэтадам, дзякуючы чаму адчуваецца некаторая нацягненасьць і штучнасьць фабулы, даходзячая да таго, што зводзіць некаторыя апавяданьні да простай, мала ўплывовай агіткі („Окупанты“, „Крывавая летапісь“). Там жа, дзе аўтор у меру ўжываў апісальны мэтад, больш імкнуўся разгарнуць дзею, там мы бачым сапраўды мастацкія творы, якія чытаюцца лёгка, з зацікаўленасьцю („Асаднік“, „Нянавісьць“, „Дзямід і Аўдоцьця“.

У мове Родзэвіча можна сустрэць полёнізмы — „вымančыць“, русіцызмы — „аставацца“, „пісьмо“, „шаг“, „дакажаць“ (докажет) і назіраецца нейкая неахайнасьць да напісаньня слоў—у адным мейсцы „кумпанія“, у другім „кампанія“.

І ўсё-ж кніжка Родзэвіча будзе мець посьпех, знойдзе свайго чытача, бо тая зацікаўленасьць, якая існуе да яе тэматыкі, мімаволі прымушае забывацца на тыя шурпатасьці, якія месьцяцца ў кніжцы.

*Сяргеяў.*

# Маладнякоўская хроніка.

**У Бабруйскай філіі „Маладняка“.**

**Склад філіі**. Да 1928 году ў філіі налічвалася 6 таварышоў: Міхась Лынькоў, Мікола Мікіцін, Арына Глінская, Сьцяпан Голуб, Янка Хмель і Хведар Бужан.

З гэтых таварышоў двое працуюць па за межамі акругі.

У 1928 годзе склад філіі пашырыўся з 6 чалавек да 11-ці. Прыняты новыя сябры аб'яднаньня: Вільгельм Гараўскі, Рыгор Бахта, Барыс Мікуліч, Хвядос Шынклер і Апанас Атава. Акрамя гэтых таварышоў шмат рабочае і сялянскае моладзі падтрымоўваюць сталую сувязь з філіяй і працуюць у літаратурных гуртках імя „Маладняк“, арганізаваных па ўсіх кутках акругі; такіх гурткоў налічваецца каля дзясятку.

**Выдавецкія справы.** Сябры філіі друкуюцца ва ўсіх беларускіх часопісах і газэтах.

Філія сумесна з рэдакцыяй газэты „Камуніст“ наладзіла выданьне штомесячнага літаратурнага дадатку да газэты пад назвай „Вясна“. Дадатак выходзіць памерам у адзін друкаваны ліст.

Некаторыя літаратурныя гурткі выдаюць свае рукапісныя часопісы. Найбольш рэгулярным з іх зьяўляецца часопіс Рагачэўскага літгуртка пры пэдтэхнікуме — „Рунь“.

**Акруговы сход.** У месяцы сьнежні бягучага году бюро філіі мяркуе правесьці акруговы сход маладнякоўцаў з удзелам прадстаўнікоў ад усіх літаратурных гурткоў акругі. Галоўнае пытаньне, якое будзе абмеркавана на сходзе, гэта — творчыя шляхі пролетарскай літаратуры і творчая праца сяброў філіі.

---

**У „МАЛАДНЯКУ“**

**Організацыйныя пытаньні:**

7-га кастрычніка адбыўся пленум ЦБ Маладняка з наступнай павесткай дню:

1) Аб зьезьдзе БелАП'у,

2) Аб сьвяткаваньні пяцігодзьдзя „Маладняка“,

3) Аб праверцы складу арганізацыі.

Зьезд БелАП'у мяркуецца адбыцца 25-га лістапада, дзе

будуць разгледжаны пытаньні:

1) Справаздача ЦБ і рэвізыйнай камісіі:

2) Справаздача нацсэкцый.

3) Творчыя шляхі пролетлітаратуры—даклад прадстаўніка ВОАП'а з садакладам прадстаўніка „Маладняка“.

4) Становішча марксыцкай крытыкі ў беларускай літаратуры.

5) Творчасьць „Маладняка“ ў сувязі з 5-годзьдзем.

6) Сучасныя плыні ў „Маладняку“ і ў беларускай літаратуры.

7) Стварэньне БелАП'у.

8) Выбары праўленьня БелАП'у.

9) Іншыя.

---

## НОВЫЯ ГУРТКІ.

У Барысаве, пры фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна“ арганізаваны гурток з рабочай моладзі: там-жа, пры газэце „Чырвоны Бярэзінец“ выходзіць літстаронка (раз у месяц), дзе зьмяшчаюцца творы сяброў гуртка.

Новыя літаратурныя гурткі зарганізаваліся пры Менскім Рабфаку, пры Полацкім пэдтэхнікуме і Полацкай лясной профшколе.

## МАЛАДНЯКОЎСКІЯ НАВІНЫ.

**Максім Гарэцкі** піша кніжку аб сучасным Маладняку (арганізацыя, творчасьць, плыні, шляхі працы).

---

Славянская Бібліятэка ў Празе наладзіла кнігаабмен з „Маладняком“.

---

У апошні час завязана цесная сувязь з Украінскай літаратурай у форме перакладаў, інфармацый і г. д.

---

## НОВЫЯ ЗБОРНІКІ.

За 1928 год вышлі наступныя зборнікі сябраў „Маладняка“.

**М. Лынькоў**—„Апавяданьні“.

**М. Нікановіч**—„Крык працы“ (апавяданьні).

**В. Каваль**—„На загонах“ (апавяданьні).

**А. Моркаўка**—„Дым жыцьця“ (вершы).

**Ю. Гаўрук**—„Кветкі з чужых палёў“.

---

## ПРЫНЯТЫ да ДРУКУ ў БДВ:

**М. Нікановіч**—„Дзьве баразны“ (апавяданьні).

**М. Хведаровіч**—„Настрої“ (вершы).

**А. Звонак**—„Буры ў граніце“ (вершы).

**А. Салагуб**—„Вершы.

---

## ПІШУЦЬ і РЫХТУЮЦЬ ДА ДРУКУ:

**В. Каваль** рыхтуе да друку зборнік апавяданьняў „Жніво“.

Я. Ліманоўскі друкуе ў „Полымя“ аповесьць „Над абрывам“.

**Р. Мурашка** здае аповесьць „Пытаньні“ і піша роман „Сын“.

**М. Нікановіч** піша роман „Усьмешкі зарніц“.

**М. Лынькоў** падрыхтаваў да друку другі зборнік апавяданьняў.

**А. Вечар** падрыхтаваў да друку зборнік вершаў „Кола дзён“.

ЗЬМЕСТ.

—·—

## ПАМЫЛКІ ДРУКУ

(самыя буйныя)

| Стар. | Радок | | Надрукавана | Павінна быць. |
|---|---|---|---|---|
| 3 | 9 | зьнізу | крута-борым | крутаборым |
| 11 | 4 | „ | нягод ых | нягодных |
| 12 | 20 | „ | міты говы | мітынговы |
| 14 | 14 | „ | Клін | кпін |
| 17 | 5 | зьверху | алешавымі | алешкавымі |
| 17 | 14 | зьнізу | тры дні | тры тыдні |
| 20 | 21 | „ | працу | працу |
| 22 | 14 | зьверху | Тадэйкай | Чэнчыкам |
| 23 | 22 | „ | ё | ён |
| 31 | 2 | зьнізу | Местечка | Мястэчка |
| 32 | 10 | зьверху | бячылі | бачылі |
| 33 | 14 | „ | пакупіць | пакпіць |
| 36 | 10 | зьнізу | Падмачыла | Падскочыла |
| 39 | 21 | „ | по | па |
| 41 | 25 | „ | дагадкі | здагадкі |
| 41 | 20 | „ | калодзьзя | калодзьдзя |
| 42 | 23 | „ | праніцалі | працінaлі |
| 43 | 3 | „ | расьбяромся | разьбяромся |
| 43 | 7 і 8 | „ | мол | моў |
| 45 | 13 | зьверху | асьфальце | асфальце |
| 48 | 11 | „ | ям | як |
| 48 | 20 | зьнізу | зрезваецца | зрэзваецца |
| 48 | 14 | „ | а кал | а калі |
| 67 | 6 | „ | хлкба | хлеба |
| 69 | 12 | зьверху | земля | зямля |
| 86 | 2 | „ | наказала | не казала |
| 97 | 6 | зьнізу | моцню | моцную |
| 114 | 1 | „ | пад‘ёсьці | пад‘есьці |
| 123 | 1 | „ | сырой | І сырой |
| 128 | 17 | „ | ўклакчыкаў | ўкладчыкаў |

Акрліт (Бел) № 1079 Заказ № 1947